ISSN 0234—1387

12


САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ: ПЕРШЫЯ КРОКІ


«ДЗЕЦІ» ЗАСТОЙНАГА ЧАСУ

РЭТРАГРАД У ПАШАНЕ? 

СНЕЖАНЬ

# крыніца

1988

ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

крыніца

№ 12
1988

ШТОМЕСЯЧНЫ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС
ЦК ЛКСМБ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Мінск, «Полымя»
Выдаецца са студзеня 1988 года



Выдаецца на рускай
і беларускай мовах

Рэдакцыя прымае матэрыялы, аб'ём якіх не перавышае 25 старонак машынапісу праз два інтэрвалы. Рукапісы рэдакцыя па пошце аўтарам не вяртае.

ПІШЫЦЕ:
220807
г. Мінск, ГСП,
вул. Кісялёва, 11

ЗВАНІЦЕ: 36-61-42, 36-61-13,
36-60-71

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю
Здадзена ў набор 14.10.88.
Падпісана да друку 18.11.88.
АТ 08788.
Фармат 60×90 1/8.
Афсетны друк.
Ум.-друк. арк. 5,5.
Ум. фарб.-адб. 16.
Ул.-выд. арк. 8,5.
Зак. 1256.
Тыраж 40 440 экз.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Адрас: 220041, г. Мінск,
Ленінскі праспект, 79






# ПЕРШЫЯ КРОКІ РЭСПУБЛІКІ

Напярэдадні Вялікага Кастрычніка У. І. Ленін, крытыкуючы вялікадзяржаўную шавіністычную палітыку Часовага ўрада, у працы «Ці ўтрымаюць бальшавікі дзяржаўную ўладу!» пісаў, што толькі пралетарыят здольны весці такую палітыку па нацыянальным пытанні, якая на справе забяспечыць «неадкладнае аднаўленне *поўнай* свабоды для Фінляндыі, Украіны, Беларусі, для мусульман і г. д.» (Поўны збор твораў, т. 34, с. 299).

Пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі ў дзейнасці партыйных і савецкіх органаў Заходняй вобласці выявілася недаацэнка беларускага нацыянальнага руху. Усебеларускі з'езд, скліканы ў Мінску ў снежні 1917 года, паводле рашэння Савета Народных Камісараў Заходняй вобласці, быў распушчаны. Наконт гэтага В. Г. Кнорын, адзін з тагачасных кіраўнікоў бальшавіцкай арганізацыі Беларусі, пісаў: «Нягледзячы на тое, што з'езд быў скліканы правасацыялістычнымі беларускімі элементамі, на ім была даволі моцная левая фракцыя, і пры ўмелым партыйным кіраўніцтве, магчыма, удалося б з'езд раскалоць і яго рэвалюцыйную частку аб'яднаць пад савецкім флагам. Але гэтага не было зроблена...» Пытанне аб разгоне Усебеларускага з'езда дыскутавалася на III Усерасійскім з'ездзе Саветаў. 25 студзеня 1918 г. група «сацыялістаў Беларусі» выступіла з заявай, у якой абвінавачвала СНК Заходняй вобласці ў гвалтоўным разгоне з'езда, скліканне якога было дазволена Наркомам па справах нацыянальнасцей І. В. Сталіным. У гэтых варунках і распачынаў сваю дзейнасць Беларускі нацыянальны камісарыят. У яго стварэнні важную ролю адыгралі Беларуская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя і Петраградская арганізацыя Беларускай сацыялістычнай грамады. Многія члены гэтых партый на працягу 1918 года ўвайшлі ў беларускія секцыі РКП(б).

Падаем некаторыя дакументы тае эпохі.


Беларуская Соцыялістычная Грамада.
ПЕТРАГРАД.
[illegible]
4 декабря 191 7 г.
№ [illegible]

УДОСТОВѢРЕНІЕ.

Петроградскій Комитет и Центральный Комитет Бѣлорусской Соціалистической ГРАМАДЫ сим удостовѣряют, что тов. Д. Ф. ЖИЛУНОВИЧ избран делегатом в состав Петроградскаго Совѣта рабочих и солдатских депутатов от Бѣлорусской Соціалистической ГРАМАДЫ.

за Предсѣдатель Петроградскаго Комитета [signature]
Член Центральнаго Комитета [signature]
Секретарь [signature]

### Сведчанне сучасніка

**Газета «Бацькаўшчына» (Гродна), 21 сакавіка 1919 г.**

*Павэдлуг вестак, якія мы здабылі ад паадзінокіх беларусаў, каторыя ў Маскве былі сведкамі справы апублікавання незалежнасці Беларусі, глаўным ініцыятарам гэтага быў Ленін. Не маем ніякіх доказаў, каб Ленін гэта зрабіў з якой крывой мэтай.*

*Як ідэйны сацыяліста, Ленін прызнаваў права незалежнасці Беларусі дзеля таго, што яму ўсё-ж-такі даражэйшы сацыялізм, чымсці русіфікацыя. Загэты час нямецкай акупацыі Ленін цікавіўся беларускім нацыянальным рухам, чытаў усё, што толькі друкавалася аб беларусах. У гэтым памагаў яму Беларускі нацыянальны камісарыят у Маскве, дзе ўсе газеты з Беларусі і Украіны былі перагледжаны, роблены выразкі, пераклады з беларускай мовы на маскоўскую, і ўсё гэта наклейвалася ў альбом з загалоўкам «Белорусский вопрос», а затым пасылалася Леніну для чытання.*

**Раман Суніца (псеўданім Рамуальда Зямкевіча)**

**30 снежня 1918 г.**

**УДОСТОВЕРЕНИЕ**

**БНК удостоверяет, что предъявители сего тт. Жилунович Д. Ф., Чернушевич Д. С., Дыло О. Л., Нецецкий И. С., Рыбак Я. А., Драко-Дракон М. Ф., Червяков А. Г., Казакевич И. Г., Дзейко И. И., Илларионов И. Г., Лагун И. В., Мацкевич Е. П., Крючковский П. Л. и Гриневич А. А. согласно распоряжению Центр. Комит. РКП(б) делегируются в г. Минск с особой миссией.**

**Просьба к военным, гражданским и железнодорожным властям оказывать вышеупомянутым товарищам всяческое содействие.**

**Заведующий Б.Н.К.**
**Делопроизводитель**

Паметка: Для всех тов. получил И. В. Лагун. 30 XII.

## «АСОБАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ У МІНСК...»

З архіва Белнацкома (ЦДАКР БССР, ф. 4, воп. 1, спр. 26, л. 94, 95, 109).

### Са справаздачы пра дзейнасць Цэнтральнага Бюро ЦК(б)Б за студзень 1919 г.

**ОРГАНИЗАЦИЯ ПРАВИТЕЛЬСТВА**

**Центральному Бюро, как высшему партийному органу в Белоруссии, прежде всего пришлось задуматься по вопросам организации новой республики. Первоначальному организационному вопросу было посвящено три заседания, в итоге которых удалось уговориться с группой коммунистов-белорусов, присланных из центра в составе правительства, предназначенного уже Центральным комитетом РКП и его представителем т. Сталиным. Также был намечен состав президиума и управления делами правительства. После этого ночью с 1 на 2 января был опубликован Манифест об образовании Временного Рабоче-крестьянского Советского правительства Белоруссии и решено правительству незамедлительно переехать в Минск...**

По воле народа. Мн., 1988, с. 115.

### Сведчанне гісторыка

*Уже в первой декаде января 1919 г. члены временного правительства Белорусской ССР Жилунович, Червяков, Фальский, Чернушевич, Кваченок и Шантырь в пространном заявлении в ЦК РКП(б) обвиняли облискомзап и обком партии во всех смертных грехах и главное — в стремлении ограничить их влияние в правительстве. «Козни» облискомзапа они усматривали и в том, что он превратил областную конференцию в I съезд КП(б)Б и его именем прокламировали создание Белорусской республики...*

Бугаев Е. Возникновение большевистских организаций и образование Компартии Белоруссии. М., 1959, с. 244.

### Сведчанне гісторыка

**«Правда», 8 ліпеня 1988 г.**

*Часть партийных деятелей, в том числе И. В. Сталин, изначально считали создание независимых национальных республик решением чисто временных политических задач. Они абсолютизировали провозглашенные ранее принципы широкой областной автономии с учетом национальных особенностей. Чтобы не стимулировать так называемые «националистические тенденции», сторонники этих взглядов стояли каждый раз за возможно более крупное территориальное объединение. Конечно, с «учетом национальной специфики». Это выразилось... в отрицательном отношении к Белорусской республике, почти тут же преобразованной в Литовско-Белорусскую...*

### Са звароту ЦК Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Літвы і Беларусі

**1 студзеня 1920 г.**

**Рабочыя, сяляне Беларусі!**

**Сягоння гадавіна вялікага дня, калі мы, скінуўшы ярмо палітычнай, класавай і нацыянальнай няволі, ярмо, якое цягнулі не адзін дзесятак год, пачалі будаваць жыццё савецкага ўкладу.**

**Год таму назад Часовы ўрад Беларусі, які быў выбраны Усебеларускай канферэнцыяй бальшавікоў, звярнуўся да вас з маніфестам, у якім апавяшчаў, што Беларусь насільнікаў і эксплуататараў становіцца Беларуссю рабочых і сялян.**

**Маніфест адкрыў перад вамі новую эру сацыялістычнай будовы Беларусі.**

**Ён клікаў вас на барацьбу за Савецкую Сацыялістычную Беларусь...**

Борьба за Советскую власть в Белоруссии. 1918—1920 гг. Мн., 1971, т. 2, с. 240.

**В. Г. Кнорын у 20-я гады пісаў, што на шлях правільнага вырашэння беларускага пытання Кампартыя Беларусі і Літвы стала ў канцы 1919 — пачатку 1920 года. Менавіта тады ў Мінску пачала дзейнічаць Беларуская камуністычная арганізацыя (кіраўнік — будучы прэзідэнт АН БССР гісторык У. М. Ігнатоўскі), у Смаленску была створана Беларуская рэдакцыйная калегія ЦК Кампартыі (бальшавікоў) Літвы і Беларусі ў складзе В. Г. Кнорына, А. Р. Чарвякова, Ф. Г. Шантыра. У лютым 1920 г. пачала выходзіць газета «Савецкая Беларусь». Пасля вызвалення Беларусі ад белапалякаў 31 ліпеня 1920 г. у адпаведнасці з Дэкларацыяй аб абвяшчэнні незалежнасці Беларускай ССР быў створаны Ваенна-рэвалюцыйны камітэт БССР на чале з А. Р. Чарвяковым. Так пачынаўся новы этап у гісторыі беларускага народа.**

**Віталь СКАЛАБАН**

---

[1] Паводле звестак Дзяржаўнага архіва Смаленскай вобласці, такой вуліцы ў горадзе не было. Магчыма, А. Р. Чарвякоў спыніўся ў Я. Купалы, які жыў на Малой Багаслоўскай, 5.

[2] Так у тэксце.

[3] Е. К.— Канчар Язэп Сцяпанавіч.

[4] Да гэтых таварышаў пазней далучыліся яшчэ два прадстаўнікі ад Невельскага павятовага камітэту РКП — тт. Бейлін і Волкаў і адзін прадстаўнік ад менскай белсекцыі — Клыш. Такім чынам, усяго на канферэнцыі было са станоўчым голасам 20 ч. ад шасці арганізацый. (Заўвага З. Жылуновіча.)



## Змітрок БЯДУЛЯ



# ДЗЕСЯЦЬ ЗАГАДАЎ ДЛЯ ПАМЯЦІ

**Май 1917-га. Ужо тры месяцы як звергнуты царскі рэжым. Былая Расійская імперыя жыла бурлівым жыццём. Выйшлі з падполля, вярнуліся з ссылкі і з-за мяжы рэвалюцыянеры, актывізавалі сваю дзейнасць палітычныя партыі, з'явіліся новыя газеты. Усё больш адкрыта выступалі за свае правы прадстаўнікі нацыянальных меншасцей.**

**У гэты час актывізаваўся і беларускі нацыянальны рух. Перад нацыянальнымі дзеячамі стала пытанне: які шлях выбраць! Аўтаномія ў складзе Расіі ці незалежнасць! І той і другі шляхі павінны былі, на думку беларускай інтэлігенцыі, беларускіх рэвалюцыянераў, прывесці да роўнасці, юрыдычнай роўнасці народаў і моў. Абсалютная большасць гэтых дзеячаў былі сацыялістамі, левымі народнікамі. Ніхто з іх не сумняваўся, што зямлю трэба аддаць сялянам. Пры спрыяльных умовах яны пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі маглі стаць саюзнікамі бальшавікоў, супрацоўнічаць з імі. Чаму гэты саюз не стаў рэальнасцю, чаму значная частка беларускай інтэлігенцыі пасля Кастрычніка адвярнулася ад бальшавікоў і Савецкай улады — тэма асобнае гаворкі.**

**Вернемся ў май 1917 года. 28-га мая ў свет выйшаў першы нумар газеты «Вольная Беларусь». У гэтым нумары былі змешчаны «Дзесяць загадаў для памяці». Ужо тое, што іх дзесяць, прымушае ўспомніць дзесяць біблейскіх прыказанняў.**

**Што ж павінен быў помніць кожны беларус! Учытайцеся ў гэтыя загады, і вы ўбачыце, што гаворка ідзе аб роўнасці народаў і моў, пра іх роўныя правы. Ніякай гаворкі пра выключнасць, пра выключныя правы. «А словы «масковец», «маскаль»!» — спытае хтонебудзь. Усё трэба разглядаць у кантэксце. У той час калі пісаліся «Дзесяць загадаў...», гэтыя словы шырока ўжываліся ў нашай літаратуры і не мелі зняважлівага значэння.**

**«Дзесяць загадаў...» былі падпісаны крыптанімам «Я — р». Гэтак шмат якія свае творы падпісваў Ясакар — Змітрок Бядуля.**

I

Кожын праваслаўны беларус павінен ведаць, што ён не масковец (расеяц), а католік, што ён не паляк. Памятайце, што вы не проста «тутэйшыя людзі», а **беларусы.**

II

Не саромся, беларусе, гаманіць па-свойму — у роднай мове бацькоў і дзядоў сваіх. Шануй сваю мову, шануй свае песні, свае казкі, звычаі і ўсё роднае — гэта спадчына дзядоў і вялікі нацыянальны скарб.

III

Богу маліцца трэба толькі пасвойму, тады вы добра зразумееце тое, што кажаце. Дзяцей вучыць трэба толькі ў роднай мове, тады навука прынясе шмат карысці.

IV

Толькі тады цябе ўсе будуць шанаваць як чалавека, калі сам сябе будзеш шанаваць — калі не адкінеш свайго нацыянальнага ўласнага багацця. А першы скарб нацыянальны — гэта родная мова.

V

Толькі ў роднай, добра зразумелай мове чалавечы розум разівяецца і багаціць родную духоўнасць і эканамічную культуру.

VI

Культура кожнай нацыі паасобку прыносіць карысць агульначалавечай культуры — усяму свету. Таксама і мы, беларусы, прынясём карысць усім людзём на зямлі толькі тады, калі яны ў нас угледзяць нашае асобнае, вытваранае намі, а не пазычанае ў палякоў або ў маскалёў. Фундаментам гэтага ё толькі родная мова.

VII

Быць беларусам — гэта значыць працаваць дзеля свайго краю, дзеля свайго народу і развіваць сваю культуру і штукарства. Таксама шанаваць і ўсе іншыя нацыі— й свайго ня чурайся і чужому навучайся!

VIII

Кожны з нас павінен памятаць і ведаць, што наша беларуская мова не горшая за іншыя мовы, толькі ў нашай мове было наўмысля забаронена пісаць і друкаваць кнігі дзеля таго, каб мы асталіся цёмнымі людзьмі і каб былі парабкамі чужых, болей разумных людзей. Ведайце, што некалькі соткаў гадоў таму назад у нашай мове пісаліся законы ў гэтым краі і друкаваліся розныя святыя і свецкія кнігі.

IX

Той чалавек, што называе нашу мову «мужыцкай», «хамскай» і кпіць з яе, гэта або правакатар, або дурны. Бо мова, у якой гамоніць 12 мільёнаў людзей, мае права быць нараўне з усімі іншымі мовамі і развівацца праз друк і кнігі.

X

Тыя людзі, з палякоў ці з маскоўцаў, што скажуць вам: «Кіньце сваю бедную, неразвітую мову і прылучэцеся да нас — мы вам дадзём усё гатовенькае!» — гэта, памятайце, такія людзі, што найдалей хочуць закабаліць вашую душу — не йдзіце за імі! бо страціце сваё імя і зробіцеся нявольнікамі духа, грунтам для чужых... Толькі тады чалавек вольны — калі мае ўсё сваё.

Публікацыя Алеся Лозкі

# ЛЮСТРАНАЯ ЗАЛА

## ТАКАЯ ВОСЬ ГІСТОРЫЯ...

Не ведаю, ці маю я права пісаць вам, ці не. Пішу, не спадзеючыся на адказ.

Мяне завуць Андрэй. Працую на заводзе радыёінжынерам. Мне 24 гады. Жанаты. Дачка толькі пайшла ў дзіцячы садочак.

Біяграфія мая таксама невялікая. Нядрэнна вучыўся ў школе, займаўся спортам, захапляўся астраноміяй і хіміяй, матэматыкай. У Мінскі радыётэхнічны інстытут пайшоў з цікаўнасці, не маючы аніякага ўяўлення аб радыётэхніцы, вырашыўшы, што гэтая навука будзе самая цікавая.

І што характэрна, так і здарылася. Пасля першай сесіі, зразумеўшы, што хачу вучыцца далей, стаў інтэнсіўна чытаць, і ўрэшце адбыўся пераход колькасці ў якасць — з велізарнае масы інфармацыі ўся гэтая загадкавая і туманная радыёэлектроніка стала раскладвацца па палічках. І дапамог гэтаму выпадак, пра які я хачу расказаць.

Цяпер я адзін з тых, з кім мы з усяе сілы змагаемся,— «нясун». На нашым заводзе выкрылі крадзеж буйной партыі інжынерных прыбораў. Людзей, якія прадавалі і вывозілі, знайшлі і пачалі шукаць тых, каму гэтыя прыборы былі прададзеныя. Я ў той час, калі яны гэтым займаліся, працаваў у цэху на практыцы. Следчыя органы выклікалі і мяне. Але была загваздка. У той час у цэху праходзіла спісанне нягодных прыбораў і вузлоў. І я, працуючы часта ў начную змену, нацягаў дахаты платаў са скрыні, дзе валяліся спісаныя платы. Цяжка цяпер успомніць прычыну гэтага ўчынку: ці то па легкадумнасці (гэта быў 1983 год), ці то паглядзеўшы на «працэдуру» разборкі платаў (выломліванне дэталяў з платаў, з якіх радыёаматар нарабіў бы процьму розных штук), ці то спрацаваў нейкі авантурызм (я пісаў вышэй пра тое, як паступаў у МРТІ). Пасля майго паўтарагадовага сядзення над гэтымі платамі яны сталі патроху ажываць. Паступова я сабраў тры вымяральныя прыборы: генератар, частотамер і вальтметр. У выніку, маючы тэарэтычную падрыхтоўку, атрымаў такое практычнае падмацаванне, што цяпер магу не проста разабрацца ў прычынах няспраўнасці, а і вырашаць некаторыя праблемы. Ёсць нават адно станоўчае рашэнне на вынаходніцтва (аўтарскае пасведчанне яшчэ не атрымаў). А генератар, які я распрацоўваў у якасці дыплома і які збіраюцца выкарыстаць у вытворчасці (дарэчы, вузлы яго я адпрацаваў і манціраваў са сваёй апаратураю дома), можа даваць краіне каля 7 млн. рублёў штогадовай эканоміі пры ўмове выпуску 1000 штук у год. Прайшло каля двух гадоў маёй працы на заводзе, і пададзена 5 рацпрапаноў з эфектам каля 250 тыс. рублёў у год.

Я прашу прабачэння за пахвальбу, гэта, відаць, ад адчаю ці ад таго, што не шанцуе, мяне заносіць у розныя бакі. Мне лягчэй разабрацца ў каляровым тэлевізары ці асцылографе, чым у трох соснах жыццёвых праблем.

Працягваю. У следчых органах, паддаўшыся на правакацыі і размовы пра сацыяльную справядлівасць, я ўсё сумленна і шчыра напісаў і ў той самы дзень прывёз і здаў апаратуру і радыёдэталі (не змог я маніць, проста не ўмею). Пасля нядоўгіх угавораў, бачачы, што я не звязаны з тымі, хто вывозіў прыборы з завода, яны на мяне «плюнулі» і забыліся, перадаўшы, так сказаць, усё, што мелі, у ведамства, ніжэйшае рангам. Следства працягвалася нядоўга. Будучы прафанам ва ўсіх іхніх закавыках, пацвярджаў, што прасілі пацвердзіць, згаджаўся з усім, з чым прасілі згадзіцца, уносіў, што прасілі ўнесці, і ў выніку з жахам убачыў, што выкапаў сабе глыбокую яму. Прычапілі на мяне суму страты 2800 руб. Я ніколі не думаў, што платы, якія я выцягнуў амаль што са смецця, каштуюць такія неверагодныя грошы (у нас з жонкаю на дваіх 400 руб. зберажэнняў). Я ўнёс у касу завода апошнія нашы грошы, а цяпер мне няма чым заплаціць, каб наняць добрага адваката. Дасведчаныя людзі кажуць, што мне свеціць сама меней гадоў пяць. Каб было рублёў на 350 меней, далі б год максімум.

Такая вось невясёлая гісторыя.

Хутка павінен быць суд. Я не ведаю, ці рабіла турма са злачынцаў людзей, але з не зусім сапсаваных зрабіць падонкаў няцяжка. А што будзе з жонкаю і дачкою? Яна ўчора толькі першы дзень выйшла на працу. Больш за 100 рублёў у месяц ёй ніхто не заплаціць (самі, напэўна, ведаеце, як бяруць маладых жанчын пасля дэкрэту на працу). Усё ляціць у прорву, якую выкапаў сваімі рукамі.

А яшчэ сёння даведаўся, што тую кампанію, якая вывозіла прыборы, а іх было на суму больш чым 30 000 руб., адпусцілі дадому, і ўсё заціхла. Прычын я не ведаю, але мяркую, што здарыўся яшчэ адзін з парадоксаў бюракратычнай рэчаіснасці: завод прымаць на сябе віну за тое, што змаглі вывезці прыбораў на такую суму, не хоча, а 2800 руб. заводу — кропля ў моры (адзін толькі цэх, у якім я працаваў, выпускае штодня прадукцыі на суму каля 4,5 млн. руб.). Адзін, яго ніхто не ведае,




Мал. Канстанціна ВАШЧАНКІ

значыцца, няхай пакутуе. А цяпер я з першага выкліку ў міліцыю сплю раз на тыдзень, не магу заснуць, так сэрца баліць. Цяжка быць бескампрамісным чалавекам. Выходзіць, сумленнасць, свядомасць у наш час толькі шкодзяць чалавеку. Я выдатна разумею, што красці вузлы на заводзе, няхай нават і бракаваныя, не метад вучобы радыёінжынераў. Але ж нельга таптаць чалавека, які спатыкнуўся і вывіхнуў сабе нагу. Ён ужо і так не зможа нармальна хадзіць, можа, нават усё жыццё. Людзі ў нашым КБ (я цяпер працую ў аддзеле галоўнага канструктара, а дагэтуль быў у цэху спачатку майстрам, пасля тэхнолагам), дый у цэху супраць мяне нічога не маюць, і калектыў КБ нават хадайнічаў аб узяцці мяне на парукі, але гэта на органы правааховы ніяк не паўплывала, відаць, трэба мець яшчэ і знаёмствы. І, напэўна, не адзін я такі. Але хіба можна было марыць у той час, што мы будзем перабудоўваць эканоміку? Уявім сабе на хвіліну, што ў мяне прыборы не забралі. Вынаходніцтвы вымагаюць багата часу, і ён быў, калі я вучыўся. Аднаму рабіць нешта новае вельмі-вельмі цяжка, але можна. Да таго, як гэтая каша заварылася, мне ў інстытуце прапанавалі тэму (гэта не зусім так, я над ёй працаваў з 2-га курса, і вынаходніцтва па ёй жа, і афіцыйна мне яе ніхто не даручаў), і дома я спрабаваў знайсці падыход да праблемы ў тым накірунку, у якім яшчэ не шукаў ніхто (а можа, ужо і шукаў), і лінейныя пераўтваральнікі я ўжо, у прынцыпе, змог бы рабіць, але схемы засталіся ў чарнавіках, прыборы трапілі ў АБКСУ разам з дэталямі. Я зноў адхіліўся. Дык вось, вынаходзіць цяжка. Рацыяналізацыя — таксама вельмі важная рэч. Няцяжка падлічыць, што ў сярэднім, маючы на руках апаратуру, мог бы прыносіць каля 125 тыс. руб. эканоміі свайму толькі заводу (рацпрапанова на суму 250 тыс. руб. за два гады). Атрымліваецца 50-кратная акупляльнасць штогод. Але ўсё гэта нікому не трэба і мне не дапаможа таксама. Выходзіць, што я нібыта плачу ў камізэльку, расхвальваю сам сябе, нібыта мне ордэн даць збіраюцца, а не саджаюць у турму.

А зараз гэтую апаратуру, з якой, вядома, працаваць цяжка, паўсамаробную, хоць і досыць дакладную і зусім надзейную, разламаюць на часткі, што павінны былі зрабіць яшчэ ў 1983 годзе, а я за яе заплачу як за новую ды яшчэ ў двайным памеры і плюс 5 гадоў у турме. Дарагое задавальненне — вынаходзіць радыёапаратуру.

Такія вось вынікі майго пакуль невялікага жыцця.

Дарагія рэдактары, я ведаю, што ні друкаваць, ні чытаць мой ліст вы, напэўна, не будзеце, але, калі можна, надрукуйце некалькі радкоў, бо мяне ўжо могуць на той час, як выйдзе Ваш Часопіс, асудзіць. Я спецыяльна пішу вялікімі літарамі.

Маладыя людзі, маладыя спецыялісты, поўныя надзей на светлую будучыню! Перастаньце шукаць сабе цяжкасці, вынаходзіць, перажываць. Гэта можа вас захапіць і далёка завесці. Пачакайце, пакуль станеце старэйшыя, тады зможаце знайсці цёплае месца з добрай зарплатаю.

Усё, што я напісаў, прачытаць і зразумець немагчыма. Адны няяснасці, але яно так і ёсць на самай справе — нічога яснага ўперадзе. Больш я пісаць ужо не магу. І перапісваць таксама не буду, не хопіць духу. Параў і выкіну! І яшчэ просьба, не друкуйце прозвішча. І так моташна. Я не размічваю на ўвагу, проста жудасна набалела.

З павагаю...

**Андрэй... пакуль інжынер-канструктар III катэгорыі...**

# 23.45

...— Я быццам лёду праглынуў... Стаю і дрыжу, быццам сам-насам з мяцеліцай у чужым лесе застаўся.



ТАРЫ ляснік Сяргей Фёдаравіч Лісавец з вёскі Сады ў вясёлай заечай шапцы, у цёплым ватніку і вялізных, неаднойчы падшытых валёнках па-гаспадарску падтоптвае пухлы белы сняжок. Мароз яшчэ не стрэліў, кажа ён, дык снег нават пад находжанымі валёнкамі не рыпне. Гэтая абставіна крыху засмучае. Бо і чалавек вясковы, і конь па-сапраўднаму адчуюць навагодні снег толькі калі пад нагой ці пад капытом рыпне. Ен запрагае ў санкі непаслухмянага маладога суседскага коніка, угаворваючы таго сабе пад руку і насвістваючы штосьці патаемнае пад настрой на Новы год.

У двары зроблены ўсе мужчынскія справы — можна і з'ехаць ненадоўга. Толькі ўчора жангліраваў увесь дзень: складваў апошнюю паленніцу дроў пад паветку. У клеці кменна ад свежых ружовых кольцаў каўбасы. Кабанчыка абсмалілі без спазнення. І сала прасалілася да свята. Настаўся журавінавы морс. Галоўкі капусты ў дзежцы толькі-толькі пусцілі сок. І яблыкі антонаўскія ўмоклі, не падвялі — на ўсю хату стаіць пах. Здаецца, сядзі сабе за печчу і чакай да свята ўнукаў. Але не сядзіцца Сяргею Фёдаравічу. Ішоў ён насустрач жонцы, якая ўваходзіла з вуліцы ў двор, ад калонкі, знізу ўверх, як барыня, ужо ў святочнай кветцістай хустцы, і хацеў, напэўна, пераняць у яе з пляча каромысел, але яна не аддала. Не мужчынская гэта справа — каромыслы цягаць. І вёдраў не зняла, быццам спалохаўшыся доўгай размовы, ад якой вада можа ўмомант замерзнуць. У яе ж у доме справы цёплыя: цеста ўзнімаецца, пара брацца за святочны пірог. Няма калі ў пераднавагодні кароткі дзень на вуліцы лясы тачыць. Але і не прамінула заўважыць мужу:

— Хопіць зімоўнічаць. Не хлапец ужо.— Яна па-жаночы прыдзірліва зірнула на слабы яшчэ вясковы зімнік.— Без цябе да елкі пракладуць дарогу. Паберагуць.

— Што ты мяне звездзіш? — бадзёра абурыўся Сяргей Фёдаравіч.— Я ж не хлапчук. Неспакойна ў мяне на душы. З раніцы — ночна.— Паляпаўшы каня, надзеў рукавіцу, кінуў у санкі абярэмак сена, лёгка заваліўся ў іх на хаду. Азірнуўся: «Лясному чалавеку без зялёнага дрэва што за жыццё? Хачу вакол нашай елкі санямі распісацца на ўвесь год...»

Уся справа ў тым, што ў Сяргея Фёдаравіча Лісаўца ёсць адна свая ўласная навагодняя таямніца. Дакладней, цяпер гэтая таямніца не толькі ягоная, але і ўсёй вёскі Сады. І суседніх вёсак, самых блізкіх да Садоў. Таямніца, зразумела, як і ўсё самае цудоўнае ў гэтых мясцінах, звязана з прыгажуняй елкай.

Здарылася гэта з Сяргеем Фёдаравічам упершыню роўна сем гадоў назад. І неаднойчы яшчэ паўтаралася потым. Чаго толькі ні бывае ў мяцеліцу пад Новы год! І зноў можа паўтарыцца, лічыць ён. Таму трэба яму трымаць вуха пільна, не прамаргаць «выпадак», а то ж не даруюць суседзі, калі недагледзіць што. А здарылася вось што. Прыехалі да яго аднойчы ў лясніцтва людзі са сталіцы. Дапамагай, маўляў, Сяргей Фёдаравіч, выбар выпаў на цябе. Трэба аблюбаваць галоўную елку рэспублікі — паставяць яе на плошчы ў цэнтры Мінска. Дзе ж узяць, як не ў цябе, у гэтым запаветным яловым краі? Сяргей Фёдаравіч задумаўся, вядома. Клопат нежартоўны — адказны — галоўная елка! Але трэба, дык трэба. Гэтак жа запрог ён жвавага коніка, склаў у торбачку хлеб ды сала, каб перакусіць, з разлікам на гасцей. І паехалі. Наперадзе — ляснік з Садоў. За ім — цэлы аўтапоезд для елкі. А ўслед — трывожным прадчуваннем мяцеліца. Елак нагледзелі шмат. Наталіліся, закружыліся ў снезе. А яны красуюцца адна перад адной: і тая прыгожая, і гэтая. Хадзілі так ад адной да другой, а ў Сяргея Фёдаравіча сэрца замірала: ану як ссякуць! І радавалася, калі далей ішлі, міма елак. Што ёсць прыгажэйшае за няссечаную елку? Нарэшце стаміліся ўсе. А без елкі ж вяртацца нельга. Ад мяцеліцы дзень яшчэ карацейшы стаў. Стройную пушыстую елку ўсё ж вырашылі нарэшце ссячы.

Сяргею Фёдаравічу, як ні дзіўна, ўсё гэта спадабалася: людзі хоць і гарадскія, але паважлівыя, разумеюць тонкасць моманту. Ва ўсім уважліва спадзяваліся на яго, на гаспадара лесу. І як да тае елкі падысці, і як валіць, каб не пашкодзіць іншыя дрэвы. Падышлі нізенька, ледзь не на каленках, каб не зламаць ніжнія галінкі. І смецця за сабою не пакінулі — галінак сухіх.

Адчуў давер да іх. Разгаварыліся, падзяліўся немудрагелістымі сваімі прысмакамі. І на добрым слове сышліся. Ну і панесла лесніка — чалавека з адкрытай душою. Не ўтрымаўся Сяргей Фёдаравіч, каб не пахваліцца той прыгажосцю, пра якую ведаў, не змог не падзяліцца ёю з новымі людзьмі. Калі яны яшчэ раз сюды трапяць? Шкада, калі так і не ўбачаць іхнюю агульную лясную каштоўнасць. А тут выпадак такі...

І ён пусціў свайго канька да запаветнага мяцельнага зімніка. Вырашыў адкрыць незнаёмцам лясны вясковы цуд. Каму не люба «надзвычай здзівіць незнаёмых людзей, ашчаслівіць на цэлы год?»

Навагодняя елка (мясцовыя людзі так і называюць тое лясное ўрочышча) адкрылася нечакана, як заўсёды. Нават ён, Сяргей Фёдаравіч, які бывае тут кожны год, здзівіўся: цуд. На белай круглай паляне елка як на заказ для вялікага свята, для многіх людзей. Самая зялёная. Самая высокая. Стогадовая, відаць. Статная. Чароўная, як у казцы. Тыя ледзь прытомнасць не страцілі. На гатовую елку, якую толькі што так акуратна, з такім захапленнем бралі, ужо і не глядзяць. Глядзяць, дзе б пакінуць у лесе, з машыны скінуць. Ты, дзед, сваю елку ссекчы дапамажы, кажуць. Вельмі яна нам спадабалася.

— Я быццам лёду праглынуў... Стаю і дрыжу, быццам сам-насам з мяцеліцай у чужым лесе застаўся.

Ссекчы елку, ля якой уся вёска гуляе ў навагоднюю ноч? Вось гэта паварот! Не чакаў такога. Ды што вёска — уся маладая акруга збіраецца тут. І сам ля гэтай елкі столькі гадоў позірк цешыў. Цяпер Сяргей Фёдаравіч ужо не прыгадае, як у той момант змог сваё месца ў крыўду не даць. Грэх, сказаў, на язык узяў.

— У яе ж вершаліна крывая, кажу, а сам перажываю. У думках прашу прабачэння ў елкі за такія словы.

Прыезджыя галовы закінулі так, што і шапкі пападалі. А макаўка, далібог, самая пушыстая. Што будзе, тое і будзе, а елку ссекчы, вырашыў ляснік, не дам.

А яны раптам: добра... І тая падыдзе... Пакрыўдзілі такімі словамі Сяргея Фёдаравіча. І ягоную елку. Не разгледзелі сапраўдную прыгажосць. Што за пустыя людзі! Паехаў ён за іхнім аўтапоездам, па лісіным елчыным хвасце, а наўкол адна цемра ад мяцеліцы. Мроілася ўсялякае. Не перадумалі б. Не павярнулі б назад. Дапамагла мяцеліца, заблытала санны след, не дазволіла загубіць прыгажосць.

Выратаваў Сяргей Фёдаравіч навагоднюю елку. Але чутка пра гэты выпадак усё ж па акрузе прайшлася. Сам ён, вядома, нікому, акрамя жонкі, пра тое не расказваў, ды, напэўна, тыя прыезджыя яшчэ па дарозе прагаварыліся. Праз год ці праз два, а вось ужо і зусім нядаўна зноў наехалі з тым самым пытаннем: аддайце для горада елку. Давялося бараніць яе ўсёй грамадою. Гэта было прасцей, чым тады, першы раз, па неабачлівасці, аднаму. Захоўваючы сваю запаветную навагоднюю елку, вясковыя людзі адстойвалі не толькі лёс аднаго дрэва (ці мала прыгожых ялін у гэтым краі), але і абаранялі, сцвярджалі новы вясковы абрад, традыцыю некалькіх вёсак: і Садоў, і Казекава, і Буцэвічаў, і Вуглянаў. Бо менавіта з гэтых суседніх вёсак імчаць да навагодняй елкі тройкі са званамі. Мераюцца перад елкай сілаю і спрытам хлопцы. А дзяўчаты — чыстай прыгажосцю. Таму што ў мароз для ружовасці шчок ды для бляску вачэй не трэба ні румянаў, ні фарбаў. А што песні ды танцы! Адным словам, чыстае свята. Зіма!

— Зімка! — папраўляе мяне Сяргей Фёдаравіч з палёгкаю. Расказаў сваю таямніцу, і ад сэрца адышло. Елка на месцы. Хлопцы ўжо пакацілі ў сталіцу на машынах па маскі, бенгальскія агні ды мандарыны. У вёсцы ж гэтага нічога няма. Ведаеце, якія духмяныя лупіны на снезе?.. Кожны год прыдумаюць што-небудзь новае. Але яму, Сяргею Фёдаравічу, ніякіх мандарынаў не трэба — гэта так, мішура. Галоўнае, каб стаяла елка.

— Людзі заўсёды цэняць новае, і гэта добра,— разважае ляснік.— Нават пазайздросціць можна маладосці. Хіба яе вернеш? Дзе ж навізна — там і крывізна. А вось дабрату даказаць у вёскі вялікія магчымасці ёсць.

І мы, не дамаўляючыся, успомнілі з Сяргеем Фёдаравічам пра аднаго чалавека, які нам абодвум зусім не знаёмы. Але даведаліся пра яго і ён, і я аднолькава. І падставаю да таго, уявіце, таксама была елка. Праязджаючы па старой мясцовай дарозе, міжволі збочылі ў Навасёлкі. Здалёк было відаць: елка ўпрыгожвала і ўсё роўна як адкрывала вёску.

— Якубава елка,— расказала нам стогадовая Вольга Адамаўна Ламаноўская.— З дубчыка ўзнялася. Якуб Уладысік пасадзіў яе ў сваім садзе, калі з фронту прыйшоў. Так казаў: чалавек памрэ, а елка яго перастаіць. Іншыя людзі змогуць сюды суседзяў склікаць пад Новы год. Памятаецца, адразу ледзь не ўсе вяскоўцы дзівіліся на яго: якая ў агародзе карысць ад елкі? А ён адно смяяўся: а якая карысць ад салаўя? Да гэтай мудрасці кожны сам павінен дайсці. Усё жыццё чалавек дровы купляў, а дрэва ссячы так і не мог. Усё саджаў. Даглядаў. Падкопваў. Лячыў. Набліжаў прыроду да сябе, як умеў, як разумеў.

— Каб не Якубава елка, чым бы адрознівалася ад іншых наша вёска?.. Што і казаць, добрая справа — вырашчанае дрэва,— разважае ляснік,— не застанецца яно незаўважнае. Заўсёды знойдуцца людзі, якіх дабрыня тая спыніць.

Конь наш ад гэтых бясконцых размоў пра навагоднія елкі, здаецца, нават бег хутчэй, чуйна натапырваючы вушы. Быццам разумеў сардэчную растрывожанасць гутаркі. Якая елка лепшая для вёскі, якая больш патрэбная? Ужо многія вяскоўцы ў гэтых мясцінах пачалі глядзець на елкі інакш, быццам у памяць пра Якуба Уладысіка. І тое праўда: чаго прасцей і мудрэй, як пасадзіць ялінку ў сябе пад акенцам — у агародзе ці ля хаты, або ў садзе. Адразу двайны інтарэс: і ростам яе кожны дзень падзівіцца можна, і лес не трэба ламаць пад Новы год. Вось якая вялікая карысць шчодраму гаспадарліваму чалавеку ад яліны ля хаты. Ляснік Сяргей Фёдаравіч Лісавец разумее гэта як ніхто іншы, нагледзеўся за сваё доўгае лясное жыццё на ўсялякіх браканьераў — і вясковых, і гарадскіх. Таму да гэтага часу не лічыць, што выйшаў на пенсію канчаткова. Самыя высокія парыванні душы, усё жыццё аддадзены гэтаму лесу, гэтым елкам. Будзе да таго часу адказваць за свой лес, пакуль кожны не зразумее: шукай мёртвае дрэва, засохлае, а жывое — не чапай!

Побач з Садамі, у вёсцы Казекава, пашчасціла нам сустрэць сапраўдныя прысады з ялінак проста ў дворы ля хаты Рымы Леанідаўны Малюшка. Пасадзіла яна іх разам з мужам, Пятром Васільевічам. Ляснік прынёс ім васемнаццаць саджанцаў. Прыжыліся пятнаццаць. А дзве елачкі — навагоднія — пакінула перад хатаю. Цяпер ужо з гаспадыню ростам яны. Рыма Леанідаўна як раз упрыгожвала іх да свята: пацеркі, цацкі. Тонкім інеем серабрысты дожджык.

— Гэй, суседка,— гукнуў яе з вуліцы малады егер Міхаіл Іванавіч Бізюк.— З Новым годам! Глядзі, рукі на ветры не замарозь.

— А за мяне не бойся. Ад ліхтарыкаў грэюся,— адказала тая,— дзяцей, відаць, на нашую навагоднюю елку вязеш?

Оля і Андрэй сядзелі ўжо ў санках Сяргея Фёдаравіча напагатове. Карцела хутчэй адправіцца ў лес, да навагодняй елкі. І навошта толькі затрымаўся каля суседкі бацька? Быццам не разумее: у яе ёсць свой навагодні рытуал, а ў нас сёння — свой.

...Нашае маленькае вогнішча, якое мы расклалі на снезе каля галоўнай елкі гэтых мясцін, было самае першае. Увечары раскладуць вялікае — да самай макаўкі елкі даляцяць зіхоткія іскры вясковай весялосці. А пакуль танцавалі пад елкай хлопчык і дзяўчынка. У Олі і Андрэя гэта першы выезд да любімай усімі елкі ў зімовым бацькавым лесе.

— Ніяк не дачакаюся, каб дзеці падраслі,— сказаў Міхаіл Іванавіч, шырока ўсміхаючыся,— так хочацца прыязджаць сюды кожны Новы год усёй сям'ёй...

Ляснік Сяргей Фёдаравіч Лісавец, адчуваю, застаўся задаволены яго словамі, як і сваім пераднавагоднім выездам у лес. Калі дзеці ў лесе як дома, не знікне звычай, не знішчыцца. І выстаіць і яго навагодняя елка. А хатнія святочныя пірагі пачакаюць.




АПАВЯДАННЕ

У класе дзевятым вучань адное з полацкіх школ Віця Мудроў разам з сябруком уцёк з урокаў. Уцекачы натрапілі на кучу макулатуры, сабраную піянерамі. Так у рукі да хлопца трапіла кніга Максіма Багдановіча. Вызвалены ад вывучэння беларускае мовы і літаратуры, Віця тым не менш умеў чытаць па-беларуску. Учытаўшыся ў кнігу Багдановіча, ён сказаў дружбаку: «Старик, а здесь есть неплохие стишата».

Вось з гэтае кнігі і пачалася цікавасць В. Мудрова да беларускае мовы, літаратуры, гісторыі. Стаўшы інжынерам, ён пад уплывам сваіх наваполацкіх сяброў пачаў пісаць. Летась дэбютаваў у часопісе «Маладосць».

Вінцэсь МУДРОЎ

# КАНТАКТ

Пульхнатая, кранутая лёгкай ружавізной аблачынка наплыла на сонца, у шары помрак агарнуўшы наваколле. Свет згубіў свае калёры — не зіхцелі шыбы пасажырскага цягніка, шаты таполевых прысадаў, што атачалі прыстанцыйны пляц, таямніча спахмурнелі, сталі зусім цёмныя, і толькі статуі на гзымсе вакзала па-ранейшаму залаціліся, аблашчаныя касымі сонечнымі промнямі.

Адна з статуй — мажная жанчына з велізарным снапом — неўтаймавана-шчаслівымі вачыма глядзела некуды ў бок універмага, а яе таварыш — заседжаны вераб'ямі дзяцюк з адбойным малатком — паглядаў з-пад рукі якраз туды, дзе віраваў гаманкі натоўп, шчыльным кальцом атачаючы піўную бочку.

Не толькі гіпсавы гарняк углядаўся тым часам у далеч светлую. З прачыненага акна цягніка гэтак жа ўтрапёна глядзеў на бочку ўскудлачаны, сярэдняга веку пасажыр. Пасажыру смажыла — мружачы вочы, ён раз-пораз аблізваў сасмяглыя вусны, голасна гукаў «Колькі стаім?!», а пачуўшы, што цягнік стаіць паўгадзіны, знік у глыбіні вагона.

Праз хвілю ён скочыў на перон, заклапочана зірнуў паверх людскіх галоў і пабег, парыпваючы новаю скуранкаю, у накірунку да бочкі.

Станцыя сачэння, схаваная ад вока людскога ў нетрах пульхнатай аблачыны, паволі круцілася вакол сваёй восі, цьмяна бліскаючы ў малочнай смузе адзіным ілюмінатарам. Там, у сярэдзіне гэтага пляскатага, падобнага да талеркі дыска кешкаліся двое. Дакладней кажучы, кешкаўся адзін — блакітнатвары карантыш, які, седзячы ў глыбокім фатэлі, разблытваў нейкія дроцікі, другі ж, сінятвары, значна старэйшы ад першага, паўляжаў на пластыкавым лежаку і, махаючы ў паветры сваімі няўклюднымі адросткамі, якія ўмоўна можна было прыняць за рукі, даваў настаўленні маладзейшаму.

— У вас, шаноўны стажор, вельмі зручная пазіцыя,— узрушана прамаўляў сінятвары,— быць з усімі лагодненькім. Але ж вам, напэўна, казалі: дзве цывілізацыі на адной планеце — гэта задужа. Альбо мы, альбо яны! Вы чуеце?

Маладзейшы павярнуў свае пукатыя зекры ў бок старэйшага, але нічога не адказаў.

— Зрэшты, яны самі сябе знішчаць,— суцішна прамовіў сінятвары.— У гэтым ёсць заканамернасць. На змену старому прыйдзе новае, больш дасканалае. Пасля «гадзіны Х» на Зямлі ўтворацца спрыяльныя для нас умовы — прахалода, высокі радыеактыўны фон, і паверхняй завалодаем мы. Мы! — гучна паўтарыў сінятвары, узбуджана бліснуўшы сваімі рачынымі вірламі.

— Я разумею... Яны асуджаныя...— голас маладзейшага прыкметна дрыжэў, зумкаў на высокіх нотах.— Цывілізацыя іхняя пайшла згубным шляхам. Матэрыяльнае пераважыла духоўнае, збочылі, але ж...

— Настройце голас... Бразжыць! — перабіў стажора сінятвары, падымаючыся з лежака.

Карантышы, якія ў звычайных умовах размаўлялі з дапамогаю біяхваляў, тут, на станцыі, гаманілі на чысцюткай беларускай мове. Згодна з інструкцыяй Цэнтра пілоты станцый сачэння павінны былі валодаць усімі мовамі свету, у тым ліку і мёртвымі. Чалавечы ж голас утваралі сінтэзатары, якія разам з іншымі штучнымі органамі месціліся ў карантышоў на патыліцы.

— У людзей такіх, як вы, называюць абстрактнымі гуманістамі,— выгукнуў сінятвары, паволі ўзнімаючыся ўгору. Пластыкавы ляжак, на якім ён толькі што адпачываў, трансфармаваўся раптам у фатэль і завіс над галавою стажора.

— Табе іх шкада? Ну, як жа, людзі... разумныя істоты. П'юць, ядуць... зноў ядуць, лашчацца пад сонцам, тым часам як мы гібеем у падземных лёхах.

Апусціўшыся долу, сінятвары махнуў рукою-адросткам, паказваючы тым самым, што гамонка скончана, і рашуча прамовіў:

— За работу!

— Сёння ў іх 15 верасня 1980 года,— па-акторску выразна прамовіў стажор, узнімаючы вочы да белай столі.— Першы пункт праграмы — выбраць аб'ект назірання.

— Выбірайце! — загадаў сінятвары і стомлена адкінуўся на прыслон фатэля.

Станцыя панурылася ў бэзавы паўзмрок, і на белай аснове столі ўзнікла размытая чорная пляма, якая хутка змяншалася ў памерах, аж пакуль не ператварылася ў звычайную кепурку-васьміклінку. Уладальнік кепуркі, падхорцісты дзядзька ў пакамечаным пільчаку, няўпэўнена стаў пасярод прыбітага скатамі пляцу і з яшчэ большай няўпэўненасцю пазіраў у бок піўной бочкі.

— Бабронак Сцяпан. Жыхар вёскі Прагрэс Благадатненскага раёна, 52 гады, жанаты, мае траіх...

— Ну, гэты для нас цікавасці не ўяўляе,— перапыніў сінятвары, кіўнуўшы на малюнак. На малюнку, нібыта ў разнасцежаным акне, узнікла абвешаная торбамі цётка, якая піхнула Бабронка ў каршэнь, і той паплыў па пляцы, смешна выкідваючы наперад хударлявыя ногі.

На малюнку мільгнуў цеплавоз, праплыў даўжэзны шыхт зялёных вагонаў, і, нарэшце, вачам пілотаў станцыі сачэння адкрылася ўскудлачаная галава пасажыра. Стажор зірнуў на старэйшага, і той ледзь прыкметна кіўнуў.

— Гарашчэня Рыгор. Сорак гадоў. Двойчы разведзены. Працуе буравіком на Ямале. Зарабіў на Поўначы 15 тысяч.

— А што яшчэ зарабіў? — з'едліва запытаўся старэйшы, і сіні твар ягоны кранула падабізна ўсмешкі.

— Так, гэта ёсць... Але гэта не галоўнае. Галоўнае — сэрца... Арытмія, міякардыт. Працягне яшчэ гадоў адзінаццаць.

— А дакладней?

— Дзесяць гадоў і восем месяцаў.

— Да «гадзіны Х», значыцца, не дацягне. Ну што ж, тым лепш для яго.

— Глянь-глянь! — сінятвары паказаў пальцам-адросткам на малюнак.— Глядзіць на аблачыну, адчувае, што за ім сочаць. Орган гэты, як вядома, у людзей зусім атрафіраваны. Дарэчы, вазьмі пробу піўных пароў.

Стажор націснуў кнопку на падлакотніцы фатэля.

— Нуль цэлых восемдзесят пяць сотых працэнта алкаголю. Цэнтр паведамляе, што па дарозе з піўзавода прадаўшчыца Міронаўна з дапамогаю шафёра Кадука ўліла ў бочку два вядры вады.

— Гэта нам і без Цэнтра вядома,— прамовіў сінятвары і салодка пазяхнуў сваім бяззубым ротам.

Да бочкі было не падступіцца. Рыгор Гарашчэня, заціснуты між лядашчай цётухнай на мыліцах і нейкім рабацiністым недаросткам, падаўся быў наперад і ў той жа момант адчуў, як нечыя кашчаватыя пальцы схапілі за рукаў.

— Куды прэш, каз-зёл! — прагугнявіў пад самым вухам недаростак. Рыгор рэзка павярнуўся, але зрабіў гэта няўдала, і цётухна на мыліцах загрэла яму ў лоб двума пустымі кухлямі.

— Мне паўтарыць! — крыкнула кабета, дыхнуўшы на Гаршчэню такою агідай, што ў таго аж пацямнела ўваччу.

«Усё нармалёва»,— супакоіў сябе Рыгор і, стаўшы на дыбкі, зірнуў на прадаўшчыцу. Ружовашчокая, падперазаная, мэрам той мяснік, цыратавым хвартухом, прадаўшчыца са спакойнай разважлівасцю лічыла кухлі, раз-пораз куляючы іх у бяздонны поліэтыленавы мех.

— Міронаўна! Хутчэй там! — гойкнулі тым часам з натоўпу, і Міронаўна, перапыніўшыся на хвіліну, пагрозліва агледзела натоўп.

— Не замінайце! Саб'юся!

Пасля лічбы «пяцьдзесят» мех узвалілі на карак нейкаму спрэс лысаму, і Рыгор прабіўся да бочкі.

— Мужыкі, дазвольце кухлік... Я з цягніка,— прамовіў ён, закаханым паглядам азіраючы прысутных.

— Усе з цягніка,— звягнуў за спінаю недаростак, перадаючы цераз Рыгораў плячук парожні посуд.

— Два гады піўка не каштаваў... З Поўначы еду...

— А хоць з Бігосава! — падаў голас недаростак, і ў натоўпе стрымана рагатнулі. Захоплены сваім дасціпным жартам, недаростак удругарадзь выгукнуў «А хоць з Бігосава!» і, пераймаючы з нечых рук тузін перапоўненых куфляў, плёхнуў кіславатага пойла на ўскудлачаную галаву Гарашчэні.

Хвіліну Рыгор стаяў у непаразуменні, глытаючы кіслыя кроплі, потым увесь сцяўся і, крыкнуўшы штосьці неразборлівае, рынуўся наперад.

— Колькі каштуе твая бочка? — сарваным голасам крыкнуў Рыгор, занурваючы руку ва ўнутраную кішэню скуранкі.

Міронаўна спуджана залыпала вачыма.

— Дзвесце рублёў учора здала... як да капейкі. Яшчэ на дзвесце засталося.

У наступнае імгненне аматары піва, што збіліся таго ранку да «свінаматкі», убачылі і пачулі неверагоднае. Мокрагаловы фацэт у скуранцы выцягнуў з кішэні гаманец і, адлічыўшы з важкага пачка чатыры зялёныя, кінуў іх на вільготную талерку.

— Бяру бочку. Чатыры кухлі мне, астатнія — людзям!

Узяўшы з рук уражанай Міронаўны кухаль, ён павярнуўся да недаростка, дзьмухнуў таму на штаны пенныя хлапякі і, злавесна пасміхнуўшыся, загадаў:

— А гэтага выдаліць!

Імгненне збой наструнена маўчаў, утрапёна гледзячы на пацямнелыя ад вільгаці паперкі, потым усе разам загаманілі, заварушыліся, і чыясьці пудовая, з надпісам «Варкута» на запясці, рука схапіла недаростка за каршэнь.

— Хто ён такі, гэты недаростак?

Стажор націснуў кнопку на левай падлакотніцы.

— Рысеў Анатоль. 28 гадоў. Адукацыя восем класаў. У 1978 годзе, быўшы на падпітку, збіў да паўсмерці сваю жонку Рысеву Марыю. Ад вязніцы адмазаў родны брат. Стала нідзе не працуе, перабіваецца выпадковымі заробкамі.

— Напэўна, па братана пабег,— прамовіў сінятвары і, каторы ўжо раз пазяхнуўшы, расцягнуўся на пластыкавым лежаку.

— Скончыш праграму — пабудзі! — бадзёра прагучала з сінтэзатара, і праз хвілю біяхвалі данеслі да стажора натужлівае хрыпенне сінятварага.

Акружаны ўсеагульнаю ўвагаю, Рыгор Гарашчэня сядзеў на ганаровым месцы — засланым газетаю вечку каналізацыйнага люка, што вытыркаўся з зямлі, і з асалодаю пацягваў халаднаватае піва.

— Восемсот маю,— з абыякавасцю ў голасе казаў ён падпітым дзядзькам, косячы вокам то на свой цягнік, то на трохметровага алімпійца, што пасміхаўся яму з вялізнага, пакрытага знізу характэрнымі жоўтымі рагамі, шчыта.

Ніколі ў жыцці Рыгор Гарашчэня не пачуваўся так добра,

як цяпер. «Што там нейкія дзве сотні ў параўнанні з людскою павагаю»,— расчулена падумаў ён, падносячы да вуснаў чарговы кухаль.

Тоўстае шкло ледзь не выбіла зубы, піва палілося па барадзе, і Рыгор, спрабуючы вызваліцца з жалезных шчымётаў, усхапіўся на ногі.

— Дакументы! — рашучы голас перацяў дыханне, спыніў на хвілю сэрца. Рыгор павярнуў галаву і, згледзеўшы сяржанцкія лычкі, паспрабаваў вызваліць руку.

— Якія дакументы? Усё ў цягніку.

— Выпілі і буяніце? — пагрозліва запытаўся міліцыянер і, сціснуўшы Рыгораву руку яшчэ ямчэй, працадзіў: — Прайдзёмце!

Няўтульным імжыстым адвячоркам на пероне чыгуначнай станцыі з'явіўся пахілы, дарэшты скачанелы чалавек. Волкі ветрык навылёт працінаў ягоную зрэбную, як бачна, з чужога пляча, кашулю, шкамутаў калошы зашмальцаваных штаноў, а сам ён, мокры і натапыраны, не раўнуючы як той верабей, стаяў на краі перона, прагавіта гледзячы на ўсход — туды, дзе сыходзіліся ў адно бліскучыя рэйкі, дзе гарэлі фіялетавым агнём жарынкі ўваходных стрэлак. Войкнуўшы, чалавек асцярожна памацаў бакі, потым рашуча сціснуў пальцы ў кулакі, і жарынкі ўваходных стрэлак ліхаманкава заскакалі ў ягоных вачах. Павярнуўшыся, чалавек рашучым крокам пашыбаваў на станцыю.

Газетны кіёск, на шчасце, быў адчынены. Нейкая цётка, утыркнуўшы свой мясісты нос у малюпасенькае акенца, перадавала кіяскёрцы апошнія навіны.

— Слухай, што скажу! — не выцягваючы носа з акенца, цётка нядобра зыркнула на Гарашчэню і сцішана выдала: — Міронаўну ж сёння ледзь не зарэзалі!

— Мне канверт, калі ласка,— нецярпліва выдыхнуў Рыгор, прапіхваючы пятак між шклом і мясістым цётчыным носам.

Кіяскёрчыны вочы пашырыліся:

— Што ты кажаш?!

— Дык слухай, што скажу... Прыходзіць нейкі, не стары такі, апранены... Выцягвае ножык і кажа: «Выкладвай, Міронаўна, дзвесце рублёў, калі жыць хочаш».

Кіяскёрчыны вочы пашырыліся яшчэ больш:

— А яна?

— Выклала! — цётчын нос крутануўся ў акенцы.— Добра, Толік Рысішын падвярнуўся, брата з міліцыі прывёў, дык абаранілі.

— Які гэта Толік?

— Ай, во... Невялікага расточку такі... Рысішын мужык.

— А людзі што?

— А што гэтым п'янтосам? Яны й радыя — давай піва задарма жлукціць.

— Канверт дайце! — не сваім голасам грымнуў Рыгор і, каб не ўпасці ад раптоўнай сардэчнай спазмы, упёрся рукою ў спіну да смерці перапалоханай жанчыны.

— Дзе ён зараз? — спытаў сінятвары, калі прачнуўся.

— У вакзальнай пачакальні. Піша скаргу ў Вярхоўны Савет.

— Скаргу? — сінятвары ўскочыў з ложка.— Не пазайздросціш гэтаму Гарашчэню. Колькі там... за паклёп на органы правапарадку?

— Артыкул сто дваццаць восьмы. Да пяці гадоў.

— Што ж, вас можна павіншаваць,— голас сінятварага прагучаў аднекуль з тэлепартацыйнай кабіны.— З заданнем Цэнтра, няхай і вучэбным, вы справіліся паспяхова. Зараз зраблю вонкавы агляд, і мы...

— Дазвольце мне агледзець! — нечакана выгукнуў стажор, крутануўшыся ў фатэлі.

Сінятвары выйшаў з кабіны, памаўчаў хвіліну і, апусціўшы галаву, панікла прамовіў:

— Толькі не забывайцеся, інструкцыя Цэнтра забараняе нам умешвацца ў іхняе жыццё!

— Не забудуся! — кіўнуў стажор і вокамгненна знік у чорнай зеўры тэлепартацыйнай кабіны.

Сінятвары плюхнуўся ў фатэль, колькі часу сядзеў у здранцвенні, потым паволі, як бы з неахвотаю, націснуў кнопку сувязі з Цэнтрам і ўжо на сваёй роднай біямове прамовіў:

— Шкада,— і, памаўчаўшы, дадаў: — Мог бы атрымацца добры пілот.

Запытаўшы пра скрынку, Рыгор рушыў у ноч, спружна пераскокваючы цераз чорныя люстэркі лужын. Ён падбег быў ужо да паштовай скрынкі, што вісела на плоце, але тут здарылася непрадбачанае — аднекуль з вышыні нечакана дзьмухнуў халодны вятрыска, выхапіў з рук канверт, і той, крутануўшыся ў паветры, падбітай птушкай паляцеў у бліжэйшую лужыну.

Кроў гарачай хваляй ударыла ў скроні — Рыгору здалося раптам, што там, у вышыні, у беспрасвецці начнога неба, хтосьці ёсць, хтосьці сочыць за ім, пасміхаючыся сваімі нечалавечымі пукатымі вачыма.

Ачомаўшыся, ён няўмела перахрысціўся, выцягнуў з лужыны набрынялы вадою канверт і, рвучы яго на шматкі, пасунуўся, не разбіраючы дарогі, да чыгуначнай станцыі.







# ГРУПА—АДЗІНСТВА...

## ці БАРАЦЬБА ПРОЦІЛЕГЛАСЦЕЙ

Генадзь ІНДУХ

Вестыбюль вучэбнага корпуса гудзеў як вулей. Учора хлопцы вярнуліся з першай «студэнцкай бульбы». Там — скрозь барозны, гул трактароў, восеньскае халоднае неба, дождж і вецер... А тут цёпла, светла і ўтульна. На душы свята, і хоць да пачатку заняткаў застаецца зусім мала часу, хлопцы і дзяўчаты не спяшаюцца разбегчыся па кабінетах. Пытанням, размовам, здаецца, не будзе канца.

— Вы дзе былі! — чуецца трохі хрыплы, напэўна, прастуджаны, голас.

— У Бешанковіцкім раёне.

— Граматы прывезлі!

— Ага...

Гэтаму ўспаміну пяць гадоў. Групы першакурснікаў лячэбнага факультэта дзяліліся ўражаннямі пра «бульбу». І ўжо адчувалася, што гэта сапраўды групы: месяц сумеснай працы дазволіў ім пазнаёміцца, бліжэй зведаць адно аднаго, згуртавацца...

Група № 9 была разам з усімі і акурат такая ж, як усе. Было і ёй пра што расказаць... Але дні вучобы ішлі сваёй чарадою. І вось — хлопцы і дзяўчаты самі не заўважылі, як іхняя група стала разбівацца на «групачкі».

Што ж здарылася! Чаму дзевятая група, якая складалася спачатку з трынаццаці студэнтаў, падышла да канца пятага курса такая парадзелая! Пагублялі сваіх таварышаў на ўхабах сесій! Не ўгледзелі іх у семестравай будзённасці! А можа, яе былым студэнтам проста абрыдла група, атмасфера ў ёй!

...Перад першай экзаменацыйнай сесіяй групу № 9 пакінула Алена Юрчанкава: не была допушчана да экзаменаў «у сувязі з акадэмічнай запазычанасцю». Многія студэнты, якія вучыліся з ёю, даўно здагадваліся, што гэтым усё і скончыцца. Ведалі, але ніхто і не збіраўся дапамагчы Алене «падцягнуць хвасты». Спакваля яна апынулася па-за калектывам. І калі Юрчанкаву адлічылі з інстытута, ніхто ў групе асабліва не перажываў. Алена ж, дарэчы, скончыла потым медвучылішча, што побач з інстытутам, без усялякіх казусаў...

Ужо на першым курсе ледзь не страцілі ў сесію і Сашу Дзем'янкова: атрымаў першую ў сваім жыцці двойку (як кажуць у інстытуце, «жбан») па гісторыі. Саша — хлопец разумны, кемлівы, і «жбан» гэты — простая выпадковасць: хлопец быў не зусім здаровы. Пасля экзамену Дзем'янкову таксама ніхто не дапамог.

На трэцім курсе стала прапускаць заняткі Алена Дарошка. Тут бы групе пагаварыць з ёю, растлумачыць, што за пару дзён да экзамену не нагнаць упушчанае. Ні «зуброжка», ні шпаргалкі, ні «бомбы» тут не дапамогуць...

Але не звярнулі своечасова ўвагу ў дзевятай групе і на гэтую Алену. Атрымала яна ўсё-такі сваю двойку па паталагічнай фізіялогіі і колькі ні спрабавала потым пераздаць — не змагла. Яшчэ на аднаго чалавека паменшала ў дзевятай групе.

Пасля трэцяга курса ў спісе групы знікла яшчэ адно прозвішча: засталася на другі год Люда Ляўша. Не здала фармакалогію. Люду чакала пераздача. У запасе толькі два тыдні. Асіліць усё тое, што за год не асіліла,— нерэальна... Вядома, Люда не справілася. І зноў — «жбан». Другая пераздача павінна была быць на чацвёртым курсе.

На чацвёрты курс прыйшоў залічаны зноў у інстытут Эдзік Каранчук і трапіў менавіта ў дзевятую групу, бо яна была самая нешматлікая. Хоць схільнасцямі да адкрыццяў Эдзік пахваліцца не мог, яго сталі зваць Эдысанам. Але на мянушку не крыўдзіўся і хутка да яе прызвычаіўся: лічыў сябе «дафеністам», якому на ўсё напляваць. «Нам усё да фені...»

Але бяда ў тым, што «дафеністам» у дзевятай групе быў не адзін ён. Яму былі «да фені» заняткі і лекцыі, а дзевятай групе «да фені» быў сам Эдзік. Прапускаў ён бязбожна.

Пра тое, што Эдзіка выключылі з інстытута, у групе даведаліся з вялікім спазненнем. Яшчэ некалькі месяцаў яго адзначалі як адсутнага на лекцыях. Гэтая няяснасць працягвалася да тае пары, пакуль дэкан на адной лекцыі не аб'явіў, што Эдзіка адлічылі за непаспяховасць.

Яшчэ на першым курсе «разбіліся» паводле інтарэсаў. Ігара Люцко і Сашу Дзем'янкова аб'яднала любоў да музыкі. Косцю Фурса і Ігара Люцко цікавіла хірургія — яны займаліся агульнай навуковай працаю. Люду Ляўшу, Алену Краўчанка і Алену Дарошку аб'ядноўваў сумесны адпачынак. Валю Сяўрук, Свету Карманаву і Іру Жызнеўскую, здавалася, аб'яднала сапраўднае сяброўства...

Толькі вось усю групу цалкам не аб'ядноўвала нічога. Даходзіла часам да таго, што падказвалі толькі «свой свайму», толькі таму, хто належыў да аднае з табою «касты». Стараста групы Косця Фурс, калі прапускалі лекцыі ягоныя сябры, гэтага не заўважаў, затое астатніх адзначаў бязлітасна. Зрэшты, мог не адзначыць. Пры адной умове: «За шакаладку!»

Але калі ўжо не было на лекцыі самога Косці, то з якім смакам адзначала ягоную адсутнасць Валя Сяўрук! Гэта было нешта накшталт спаборніцтва.

Не ўмелі ў дзевятай групе радавацца чужым поспехам. Як маглі, спрабавалі перашкодзіць сваім удалым «супернікам». А як на ўсё гэта глядзелі замежныя студэнты з Танзаніі, Эфіопіі і Іярданіі, якія вучыліся ў групе! Якую выснову зрабілі з усяго гэтага пра нашых людзей, нашае грамадства! Здагадацца няцяжка.

Вучоныя-псіхолагі лічаць: каб калектыў быў дружны і моцны, у яго павінен быць лідэр. У чым жа няўдачы групы! Хутчэй за ўсё ў тым, што лідэра не было. Быў фармальны, «назначаны» стараста. Але каб быць лідэрам, трэба мець хоць нейкія да гэтага здольнасці...

Думаю, бязладдзе ў групах закладваецца яшчэ пры іхнім стварэнні, у самым пачатку вучобы. Бо фарміруюцца ж яны зусім не паводле навуковых прынцыпаў. Хаця... Хіба можа дэкан рабіць выснову пра характары будучых аднагрупнікаў (пра іхнюю сумяшчальнасць) паводле дадзеных не заўсёды аб'ектыўных характарыстык! Дый навошта гэта яму, дэкану!..

Над падобнымі пытаннямі працуюць сацыёлагі, праводзяцца вопыты і навуковыя даследаванні... А групы як фарміраваліся дзесяткі гадоў валявымі рашэннямі, так і фарміруюцца.

Навучыцца жыць у калектыве — значыцца, адчуць сябе ягонай часцінкаю. Не замазваць памылкі, не скарацца перад недахопамі, а прынцыпова і галосна іх выкрываць — важнае правіла, без якога не можа быць здаровага калектыву. Але ў дзевятай групе не знайшлося чалавека, які б здолеў выправіць становішча, здолеў аб'яднаць процілегласці, нягледзячы ні на якія канфлікты...

А як справы з гэтым у вас у школе, у інстытуце, на працы! Ці падобны ваш калектыў на дзевятую групу!..

# ЦІ СВОЕЧАСОВЫЯ «НЕСВОЕЧАСОВЫЯ ДУМКІ» М. ГОРКАГА?

Пытанне пра нязгоду М. Горкага з мерапрыемствамі Савецкай улады на першым часе яе існавання ў нашым друку і літаратурнай крытыцы раней амаль не абмяркоўвалася. Сёння ёсць магчымасць пагаварыць пра гэта адкрыта. Пралетарскі пісьменнік даволі востра дыскутаваў па пытаннях, якія яго хвалявалі.

У красавіку 1917 года М. Горкі ў газеце «Новая жизнь» часта выступаў пад рубрыкай «Несвоечасовыя думкі». Няма сумнення, калі выйдзе новы і найбольш поўны Збор твораў М. Горкага (у яго будуць уключаны многія матэрыялы, якія раней не публікаваліся), чытачы ўбачаць, што ў той час светапогляд мастака быў даволі супярэчлівы. Тым не меней, шмат якія праблемы, паднятыя тады М. Горкім, надзённыя і сёння, яго прадбачанні многія палічаць прарочымі. Трэба адзначыць, што бальшавіцкая «Правда» некалькі разоў выступала супраць горкаўскіх артыкулаў, а У. І. Ленін у сваіх працах даволі рэзка крытыкаваў пазіцыю газеты «Новая жизнь».

Наогул, адносіны У. І. Леніна і М. Горкага, адносіны двух вялікіх людзей — прыклад сапраўднай дружбы і шчырай павагі, нягледзячы на тое, што па многіх праблемах (гэта можна прасачыць па іх перапісцы: з 1905 года яны абмяняліся амаль сотняй пісьмаў) іх погляды часта разыходзіліся. Адразу ж пасля смерці У. І. Леніна Горкі паведамляў у пісьме да М. Ф. Андрэевай, што закончыў успаміны пра Ільіча: **«Пісаў і — заліваўся слязьмі. Так я не гараваў нават па Талстым... На душы — цяжка. Стырнавы сышоў з карабля. Я ведаю, што астатняя каманда — адважныя людзі і добра выхаваныя Ільічом. Ведаю, што яны не разгубяцца ў вялікую буру. Але — не зацягнула б іх твань, не станіў бы штыль,— вось што небяспечна. Усё-такі Русь таленавітая. Гэтак жа пачварна таленавітая, як няшчасная.**

**Смерць Ільіча — самае вялікае няшчасце яе за сто гадоў. Самае вялікае».**

Дружба Леніна і Горкага няраз ставілася пад сур'ёзныя выпрабаванні. У зборніку «Ленін і Горкі» пра гэта гаворыцца так: **«Перад Уладзімірам Ільічом паўстала пытанне пра Горкага ў 1918 годзе, у сувязі з «Новой жизнью», якую ён выдаваў і якая стала цэнтрам левырадыкальнай інтэлігенцыі, што ўбачыла ў бальшавізме пагрозу «культуры».**

Па канчатковае рашэнне гэтага пытання звярнуліся да Уладзіміра Ільіча. Перад намі стаяў ідэйна бязлітасны праціўнік рабочай дзяржавы. Ні цэню сумненняў, адкінуты ўсякія асабістыя сімпатыі і прыхільнасці:

*— Вядома, «Новую жизнь» трэба закрыць. Пры цяперашніх умовах, калі трэба падняць усю краіну на абарону рэвалюцыі, усякі інтэлігенцкі песімізм выключна шкодны. А Горкі — наш чалавек... Ён надта звязаны з рабочым класам і з рабочым рухам, ён сам выйшаў з «нізоў». Ён безумоўна да нас вернецца...»*

І сапраўды, неўзабаве Горкі пачаў цесна супрацоўнічаць з новай уладай. Паваротным пунктам у адносінах пісьменніка да Леніна быў злачынны замах эсэраў на правадыра рэвалюцыі. Пазней Горкі ўспамінаў: **«З дня замаху на Леніна я зноў стаў бальшавіком».**

Тым не меней, Горкі ўсё ж лічыў многія свае «Несвоечасовыя думкі» важнымі і выпусціў іх у 1918 годзе асобнай кніжкай, якая ніколі больш не перавыдавалася.

Адной з самых важных праблем М. Горкі лічыў пытанне пра рэвалюцыю і культуру. **«Культура ў небяспецы!»**,—абвяшчаў ён, сур'ёзна занепакоены тым, што насілле, хай нават рэвалюцыйнае, замахваецца на культуру. Пісьменнік лічыў, што развіццё рэвалюцыі і развіццё культуры павінны ісці паралельна:

**«Зноў культура? Вядома, зноў культура. Я не ведаю нічога іншага, што можа ўратаваць нашу краіну ад пагібелі. І я ўпэўнены, што калі тая частка інтэлігенцыі, якая, баючыся адказнасці, пазбягаючы небяспекі, пахавалася дзесьці і гультайнічае, раскашуючы ў крытыцы таго, што адбываецца, калі б гэтая інтэлігенцыя з першых жа дзён свабоды паспрабавала ўвесці ў хаос узбуджаных інстынктаў іншыя пачаткі, паспрабавала абудзіць пачуцці іншага парадку,— мы ўсе не перажылі б многа тых мярзот, якія перажываем. Калі рэвалюцыя няздольная адразу ж развіць у краіне напружанае культурнае будаўніцтва,— тады, як на мой погляд, рэвалюцыя бясплодная, не мае сэнсу, а мы — народ, няздольны да жыцця».**

Уяўленні М. Горкага пра маральныя каштоўнасці людзей, якія павінны быць ачагом культуры, пра рэвалюцыянераў, пра аблічча партыйных кіраўнікоў даволі сугучныя з тымі, што абмяркоўваюцца сёння ў час рэвалюцыйных пераўтварэнняў нашага грамадства:

**«Назіраючы за працай рэвалюцыянераў нашых дзён, ясна адрозніваеш два тыпы: адзін — так сказаць, вечны рэвалюцыянер, другі — рэвалюцыянер на час, на сёння.**

**Першы, увасабляючы ў сабе рэвалюцыйны Праметэеў пачатак, з'яўляецца духоўным нашчадкам усёй масы ідэй, якія рухаюць чалавецтва да дасканаласці, і гэтыя ідэі ўвасоблены не толькі ў розуме яго, але і ў пачуццях, нават у сферы падсвядомага. Ён — жывое, трапяткое звяно дынамічных ідэй і пры ўсякім сацыяльным ладзе ён, усёй сукупнасцю сваіх пачуццяў і меркаванняў, вымушаны на ўсё жыццё застацца незадаволеным, бо ведае і верыць, што чалавецтва мае сілу бясконца ствараць з добрага — лепшае...**

**Вечны рэвалюцыянер — гэта дрожджына, якая бесперапынна раздражняе мазгі і нервы чалавецтва, гэта — або геній, які, разбураючы ісціны, створаныя для яго, творыць новыя, або — сціплы чалавек, спакойна ўпэўнены ў сваёй сіле, які згарае ціхім, часам амаль нябачным агнём, высвятляючы дарогі да будучыні.**

**Рэвалюцыянер на час, на сённяшні дзень,— чалавек, які з хваравітай вастрынёй адчувае сацыяльныя крыўды і зняваґі — пакуты ад людзей. Прымаючы ў розум навеяныя часам рэвалюцыйныя ідэі, ён усім ладам адчуванняў сваіх застаецца кансерватарам, яўляючы сабой сумнае, часта трагікамічнае відовішча істоты, якая прыйшла ў людзі, як бы наўмысна дзеля таго, каб сказіць, збэсціць, звесці да смешнага, пошлага і недарэчнага культурны, гуманітарны, агульначалавечы змест рэвалюцыі.**

**Ён перш за ўсё пакрыўджаны за сябе, за тое, што не таленавіты, не дужы, за тое, што яго зневажалі, нават за тое, што калісьці ён сядзеў у турме, быў у ссылцы, гаротна існаваў як эмігрант. Ён увесь напоўнены, як губка, пачуццём помсты і хоча заплаціць стакроць усім, хто пакрыўдзіў яго. Ідэі, прынятыя ім толькі ў розум, але не ўрослыя ў душу яго, яны ў непасрэднай і непрымірымай супярэчнасці з яго дзеяннямі, яго прыёмы барацьбы з ворагам тыя самыя, якія ўжываліся ворагам да яго, іншых прыёмаў ён не ўмяшчае ў сябе.**

**Узбунтаваны на час раб карніцкага, помслівага бога, ён не адчувае харастваа бога міласэрнасці, усёдаравання і радасці. Не адчуваючы сваёй арганічнай сувязі з мінулым свету, ён лічыць сябе абсалютна вызваленым, а ўнутрана скаваны цяжкім кансерватызмам заалагічных інстынктаў, аплецены густою сеткаю дробных крыўдлівых уражанняў, узніца над якімі ў яго няма сілы. Прывычаенасць ягонай думкі вымушае яго шукаць у жыцці і ў чалавеку перш за ўсё з'явы і рысы адмоўныя; у глыбіні душы ён поўны пагарды да чалавека, дзеля якога быў раз і сто разоў пацярпеў, але які сам вельмі шмат церпіць за тое, каб заўважыць або ацаніць цярпенні іншага.**

**Ён ставіцца да людзей, як бяздарны вучоны да сабак і жаб, прызначаных на жорсткія навуковыя доследы, з тою, аднак, розніцай, што і бяздарны вучоны, мардуючы жывёл без карысці, робіць гэта дзеля інтарэсаў чалавека, тым часам як рэвалюцыянер сённяшняга дня далёка не заўсёды шчыры ў сваіх доследах над людзьмі.**

**Людзі для яго — матэрыял, тым болей спадручны, чым меней ён адухоўлены. Калі ж ступень асабістай і сацыяльнай самасвядомасці чалавека ўзвышаецца да пратэсту супроць чыста знешняй, фармальнай рэвалюцыйнасці, рэвалюцыянер сённяшняга дня, не саромеючыся, пагражае пратэстантам карамі, як гэта рабілі і робяць многія прадстаўнікі азначанага тыпу.**

**Гэта халодны фанатык, аскет, ён пакладае творчую сілу рэвалюцыйнай ідэі і, вядома, ён не можа быць названы тварцом новай гісторыі, не ён будзе яе ідэальным героем.**

**Можа, яго заслуга ў тым, што, разбудзіўшы ў людской масе старажытнага жорсткага звера, ён гэтым набліжае смерць звярынага пачатку?**

**Жорсткасць стамляе і можа, нарэшце, абудзіць арганічную агіду да яе, а у гэтай агідзе — яе пагібель.**

**Мы, здаецца, пачынаем выхоўваць у сабе менавіта фізіялагічную агіду да ўсяго крывавага, жорсткага, брудная — трэба, каб гэтая агіда расла, каб яна зрабілася ідыясінкразіяй большасці».**

Не мог вялікі пісьменнік і мысліцель не непакоіцца за лёс ідэалаў, за якія ён змагаўся дваццаць пяць гадоў: свабоду выказвання думак, праблемы нацыянальных культур, свабоду друку і г. д. Задоўга да рэвалюцыі вялікі інтэрнацыяналіст у сваім артыкуле пра «Пісьменнікаў-самавукаў», між іншым, расказаў Расіі пра беларускую культуру, пра Я. Купалу і Я. Коласа. Горкі так прадставіў беларускіх пісьменнікаў: **«Я звяртаю ўвагу скептыкаў на маладую літаратуру беларусаў — самага знэнджанага народа ў Расіі,— на працу людзей, якія згуртаваліся вакол газеты «Наша Ніва»...»**

Інтэрнацыяналіст у самым высокім сэнсе гэтага слова, лічыў усе народы Расіі роўнымі, горача стаяў за свабоду, за крытыку, за справядлівасць:

**«Мяне ўжо дакараюць за тое, што «пасля дваццаціпяцігадовага служэння дэмакратыі я зняў маску» і здрадзіў ужо свайму народу.**

**П. п. бальшавікі маюць законнае права азначаць мае паводзіны так, як ім заўгодна, але я павінен нагадаць гэтым панам, што выдатныя душэўныя якасці рускага народа ніколі не асляплялі мяне, я не кленчыў перад дэмакратыяй і яна не з'яўляецца для мяне чымсьці настолькі святым, што цалкам недаступная крытыцы і асуджэнню.**

**У 1911 годзе ў артыкуле пра «Пісьменнікаў-самавукаў» я казаў: «Мярзоту трэба выкрываць, і калі наш мужык — звер, трэба сказаць гэта; а калі рабочы кажа: — Я пралетарый! — тым самым агідным тонам чалавека касты, якім дваранін кажа: — Я дваранін! — трэба гэтага рабочага бязлітасна высмеяць.**

**Цяпер, калі пэўная частка рабочай масы, узбударажаная звар'яцелымі ўладарамі яе волі, выказвае дух і прыёмы касты, дзейнічаючы насіллем і тэрорам,— тым насіллем, супроць якога так мужна і доўга змагаліся яе найлепшыя правадыры, яе свядомыя таварышы,— цяпер, зразумела, не магу ісці ў рады гэтай часткі рабочага класа.**

**Я лічу, што заткнуць кулаком рот «Речи» і іншым буржуазным газетам толькі таму, што яны варожыя дэмакратыі,— гэта ганебна для дэмакратыі.**

**Хіба дэмакратыя адчувае сябе не слушнай у сваіх дзеяннях і — баіцца крытыкі ворагаў? Хіба кадэты настолькі ідэйна моцныя, што перамагчы іх можна толькі шляхам фізічнага насілля?**

**Пазбаўленне свабоды друку — фізічнае насілле і гэта не да гонару дэмакратыі...**

**Палохаць тэрорам і пагромамі людзей, якія не хочуць удзельнічаць у шалёных скоках п. Троцкага над разваліламі Расіі — гэта ганебна і злачынна.**

**Усё гэта непатрэбна і толькі ўзмоцніць нянавісць да рабочага класа. Ён павінен будзе заплаціць за памылкі і злачынствы сваіх правадыроў тысячамі жыццяў, патокамі крыві.**

**У «Правде» надрукавана:**

**«Горкі загаварыў моваю ворагаў рабочага класа».**

**Гэта — не праўда. Звяртаючыся да найбольш свядомых прадстаўнікоў рабочага класа, я кажу:**

**Фанатыкі і легкадумныя летуценнікі, абудзіўшы ў рабочай масе надзеі, якія нельга ажыццявіць пры сённяшніх гістарычных умовах, цягнуць рускі пралетарыят да разгрому і пагібелі, а разгром пралетарыяту выкліча ў Расіі працяглую і змрочную рэакцыю.**

**Далей у «Правде» надрукавана:**

**«Усякая рэвалюцыя, у працэсе свайго пастулальнага развіцця, непазбежна ўключае і шэраг адмоўных з'яў, якія непазбежна звязаны з ламаннем старога, тысячагадовага дзяржаўнага укладу. Маладыя волат, творачы новае жыццё, чапае сваімі мускулістымі рукамі чужы лядашчы дабрабыт, і мяшчане, якраз тыя, пра якіх пісаў Горкі, пачынаюць лямантаваць пра пагібель Рускай дзяржавы і культуры».**

**Я не магу лічыць «непазбежнымі» такія факты, як раскраданне нацыянальнай маёмасці ў Зімнім, Гатчынскім і другіх палацах. Я не разумею, якую сувязь з «ламаннем тысячагадовага дзяржаўнага укладу» мае разгром Малога тэатра ў Маскве і крадзяжы ў грымёрнай у славутай артысткі нашай М. Ярмолавай?**

**Не хочучы пералічваць вядомыя акты бязглуздых пагромаў і рабункаў, я сцвярджаю, што адказнасць за гэтую ганьбу, чыненую хуліганамі, падае і на пралетарыят, які, відавочна, не мае сілы знішчыць хуліганства ў сваім асяроддзі.**

**Далей: «маладыя волат, творачы новае жыццё», робіць усё болып немагчымым кнігадрукаванне, бо ёсць друкарня, дзе наборшчыкі выпрацоўваюць толькі 38 працэнтаў дзіцячай нормы, устаноўленай саюзам друкароў.**

**Пралетарыят, колькасна слабасільны сярод яго мільённага вясковага паўпісьменнага насельніцтва Расіі, павінен разумець, як важна яму магчымае падзешаўленне кніг і пашырэнне кнігадрукавання. Ён гэтага не разумее на сваю бяду.**

**Ён павінен таксама разумець, што сядзіць на штыках, а гэта — як вядома — не вельмі трывалы трон.**

**І наогул, «адмоўных з'яў» многа,— а дзе ж станоўчыя? Іх не відаць, калі не лічыць «дэкрэтаў» Леніна і Троцкага, але я сумняваюся, каб пралетарыят браў свядомы ўдзел у тварэнні гэтых «дэкрэтаў». Не, калі б пралетарыят цалкам свядома ставіўся да гэтай папяровай творчасці,— яна была б немагчымая ў тым выглядзе, у якім дадзена.**

**Артыкул у «Правде» завяршаецца наступным лірычным пытаннем:**

**«Калі на светлым свяце народаў у адным братэрскім парыванні сальюцца ранейшыя міжвольныя ворагі, на гэтым банкетаванні свету ці будзе пажаданы Горкі, які так спешна выйшаў з радоў сапраўднай рэвалюцыйнай дэмакратыі?»**

**Зразумела, ні аўтар артыкула, ні я не дажывём да «светлага свята» — далёка да яго: пройдуць дзесяцігоддзі ўпартай, будзённай, культурнай працы на стварэнне гэтага свята.**

**А на свяце, дзе будзе святкаваць сваю лёгкую перамогу дэспатызм паўпісьменнай масы, і, як раней, як заўсёды — асоба чалавека застанецца прыгнечанай,— мне на гэтым «свяце» рабіць няма чаго, і для мяне гэта — не свята.**

**І я асабліва падазрона, асабліва недаверліва стаўлюся да рускага чалавека ва ўладзе — нядаўні раб, ён робіцца самым расцугляным дэспатам, як толькі здабывае магчымасць быць ўладаром бліжняга свайго».**

Нельга не разгледзець у выказваннях Горкага трывогу і непакой за пашырэнне жорсткасці, злоўжыванне ўладаю. Як мы бачым з артыкулаў Горкага, пісьменнік не саромеецца сказаць пра тое, што яго трывожыць і хвалюе:

**«Усё, што заключае ў сабе жорсткасць і безразважнасць, заўсёды знойдзе доступ да пачуццяў невука і дзікуна.**

**Нядаўна матрос Жалезнякоў, перакладаючы лютыя прамовы сваіх правадыроў на прастарэцкую мову чалавека з масы, сказаў, што дзеля дабрабыту рускага народа можна забіць і мільён людзей.**

**Я не лічу гэтую заяву пахвальбою і, хоць рашуча не прызнаю такіх акалічнасцей, якія змаглі б апраўдаць масавыя забойствы, але — думаю — што мільён «свабодных грамадзян» у нас могуць забіць. І болей могуць. Чаму не забіваць?**

**Людзей на Русі многа, забойцаў таксама дастаткова, а калі заходзіць справа пра суд над імі, улада народных камісараў натыкаецца на нейкія таямнічыя перашкоды, як яна, відаць, натыкнулася на іх у справе па расследаванні самага гнюснага забойства Шынгарова і Какошкіна. Пагалоўнае вынішчэнне нязгодных — стары выпрабаваны прыём унутранай палітыкі расійскіх урадаў. Ад Івана Грознага да Мікалая II гэтым простым і зручным прыёмам барацьбы з крамолай свабодна і шырока карысталіся ўсе нашыя палітычныя правадыры...**

**Але я думаю, што ў выніку такіх заяў мы атрымаем доўгую і самую жорсткую барацьбу ўсёй дэмакратыі і лепшай часткі рабочага класа супраць той заалагічнай анархіі, якую так дзейсна выхоўваюць правадыры са Смольнага.**

**Вось чым пагражаюць Расіі спрошчаныя пераклады анархакамуністычных лозунгаў на мову родных асін.**

**Птушаняты з бальшавікоў амаль штодзень кажуць мне, што я «адмовіўся» ад «народа». Я ніколі не адчуваў сябе «прыколатым» да народа настолькі, каб не заўважаць яго недахопаў, і як што я не лезу ў начальства, у мяне няма ахвоты замоўчваць гэтыя недахопы і распяваць цёмнай масе рускага народа дэмагагічныя акафісты.**

**Калі я бачу, што майму народу ўласцівая цяга да роўнасці ў нікчэмнасці, цяга, якая ідзе ад брудненькай азіяцкай здагадкі: быць нікчэмнымі — прасцей, лягчэй, безадказней; калі я гэта бачу, я павінен сказаць гэта».**

Асаблівай рэзкасцю вызначаўся артыкул Горкага «Нельга маўчаць». 20 кастрычніка 1917 года ў газеце «Рабочий путь» артыкулам «Акружылі мя цельцы мнозі тучны» Горкаму быў дадзены адказ. Артыкул быў напісаны І. Сталіным: *«Руская рэвалюцыя звергла нямала аўтарытэтаў. Яе моц выяўляецца, між іншым, у тым, што яна не схілілася перад слыннымі імёнамі, брала іх на службу або адкідвала ў небыццё, калі яны не хацелі вучыцца ў яе... Мы баімося, што Горкага «смяротна» пацягнула да іх, у архіў. Што ж, вольнаму воля... Рэвалюцыя не ўмее ні шкадаваць, ні хаваць сваіх нябожчыкаў...»*

Пісьменніка не збянтэжыў Сталінаў артыкул, ён і далей лічыў свае думкі слушнымі.

Тым часам Горкі лічыў, што менавіта бальшавікі, як найбольш паслядоўныя рэвалюцыянеры, знойдуць магчымасць прымірыць ідэалы культуры і рэвалюцыі: **«Бальшавікі? Уявіце сабе,— гэта ж таксама людзі, як мы ўсе, яны народжаны жанчынамі, звярынага ў іх не болей, чым у кожным з нас. Лепшыя з іх — выдатныя людзі, якімі з часам будзе ганарыцца руская гісторыя, а вашыя дзеці, унукі будуць захапляцца іх энергіяй. Іх дзеянні трэба жорстка крытыкаваць, нават высмейваць,— бальшавікі надзелены ўсім гэтым у ступені, магчыма нават, большай, чым яны заслугоўваюць. Вакол іх атмасфера задушлівай нянавісці ворагаў, і яшчэ горш, яшчэ згубней для іх — крывадушная, подленькая дружба тых людзей, якія, прабіваючыся да ўлады лісам, карыстаюцца ёю, як ваўкі, і — будзем спадзявацца! — здохнуць, як сабакі.**

**Я абараняю бальшавікоў? Не... але — я абараняю людзей, шчырасць перакананняў якіх я ведаю, асабістая сумленнасць якіх мне вядомая гэтаксама, як вядомая шчырасць іх жадання дабра народу. Я ведаю, што яны праводзяць самы жорсткі навуковы дослед над жывым целам Расіі, я ўмею ненавідзець, але больш хачу быць справядлівым.**

**О, канечне, яны нарабілі шмат самых грубых памылак,— Бог таксама памыліўся, зрабіўшы нас дурнейшымі, чым трэба было, прырода таксама шмат у чым памылілася — з боку нашых жаданняў, процілеглых яе мэтам і бязмэтнасці яе. Але, калі вы хочаце, дык і пра бальшавікоў можна сказаць нешта добрае,— я скажу, што, не ведаючы, да якіх вынікаў прывядзе нас нарэшце палітычная дзейнасць іх, псіхалагічна — бальшавікі ўжо зрабілі рускаму народу велізарную паслугу, бо ссунулі ўсю яго масу з мёртвай кропкі і абудзілі ва ўсёй масе актыўныя адносіны да рэчаіснасці, адносіны, без якіх наша краіна загінула б.**

**Яна не загіне цяпер, бо народ ажыў, і ў ім спеюць новыя сілы, якім не страшныя ні шалы палітычных наватараў, занадта разлетуцененых, ні прагнасць замежных рабаўнікоў, занадта ўпэўненых у сваёй неперамажнасці».**

Так думаў і так пісаў М. Горкі ў 1918 годзе.

Найбольш поўна адносіны М. Горкага да правадыра бальшавікоў выяўлены ў нарысе «У. І. Ленін», напісаным у 1924 годзе, адразу пасля смерці Ільіча. У ім Горкі ўспамінае і пра рознагалоссі 17—18-х гадоў. Пазней, у 1930 г., Горкі перапісаў нарыс, сёе-тое дадаў, але некаторыя моманты з рэдакцыі 1924 года былі апушчаны, напрыклад, такі:

**«І быў ён наскрозь рускі чалавек з «хітрынкай» Васіля Шуйскага, з жалезнай воляй пратапопа Авакума, з неабходнай рэвалюцыянеру прасталінейнасцю Пятра Вялікага».**

Цяпер, калі пачынаюць адраджацца публічнасць і дэмакратыя, стала вядома, што ў апошнія гады жыцця вялікі пісьменнік быў загадам Сталіна абмежаваны ў сваіх кантактах і дзеяннях. У доме М. Горкага панаваў сталінскі кат — Г. Ягода. Вядомы пісьменнік М. Прышвін, які нейкім чынам здолеў прарвацца да Горкага, падзяліўся ў тыя гады з М. Сланімскім: ***«Аляксей Максімавіч усё бачыць. Ён кажа, што ізаляваны, у палоне, у затачэнні...»***

Нядаўняя рэабілітацыя ўяўных забойцаў М. Горкага наводзіць на думку, што ён стаў ахвяраю забойцаў сапраўдных. Многія выказванні пісьменнікаў у апошнія гады жыцця, у тым ліку і пра Сталіна,— вынік найвялікшага падману, здрады справе Леніна і змоваў, якімі «бацьку народаў» удалося забаламуціць, а потым і расправіцца з партыяй, народам, пісьменнікамі...

*«Наконт Сталіна ведаю ад родных, як ён хацеў, каб Горкі напісаў яго біяграфію, пасылаў да яго людзей, якія ўгаворвалі, сам прывозіў фрагменты сваёй біяграфіі. Але яна не была напісана і нават пачата. Як мне расказвала бабуля, Кацярына Паўлаўна, Горкі ў апошнія гады, асабліва пасля сынавай смерці, многае пачаў пераасэнсоўваць, разумець».*

Гэта радкі з пісьма, якое прыслала аўтару гэтай публікацыі унучка вялікага пісьменніка — Марфа Максімаўна Пешкава.

Магчыма, калі-небудзь у папках «спецхрана» знойдуцца «запрапалыя» пасля смерці М. Горкага яго апошнія працы, лісты, і мы даведаемся, пра што ён думаў, што хвалявала Буравесніка рэвалюцыі перад смерцю.

Чытачы ж цяпер самі змогуць вызначыць: ці былі своечасовыя ў першыя гады рэвалюцыі і ці своечасовыя ў перыяд перабудовы некаторыя «Несвоечасовыя думкі» вялікага мастака слова.

**Публікацыя Леаніда ЗУБАРАВА**

**Пераклаў Васіль СЕМУХА**





## Міхайла ГЛІНСКІ

# УЗЛЁТЫ І ПАДЗЕННІ

**Віктар ЧАРОПКА**

Вядомы нямецкі падарожнік і дыпламат Сігізмунд Герберштэйн называў яго «чалавекам выдатнай вопытнасці і рэдкай доблесці». Другі сучаснік Глінскага — кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт Стары — гнявліва пісаў у сваіх лістах да аўгусцейшых асоб Еўропы, што Глінскі «здрадца», які «чарами сослал с сего света» караля і вялікага князя Аляксандра Казіміравіча і хацеў Вялікае княства пад сябе «подсести». Пэўна, гэтыя заявы Жыгімонта паўплывалі на нашага сучасніка — грэчаскага пісьменніка Міцаса Александрапуласа, які ў рамане «Сцэны з жыцця Максіма Грэка» вуснамі аднаго з герояў так характарызуе Глінскага: «Злахітры сябелюбца. Народжаны ён для смут і іншых нядобрых спраў». Паспрабаваў разабрацца ў няпростым характары гэтай супярэчлівай асобы і вядомы знаўца эпохі Адраджэння І. Галянішчаў-Кутузаў. Міхайла Глінскі для яго быў чалавекам, «які вызваліўся не толькі ад царкоўнае, але і ад усякае маралі, аматарам мастацтва і рэнесансавай пышнасці, смелым палкаводцам, буйным авантурыстам. Увесь свет уяўляўся яму нівою для задавальнення страсцей і славалюбства. У ягоным характары бачны трагічныя «шэкспіраўскія рысы».



Глінскія вялі свой род ад ханаў Вялікай арды. Пры Вітаўце яны перасяліліся ў Вялікае княства Літоўскае, прынялі праваслаўе, атрымалі землі з мястэчкам Глінск ля Палтавы. Адсюль і прозвішча.

Княскі тытул і багацце дазволілі маладому Міхайлу Глінскаму паехаць у Еўропу, доўгія гады жыць пры дварах герцага саксонскага Альберта і германскага імператара Максіміліяна, падарожнічаць па Іспаніі і Італіі.

Еўропа, якая скінула з сябе цёмную коўдру сярэднявечча, перажывала эпоху росквіту Рэнесансу. Гэта час «тытанаў духу» Эразма Ратэрдамскага і Леанарда да Вінчы, Альберта Дзюрэра і Тыцыяна, Томаса Мора і Рафаэля. Гэта час прымату гуманістычных ідэй і абуджэння думкі, смелых udараў па рэлігійных догмах аб будове свету і месцы чалавека ў ім, гэта час разняволення чалавечых пачуццяў і росквіту мастацтва. Аднак гэта і эпоха жорсткіх войнаў, злахітрасці, нягодніцтва, авантурызму і распусных нораваў — усяго таго, што пазней атрымае назву адваротнага боку тытанізму. Побач з мастакамі і паэтамі жывуць такія неардынарныя асобы, як міланскі герцаг Галенца Сфорца, які забаўляўся сцэнамі садаміі, Брачы Мантоне — кандацьер, што карыстаўся славаю забойцы, праліваў рэкі крыві, на кавальнях разбіваў галовы манахам, гандляр пасадамі і прошчамі папа Аляксандр VI і ягоны сын Цэзар, тыран Рыміні Малатэста, забойца і гвалтаўнік, здраднік і распуснік.

Усё гэта бачыць дапытлівы юнак з далёкай Літвы, усё гэта спакваля ўплывае на ягоную свядомасць і ўчынкі. Ён удзельнічае ў войнах, праходзіць усе ступені вайсковай службы, становіцца вядомым у Еўропе як смелы воін і ў 1499 годзе вяртаецца на Радзіму.

Адыходзіла ў гісторыю пятнаццатае стагоддзе. Слаўнае перамогаю над Тэўтонскім ордэнам і трагічнае братазабойчаю вайной беларуска-літоўскіх феадалаў каталіцкага веравызнання з беларуска-ўкраінскімі феадаламі вызнання праваслаўнага ў час княжання Свідрыгайлы. Разгарэлася вайна з Масквою, Вялікае княства слабела, страціла частку Смаленскай і Северскай зямлі. Частымі сталі набегі крымскіх татараў. Абвастрылася і ўнутранае становішча ў дзяржаве.

Фактычная ўлада ў Княстве належала буйным землеўладальнікам. Іхнім палітычным органам кіравання была вялікакняская рада, або паны рада, якая абмяжоўвала ўладу вялікага князя. Паны рада выступалі супраць Аляксандра Казіміравіча, які тады быў вялікім князем, а пасля смерці свайго брата Яна Альбрэхта — і каралём польскім. У Глінскім Аляксандр убачыў чалавека,



Фота Ігара САЎЧАНКІ

на якога можна было абаперціся ў барацьбе з панамі радай, ён наблізіў князя да сябе, прыслухоўваўся да ягоных парад, прызначыў дворным маршалкам. Паступова Глінскі пачынае ўплываць на дзяржаўныя справы. Каб умацаваць сваё становішча пры віленскім двары і ў дзяржаве, з дапамогай інтрыг вылучае сваіх братоў на важныя пасады: Васіль атрымлівае ваяводства ў Бярэсці, а Іван — у Кіеве. Католік, ён хаўрусуецца з праваслаўнай царквой і шляхтай. Можна зразумець паноў раду. Тут і зайздрасць да такога нечаканага ўзлёту, тут і нянавісць, тут і трывога ў прадчуванні барацьбы за ўладу з Аляксандрам, які трапіў пад уплыў Глінскага. Аляксандр не жадае быць «лялькай» у руках паноў рады, адмаўляецца на свае грошы трымаць войска і патрабуе ўвесці вайсковы падатак («срэбшчыну»). Спачатку паны рада спрабуюць «мірна» вырашыць «праблему» Глінскага. Аляксандру ўводзяць у вушы, што князь Міхайла — здрадца, спісаўся з Масквой, хоча захапіць вялікакняскі пасад, адасобіць Кіеўскую зямлю. Аляксандр не дае гэтаму веры. Тады супраць Глінскага нараджаецца змова. Трокскі (цяпер горад Тракай) ваявода Ян Забярэзінскі рыхтуе забойства дворнага маршалка. Выпадкова Глінскаму ўдаецца выкрыць змову, ён звяртаецца ў суд са скаргай на Забярэзінскага, але Аляксандр, палохаючыся выклікаць незадаволенасць паноў рады, мірыць Глінскага з ягоным ворагам.

У 1506 годзе на Брэсцкім сойме Глінскага зноў абвінавачваюць у дзяржаўнай здрадзе. І тут галоўным зачыншчыкам выступіў Ян Забярэзінскі — зноў іхнія шляхі перакрыжоўваюцца. Аднак і Глінскі не збіраецца сядзець склаўшы рукі, ён намаўляе вялікага князя праявіць рашучасць, паказаць сваю волю. Аляксандр у гневе гоніць прэч з вачэй паноў раду, Забярэзінскага пазбаўляе ваяводства і месца ў радзе.

І адразу супраць Аляксандра выступае каталіцкая царква, ледзь не анафему гатова праспяваць свавольнаму каралю. «Божа, адпомсці...»,— моліцца віленскі біскуп. А тут яшчэ польская шляхта забрала нямала здароўя. Аляксандра разбіў параліч. Цяжкахворы, ён яшчэ намагаецца сабраць войска супраць крымскіх татараў, што напалі на Беларусь. Дваццаць тысяч іх на чале з царэвічам Біціс-Гірэем трымалі ў аблозе Слуцак, дзе слуцкая княгіня Анастасія асабіста ўзначаліла абарону горада. Яшчэ дзесяць тысяч пад зверхнасцю будучага хана Махмат-Гірэя спляндравалі ваколіцы Менска. Над Вялікім княствам Літоўскім навісла смяротная пагроза.

У Лідскі замак, дзе ў гэты час знаходзіўся хворы Аляксандр, з беларускіх і літоўскіх зямель з'язджаліся харугвы шляхты. Сабралася болей за дзесяць тысяч воінаў. Кароль і вялікі князь, не маючы моцы ўзначаліць войска, перадаў камандаванне гетману літоўскаму Станіславу Кішку і Міхайлу Глінскаму. Пад іхнім кіраўніцтвам войска выступіла на татараў, якія ўжо абклалі Навагрудак. Вызваліўшы старажытную сталіцу Вялікага княства Літоўскага ад аблогі, войска на рацэ Уша разбіла перадавы атрад захопнікаў. Лёс рыхтаваў Глінскаму няпростае выпрабаванне. З-за хваробы адмовіўся ад гетманскай булавы Станіслаў Кішка, і паны рада прапанавалі яе Глінскаму. Той ведаў, што рызыкаваў: татараў удвая болей, а ў яго толькі надзея на перамогу ды прага вояў «амачыць мячы ў варожай крыві». Ну, а калі не пераможа? Ведаў, што чакае яго і ў гэтым разе: Забярэзінскі са сваёй хэўраю скарыстае нагоду, каб расправіцца з ім. Яшчэ можна было адмовіцца, не рызыкаваць. Ён не адмовіўся.

5 жніўня 1506 года на рацэ Лані ля Клецка адбылася адна з буйнейшых бітваў таго часу. Спачатку амаль тры гадзіны паміж войскамі ішла перастрэлка. За гэты час былі наведзены пераправы цераз раку. Па іх беларуска-літоўскае войска перайшло на другі бераг. Першыя ўдар татараў прынялі на сябе палкі правай рукі, дзе змагалася мінская, гародзенская і навагрудская харугвы. Яны стрымалі націск татараў, што дало магчымасць перайсці ў наступ палкам левай рукі, якія асабіста павёў у бой Глінскі. Татары не вытрымалі і кінуліся наўцёкі. Іх праследавалі некалькі вёрстаў да ракі Цэпры.

Летапіс Быхаўца паведамляе, што татараў і коней столькі патанула ў рачных хвалях, што воі пераязджалі раку на конях і пераходзілі пехатою па забітых. Трыццацітысячнае войска Крымскага ханства знайшло смерць ля Клецка, болей за сорак тысяч беларусаў і літоўцаў, захопленых у палон, атрымалі волю.

Здавалася, фартуна зноў прыхільна ўсміхнулася свайму выбранніку. Аднак смерць Аляксандра пераманіла лёс пераможцы татараў. Брат Аляксандра Жыгімонт, які стаў вялікім князем, а потым і каралём польскім, палохаючыся ўзмацнення Глінскага, забірае ў яго гетманскую булаву, пасля адхіляе ад ведання дзяржаўнай скарбніцай і, нарэшце, пазбаўляе пасады дворнага маршалка. Глінскага абвінавачваюць у наўмысным забойстве Аляксандра, у жаданні захапіць уладу ў дзяржаве. І гэта яшчэ не ўсё: Глінскага вінавацяць за вайну паміж Аляксандрам і яго цесцем — маскоўскім князем Іванам III. Галоўным абвінаваўцам выступае ўсё той жа Ян Забярэзінскі. І быць бы Глінскаму ў дагоду панам радзе пакараным «горлам», калі б не ягоная слава і еўрапейская вядомасць.

Яшчэ ўчора ўсемагутны фаварыт, удачлівы ваявода, а сёння абражаны і пазбаўлены ўсіх пасад, несправядліва абвінавачаны, Глінскі апынуўся на раздарожжы: змірыцца са сваім лёсам ці працягваць змагацца? Ён спрабуе мірным шляхам вырашыць канфлікт. На просьбу разабраць ягоную справу ў судзе Жыгімонт адмаўляе. Не падзейнічала на яго і заступніцтва за Глінскага венгерскага караля Уладзіслава з крымскім ханам Мендлі-Гірэем. Глінскі быў смелы чалавек. На валасок ад смерці, а кідае каралю: «Покушуся, кролю, о токую справу, которая тобе и мне напотом буде жалосная». Жыгімонт легкадумна прапусціў гэтыя словы міма вушэй. Аднак Глінскі не той чалавек, які забываецца на свае словы. Ён вырашыў падняць супраць вялікага князя мяцеж, адасобіць Кіеўскую зямлю і кіраваць там, а пры няўдачы — перайсці на службу да маскоўскага гасудара. У сваім маёнтку ў старажытным Тураве збірае незадаволеную Жыгімонтам беларускую шляхту. Адсюль адзін за адным з Турава разлятаюцца па Еўропе лісты Глінскага. Іх атрымліваюць валашскі гаспадар Стафан, імператар Максіміліян, крымскі хан Мендлі-Гірэй, магістр Лівоніі, вялікі маскоўскі князь Васіль III. Глінскі шукае сабе саюзнікаў, згуртоўвае кааліцыю супраць Жыгімонта. Энергія і спрыт Глінскага зайздросныя. Нездарма адзін з самых адукаваных людзей Польшчы Мацей Мяхоўскі бачыць у ім ідэал суверэна. Жалезная воля і самавалоданне, энергічнасць і паслядоўнасць, палітычная дасведчанасць і ўмельства плесці сеткі інтрыг, смеласць воіна і талент ваяводы — усё тое, чаго, на думку Мяхоўскага, не хапала Аляксандру, Жыгімонту і канцлеру польскаму Ласкаму, было ў Глінскага.

Крымскі хан абяцае князю дапамогу: дай толькі знак — і тысячы вояў прыйдуць на дапамогу. Ён адмаўляе крымчакам. У саюзнікі князь выбірае Васіля III. Той таксама рыхтаваўся да вайны з Жыгімонтам і таксама шукаў саюзнікаў. Паміж Глінскім і Васілём заключана пагадненне. Глінскі абяцае з «замками, которые у Литве держал» і якія захопіць, далучыцца да Масковіі. Васіль спадзяецца, што за мяцежным князем падымецца беларуская шляхта. Аднак ён пралічыўся: шляхта не падтрымала Глінскага. Многія засталіся верныя свайму сюзерэну — Жыгімонту, бо давалі клятву служыць яму вераю і праўдаю, іншыя чакалі ад караля і вялікага князя абяцаных уступак. Нават родны брат Іван, нягледзячы на тое, што быў пазбаўлены кіеўскага ваяводства, напачатку асцярожнічаў і не далучаўся да князя Міхайлы.

Глінскаму ўдалося сабраць усяго тры тысячы вояў. Не так гэта і многа, каб некаторыя гісторыкі мелі падставу казаць аб «масавым руху» беларускага народа за «ўз'яднанне з Расіяй». А калі ўлічыць, што палову войска князя склалі воіны Васіля, якіх маскоўскі гасудар паслаў свайму саюзніку, дык за Глінскім, акрамя ягонай загонавай шляхты, панцырных баяраў і зямян, пайшлі адзінкі. Каб прывабіць пад свае сцягі болей вояў, Глінскі не цураецца нічога: тут і шантаж, і пагрозы, і хлусня на знатныя фаміліі дзяржавы, і інтрыгі, і зусім нечаканае: католік, ён раптам выдае сябе абаронцам «грэчаскага закону». Маска барацьбіта за праваслаўе згадзілася, і князь зноў нацягвае яе на твар. Дзе не дапамагалі інтрыгі і хітрасць, князь пускае сілу, як у выпадку са слуцкай княгіняй Анастасіяй. Ён сватаецца да яе ў надзеі завалодаць багаццем Алелькевічаў. Адмова княгіні яго не бянтэжыць. І вось ужо мяцежныя загоны пад сценамі Слуцка.

Каб зразумець характар мяцяжу, што за «мужыцкі князь» і змагар за «шчасце Беларусі» быў князь Міхайла, варта зазірнуць у ліст Глінскага да Васіля, напісаны ў красавіку 1507 года. «...Везде люди вашей милости огонь пускали и шкоды чинили, а полону на колкось десять тысяч взяли»,— пісаў Глінскі. Пад палонам трэба разумець не вояў Вялікага княства Літоўскага, а сялян, якіх гвалтам захоплівалі і гналі на маскоўскі бок. Кроў і слёзы пакідаў пасля сябе Глінскі, але гэта мала хвалявала яго. Мэта апраўдвае сродкі.

Карыстаючыся тым, што Жыгімонт выехаў у Польшчу на сойм, мяцежны князь напаў на Гародню і захапіў свайго даўняга ворага Яна Забярэзінскага. Адсечаную галаву Забярэзінскага на дзідзе пранёс праз увесь горад. Гэтая перамога каштавала Глінскаму другой — больш важнай: Вільня паспела падрыхтавацца да аблогі, і князь не рашыўся браць яе штурмам. Няўдача чакала яго пад Менскам і Слуцкам: доўгая аблога гэтых гарадоў не прынесла плёну. Толькі Мазыр адчыніў сваю браму мяцежнікам, бо мазырскі ваявода Якуб Івашэнцаў быў сваяком Глінскаму. Скарыліся яшчэ Гомель і Крычаў, але іншыя беларускія гарады сустракалі мяцежнікаў зброяй. Князь у адчаі воўкам шнуруе па Беларусі, ад горада да горада, дзе трымалі аблогі ягоныя загоны, шле лісты Васілю, каб маскоўскія войскі «без потребы не лежали, а розумеючи по делу, впред дело делали». Хоць і былі пасланы на дапамогу атрады, аднак скрыжаваць зброю з беларуска-літоўскім войскам яны не спяшаліся. Глінскі разумее, што Васіль вядзе за ягонаю спіною гульню, спадзеючыся, што Жыгімонт, напалоханы мяцяжом, будзе згаворлівы на перамовах аб міры. Упершыню князь затаіў у душы крыўду на Васіля. Ён спыніў мяцеж і пакінуў Беларусь.

Глінскі патрэбны Васілю. «Маскоўскі гасудар спадзяваўся, што ён зможа захапіць усю Літву, карыстаючыся парадаю і дапамогаю Міхайлы»,— сведчыць Герберштэйн. А каб князь не шукаў новага гаспадара, дае яму землі. Толькі Глінскі лічыць, што ўзнагароджаны не паводле заслуг. Што яму гэтыя землі? Ці варта было браць у рукі зброю, каб прыніжана шукаць ласкі на чужыне? Глінскаму патрэбна ўлада, ён з тых, для каго жыць — значыць змагацца за ўладу. А маскоўскі гасудар да дзяржаўных спраў яго не дапускаў. Напісаць ліст Максіміліяну ці лівонскаму магістру — гэта калі ласка, а далей ведай сваё месца. І зноў у душы крыўда на Васіля. Былыя заслугі не браліся пры двары маскоўскага князя пад увагу. Сабачая адданасць і ліслівасць, пакорлівасць — вось што патрабавалася ад падданых вялікага князя. Глінскі не мог быць такім. Ён ведае: калі не скарыцца перад Васілём, дык яго чакае лёс беларускага князя Івана Лукомскага, якога на пацеху натоўпу спалілі ў клетцы, або князя Фёдара Бельскага — таго, што разам з беларускімі князямі Алелькевічам і Гальшанскім сваёй змоваю ў 1480 годзе супраць Казіміра Ягайлавіча, караля польскага і вялікага князя літоўскага, бацькі Аляксандра і Жыгімонта, сарваў ягоную задуму выступіць на дапамогу хану Ахмату і тым самым выратаваў Масковію ад бяды. «Удзячны» Іван III на чатыры гады схаваў князя Бельскага за краты. Вонкава Глінскі паслухмяны Васілю, а ў сэрцы ўжо нараджаецца здрада. Чакаў толькі новай вайны з Літвой, спадзяваўся: а раптам вялікі князь згадае пра ягоны вайсковы талент?

У 1514 годзе Васіль з вялікімі рацямі штурмуе Смаленск. Каторы ўжо раз гэты старажытны крывіцкі горад становіцца перашкодаю вялікадзяржаўным задумам Васіля. Успамін аб трагічным лёсе Ноўгарада і Пскова, чыя вольнасць была растаптана маскоўскім ваяром, вымушае смаленцаў адчайна бараніць свой горад. Вось тады Васіль III скарыстаў дапамогу Глінскага, паабяцаўшы зрабіць яго ваяводаю Смаленска. Слава Глінскага і тое, што ён паручыўся за Васіля, які дакляраваў захаваць гараджанам усе вольнасці, калі здадуць горад, адчыніла браму Смаленска. Васіль тут жа забыўся пра свае слова. «Навошта табе горад? Я аддаю табе ўсю Літву»,— здзекаваўся вялікі князь з Глінскага. Гэтая пыхлівасць пасля дорага абышлася яму. Папулярнасць Васіля сярод праваслаўнага люду ўпала. І як вынік — змова супраць яго ў Смаленску і сакрушальнае паражэнне ад беларуска-літоўскага войска пад Воршаю.

І чарговы раз упаўшы, Глінскі знаходзіць сілы падняцца. Не атрымалася з Васілём, паспрабуе з Жыгімонтам, тым болей што той ужо паразумнеў, даруе яму і кліча да сябе. «Хто ходзіць крывымі шляхамі — упадзе на адным з іх»,— вяшчае Біблія. Наўрад ці думаў пра гэта Глінскі, калі ўпотай уначы пакідаў лагер маскоўскіх войскаў. Ды толькі Васіль ужо ведаў аб здрадзе свайго слугі. Жыгімонтаў вястун шляхціц Трэпка, злоўлены вялікакняскімі воямі, пад катаваннямі выдаў Глінскага.

Зноў звяртаюся да Герберштэйна. Вось як ён апісвае сустрэчу Васіля і Глінскага. «Злахітры, я ўчыню табе вартае пакаранне, па заслугах». Міхайла адказаў на гэта: «Не прызнаю абвінавачання ў злахітрасці, бо калі б ты застаўся верны сваім абяцанням, дык меў бы ўва мне самага вернага з усіх слуг. Але раз ты не выконваеш абяцанні, а, акрамя таго, ты з мяне насміхаешся, дык мне асабліва шкада, што я не мог выканаць таго, што задумаў супраць цябе. Смерць я заўжды зневажаў і без жаху сустрэну яе хаця б з тае прычыны, каб не бачыць твайго твару, тыран». Прайграваць ён таксама ўмеў.

Дзесяць гадоў правёў Міхайла Глінскі за кратамі. Кайданы на руках і нагах, адзінота і цемра... Васіль так і не дачакаўся прыніжанага плачу аб літасці. А вызваленне прыйшло нечакана. Васіль пасля дваццаці аднаго года жыцця са сваёю жонкаю Саламоніяй Сабуравай так і не дачакаўся ад яе дзіцяці. Адправіўшы яе ў манастыр, вялікі маскоўскі князь ажаніўся з маладой прыгажуняй Аленай Глінскай — пляменніцай князя Міхайлы, дачкой былога берасцейскага ваяводы Васіля Глінскага. Па просьбе Алены маскоўскі гасудар вызваляе непакорлівага князя. А перад смерцю ён абірае Глінскага апекуном сваіх дзяцей, у тым ліку будучага Івана Грознага. Менавіта Глінскі — лічыць Васіль — можа абараніць іх і вялікакняскі пасад ад дамаганняў іншых Рурыкавічаў. Так воляю лёсу князь зноў апынуўся на вяршыні зямной улады. Разам са сваёй пляменніцай — вялікай княгіняй Аленай — ён уладарыць у Масковіі, праводзіць шэраг рэформаў, якія аздараўляюць жыццё ў дзяржаве. І ўсё ж, відаць, не пад шчаслівай зоркай нарадзіўся князь. Вось і зараз супраць яго змова, і Алена пад націскам свайго фаварыта баярына Аўчыны, які прагна цягнуў рукі да ўлады, абвінавачвае дзядзьку ўсё ў той жа дзяржаўнай здрадзе. Зноў падзенне, каб зноў падняцца — ужо на эшафот...

Здавалася б, навошта было так падрабязна апавядаць пра гэтага чалавека? Хіба ён прыклад для пераймання? Міхайла Глінскі, ягонае жыццё і ўчынкі — гэта наша гісторыя, і ад таго, што ў ёй былі вось такія бурлівыя асобы, яна толькі больш цікавейшая і багацейшая. Хто стане спрачацца? А калі нагадаць, што пад зверхнасцю Глінскага беларуска-літоўскае войска перамагло ў буйнейшай бітве з татарамі, дык ён заслужыў, каб і праз стагоддзі мы з удзячнасцю памяталі пра яго.

# ЗАРЦІПО



**ЛЕДЗЬ НЕ АБСУРДНЫЯ НАТАТКІ ПРА ЗУСІМ НЕ АБСУРДНУЮ РОК-ГРУПУ «ЗАРЦІПО» З ГОРАДА МІНСКА, ЯКІЯ ЗРАБІЎ АДЗІН З ЯЕ ЎДЗЕЛЬНІКАЎ.**

Група стварылася ў сакавіку 1988 года. Член Беларускага рэспубліканскага эксперыментальнага маладзёжнага цэнтра «Крыніца».

Іванкоў Андрэй (сола-гіт., кіраўнік), Шашок Валерый (вакал), Саўчанка Андрэй (бас-гіт., вакал), Старыковіч Сяргей (ударныя, Камоцкі Алесь (сакс.), Уколаў Уладзімір (гіт., вакал).

Выпусцілі магнітафонны альбом «Но надо встать...» (1988 г.)

У рок-групе «Зарціпо» ўзялі ўдзел музыканты, якія маюць вялікі вопыт працы ў галіне рок-музыкі. Асноўная частка музыкантаў яшчэ з 1978 года працавала ў рок-групе «Блізняты». Адназначна вызначыць сённяшні стыль групы цяжка, гэта рок з элементамі панк-, джаз-, арт-року, гэта вострасацыяльныя, палемічныя тэксты песень з пэўнай доляй сарказму, гэта гумар, нярэдка чорны, але заўсёды вясёлы.

## I. А ЯШЧЭ БЫЛО ТАК АДНОЙЧЫ...

Пры клапатлівай падтрымцы верных таварышаў на сцэну выйшаў, цяжка пераступаючы, чалавек у пінжаку і пры гальштуку. Вось таварышы пакінулі яго ў адзіноце на авансцэне.

— Дорогие друзья!..— прамовіў чалавек. Зала вельмі ўзрадавалася. Чалавек працягваў пад адабральны гоман.

Потым песня пра тое, што ўсім, хто заслугоўвае ўзнагароды, трэба тэрмінова іх выдаваць.

Звягнуў апошні акорд. Многія з прысутных ужо доўга не сядзелі на месцы і разам з тымі, хто яшчэ не адарваў сябе ад крэсла, зацята скандзіравалі: «Зарціпо! Зарціпо!..»

Дзіўнае, аднак, нейкае слова.

— Бывают! Потому я знаю! — так адказвае чалавек, з апісання якога мы пачыналі.

Спадзяёмся, што ён не хлусіць...

## II. УВОДЗІНЫ Ў ГІСТОРЫЮ

А яшчэ было так аднойчы. Калі барабаншчык Сярожа запрашаў вядомага вынаходніка-самавучку з гуманітарнай адукацыяй паставіць дванаццаты замок у дзверы яго кватэры, ім абодвум было па дваццаць гадоў.

Цяпер аднаму дваццаць шэсць, другому — трыццаць, замок хутка будзе пастаўлены, але справа зусім не ў гэтым, а толькі ў тым, што час ходам сваім неяк спрытна робіць з таго, што было, тое, што мы памятаем. Гэта супакойвае...

## III. ГІСТОРЫЯ

Цяпер ужо мала для каго застаецца сакрэтам, адкуль бяруцца дзеці (інфармацыю пра гэта, напрыклад, можна атрымаць з часопіса «Парус» № 6, 1988, с. 28—33). Дык вось, дзяцей было паўтузіна, і ўсе яны былі блізнятамі. Радасна скакалі па мяккай траўцы пад пяшчотным сонейкам. Але ж з усімі здарылася адно і тое ж няшчасце, вельмі тыповае для дзяцей. Яны пасталелі. Трэба было штосьці рабіць, пачалі рабіць музыку. Падзеі мелі імклівае развіццё. Блізняты музыцыравалі і ўжо пачалі фігурыраваць. І хто ведае, што сталася б далей, каб аднаму з іх не зрабіліся цесненькімі шэранькія штонікі, другому самому захацелася займець дзетак, трэці, які кепска ведаў, куды грошы дзяюцца, вырашыў даведацца, адкуль яны бяруцца...

Карацей кажучы, хтось, прыйшоўшы на рэпетыцыю з адчуваннем таго, што «яблоки на снегу» — гэта зусім не бульба на сале, прамовіў разважна: «Зарціпо!..»

— Ды што ты! — спалохана запярэчылі астатнія, і, не знайшоўшы болей слоў на адпаведзь нахабу, выбухнулі хто старымі, традыцыйнымі выразамі, а хто новымі песнямі, якія ўмомант праглынула, немаведама адкуль з'явіўшыся, з а р ц і п о.

Так скончылася гісторыя і пачалося новае жыццё, якое выходзіць за межы з а р ц і п о толькі па крайняй патрэбе.

## IV. МАНІПУЛЯЦЫІ ГАЛОВАМІ

Спачатку галовы завярнуліся ўбок. А там

Кирпичные уши
немой стены
ослепшие души
разбившие лбы.

Галовы, не стрываўшы натугі, адхіліліся набок.

Раптам дарогу перабег той, каго спачатку ўсе палічылі за чорнага ката, скруцілі ў кішэнях дулі, але не спыніліся. Падышлі бліжэй і зразумелі, што маюць справу з ахайна апранутым грамадзянінам звычайнай знешнасці.

Галовы стаміліся маніпуліраваць. Далей ісці ніхто не змог. Спыніліся. І зразумелі — каб ісці далей, трэба спярша навучыцца прыстойна стаяць, а каб рух быў скіраваны сапраўды наперад і не выглядаў бязглузда, трэба стаяць на сваім.

Пажадана пры гэтым часцей глядзець на гадзіннік, сачыць за часам, бо хто не робіць гэтага, можа застаяцца.

Галовы схіліліся, і зачасалася ў іх. Мусіць, трэба пакінуць іх пакуль у гэтакім стане. Хочацца верыць, што ён дапаможа зазірнуць у далечыню.

## V. ВЫВОДЗІНЫ З ГІСТОРЫІ

А яшчэ было так аднойчы. Даўно. Ішоў па горадзе кароль. Дэманстраваў сваё новае адзенне.

— Дык ён жа голы! — заўважыў адзін дзіцёнак.

— Зарціпо! — прамовіў другі.

Але ж ніхто не ўзяў гэта на веру...

**Алесь КАМОЦКІ**



# КАГО НЕ ХАПАЕ?

...На маляўнічым Сігулдскім узгорку мяне напаткалі дзве карэспандэнткі. «Радыё. Што дае вам фальклор?»

Да гэтага моманту я быў упэўнены, што лёгка адкажу на самае вострае пытанне. Сваё інтэрв'ю, аднак, прыйшлося распачынаць так: «Ну... Э-э...»

Менавіта пасля інтэрв'ю мяне пачалі праследаваць усялякія ўяўленні.

...Я пабываў у Латвіі. Там ажно дваццаць тысяч чалавек могуць без указанняў зверху (!) умомант арганізаваць (лепш — пераўтварыцца ў) адзіны хор і без папярэдніх рэпетыцый (!) спяваць латышскія народныя песні. У хоры спяваюць рабочыя, сяляне, інтэлігенты, студэнты, міністры, сакратары ЦК КП Латвіі.



**...Сапраўдны фальклор нам вельмі патрэбен. Сёння.**

**...Уяўляю беларускую гаворку на вуліцах роднага горада, у дзіцячых садах, школах, вышэйшых навучальных установах — паўсюль.**

...Уявіўся таксама іншы хор. Беларусы спяваюць беларускія народныя песні. Углядаюся я. Бачу — не хапае кагосьці. Потым здагадаўся — гэта ж няма абсалютнай большасці нашай тэхнічнай інтэлігенцыі! Пустуюць многія месцы выпускнікоў БДУ, МДПІ, БПІ, РТІ, БТІ і іншых ВНУ (не кажучы ўжо пра моцныя галасы ВІЗРВ). Не відаць і маіх калег — супрацоўнікаў інстытута тэхнічнай кібернетыкі АН БССР. Няма — і ўсё тут.





Разам з уяўленнямі прымроілася пытанне: ці можа быць на Беларусі фальклорны фестываль?

Людзі дасведчаныя падказалі: гэткія пытанні заўжды вырашаюць адпаведныя міністэрствы і ведамствы; вырашаць — будзе народнае свята, не вырашаць — не будзе.

Хто, што і калі вырашыў у Эстоніі, Латвіі і Літве, я не ведаю. Але фальклорныя святы там ёсць. Вось і сёлета ў Латвіі — «Балтыка-88».

Мне пашчасціла браць удзел у гэтым фестывалі ў складзе фальклорнага ансамбля «Неруш». Тое, што я бачыў і адчуваў, адбывалася неяк на мяжы явы і ўяўленняў, так што я да гэтага часу сумняваюся ва ўсім (асабліва пасля інтэрв'ю)... Але ў адным упэўніўся: і нам на Беларусі патрэбен падобны фестываль. Нам патрэбен лікбез (ліквідацыя бязграматнасці) у дачыненні да фальклору. Нам патрэбна... шмат з таго, што было там — у Латвіі.

...Былі ўдзельнікі — шматлікія латышскія, эстонскія і літоўскія калектывы; былі госці — Беларусь (прадстаўляў «Неруш»), РСФСР, ЗША, ФРГ, Нарвегія, Швецыя, Фінляндыя, Іспанія, Польшча, Балгарыя.

Было адкрыццё фестывалю ў Палацы спорту ў Рызе. Тыдзень канцэртаў на розных пляцоўках Латвіі. Закрыццё ў Огрэ — латышскія народныя песні ў выкананні дваццаці тысяч гледачоў.

Выходзілі спецыяльныя друкаваныя выданні: буклеты, газета «Baltica-88». Па радыё і тэлебачанні гадзінамі гучалі латышскія народныя песні. (Гэтая «прапаганда», як ні дзіўна, не замінала ні палітычным аглядам, ні рок-праграмам.)

Тут і там па Латвіі крочылі людзі ў разнастайных нацыянальных уборах.

Быў настрой. Агульны настрой латышоў: любоў да сваёй песні і павага да чужой.

Былі сустрэчы.

«Ці размаўляюць у Мінску на роднай мове?» — пыталіся многія латышы і літоўцы.

Пасля аднаго з выступленняў да «Неруша» падышоў сталы эстонец. Пахваліўшы, сказаў: «Здаецца, беларусы пачынаюць знаходзіць сябе». Прыемна было. І горка.

Шмат у якіх ансамблях з Прыбалтыкі разам з сваімі дзядамі і бабулямі спявалі дзеці і ўнукі, нават праўнукі. Вельмі многа было дзяцей і сярод гледачоў.

«Цяпер у нас такая тэндэнцыя: гарадскія фальклорныя калектывы вывучаюць песні, танцы, абрады пэўнага этнічнага раёна Літвы і спрабуюць максімальна наблізіцца да манеры выканання яго жыхароў,— распавядаў кіраўнік фальклорнага ансамбля з Каўнаса і пытаў: — А як у вас?...»

І тое, што немагчыма апісаць, перадаць. Гэта чалавечая радасць і асалода ад роднага слова, родных песень і танцаў...

Усё гэта было. Былі таксама і карэспандэнткі на Сігулдскім узгорку, дзе я, нягледзячы на «Ну... Э-э...», усё ж такі адказаў на іхняе наіўнае пытанне.

Сапраўдны фальклор не дае грошай. Нікому.

Сапраўдны фальклор — стан душы, настрой, праява нацыянальнага характару.

Сапраўдны фальклор нам вельмі патрэбен. Сёння.

Пасля «Балтыкі» засталіся ўспаміны і ўяўленні.

Уяўляю беларускую гаворку на вуліцах роднага горада, у дзіцячых садах, школах, вышэйшых навучальных установах — паўсюль.

Уяўляю сабе выбух цікавасці да фальклору ў беларускіх гарадах.

Уяўляю буйны рост нацыянальнай самасвядомасці і сапраўдны росквіт нацыянальнай культуры беларусаў.

Уяўляю...

Ці стануць явай уяўленні?

**Аляксей БУРАЎКІН,**
**малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута тэхнічнай кібернетыкі АН БССР**

## МУЗЫЧНЫ ТЭЛЕТАЙП

Пасля паспяховых выступленняў у Венгрыі «Гукі Му», група маскоўскай рок-лабараторыі, пабывала на фестывалі альтэрнатыўнай рок-музыкі ў Варшаве. Польскія крытыкі вельмі высока ацанілі выступленне «Гукаў». На іх погляд, калектыў Пятра Мамонава сёння адна з самых цікавых альтэрнатыўных рок-груп свету. Мясцовая прэса лічыць таксама, што калі «Гукам» удасца знайсці фінансавую падтрымку і рэкламу, група зможа зрабіць бліскучую кар'еру.

Пласцінка групы «Сэкс Пістолз» праз 11 гадоў пасля выхаду нечакана стала ў ЗША «залатою».

Вільнюская група «Антыс» пабывала з гастролямі ў Польшчы і запісала 6 песень у варшаўскай студыі гуказапісу «ЦДС». Стужку музыканты збіраюцца прапанаваць фірме «Мелодия», а пакуль яе распаўсюджвае вільнюская студыя «Цэнтр». У «Антыса» ёсць ужо цікавыя прапановы: магчыма, музыканты паедуць разам з Уладзімірам Чакасіным у Фінляндыю і па запрашэнні Міністэрства культуры СССР — у Парыж.

Лонданская радыёстанцыя «Кэпітл» правяла сярод сваіх слухачоў анкету на «лепшую песню ўсіх часоў», у якой прынялі ўдзел 35 тысяч чалавек. Першае месца атрымала песня «Лесвіца ў неба» групы «Лэд Зэпэлін», на другім — «Багемская рапсодыя» «Куін». Трэцяе месца ў песні «Я не закаханы» групы «Тэн Сі Сі».

Талінскія музыканты Валерый Трацякоў, Міхаіл Шавароў і група «Не чакалі» сталі ініцыятарамі руху «Рок супраць смяротнага пакарання». Як вядома, цяпер ідзе праца над стварэннем новых крымінальных законаў СССР. Удзельнікі руху ўжо далі некалькі канцэртаў у Таліне.

У Кіеве прайшоў першы ў гісторыі горада рок-фестываль, арганізаваны гарадскім рок-клубам. 17 мясцовых груп паказалі вельмі разнастайную па стылях праграму. Прызамі былі адзначаны групы «Фаэтон», «Агонія», «Загублены свет», «Альбіён», «Кватэра № 50», «Эдэм».

Мажліва, электронны дуэт «Новая калекцыя» хутка стане трыо і будзе выконваць не толькі інструментальную музыку. Ігар Кезля і Андрэй Маргуноў запісалі некалькі кампазіцый разам з салісткаю тэатра імя Неміровіча-Данчанкі Лізаю Суржыкавай. Музыканты заявілі, што вопыт удаўся і ў далейшым яны будуць выкарыстоўваць вакал, але гэта абавязкова будзе жаночае сапрана і ў нетрадыцыйным варыянце. «Новая калекцыя» досыць упэўнена выходзіць на міжнародную арэну. Іхняя музыка была зычліва сустрэта ў Таіландзе, Лаосе і на Кіпры. У ФРГ яны разам з Лаймаю Вайкуле і Вячаславам Малежыкам былі гасцямі фестывалю «Сустрэча Захаду з Усходам». Бліжэйшая паездка групы — у Італію.

Група Алега Гусева, якая летась перакваліфікавалася ў «металічную», стала заўсёднікам еўрапейскіх мэтал-рок-фестываляў. Пасля выступленняў у Даніі музыканты пабывалі на фестывалі «Мэталманія» ў Польшчы, дзе разам з заходнегерманскай групаю «Крэатор» былі ганаровымі гасцямі. Сваіх прыхільнікаў «Жнівень» парадаваў новым альбомам, які называецца «Удар у адказ».

Да свайго дэбюту ў кіно Уітні Х'юстан выбрала ролю ў фільме пра Джазэфіну Бэйкер, вядомую цёмнаскурую танцоўшчыцу кабарэ дваццатых гадоў. Мадона таксама сыграла ролю танцоўшчыцы ў фільме-мюзікле «Вышукнікі Брадвея».












Дзея фільма-трылера «Кур'ер» адбываецца ў свеце дублінскіх наркаманаў. Галоўную ролю ў ім выконвае Кэйт О'Рыардан, бас-гітарыстка групы «Зэ Погз», яна ж — жонка Элвіса Кастэлы. Сам Кастэла, узяўшы гэтым разам псеўданім Дэклан Макмунус, напісаў да фільма большую частку музыкі. У фільме будзе таксама гучаць песня групы «Ю Ту» з сінгла «З табою ці без цябе» (у альбом «Дрэва Джошуа» яна не ўвайшла).

Французская тэлепраграма «Антэн-2» зняла ў Маскве відэафільм з удзелам 18 савецкіх рок-груп. Сярод іх і маладыя калектывы — адкрыццё ліпеньскага рок-фестывалю ў Вільнюсе «Лямант Відаплясава» з Кіева, украінская група «Калежскі асэсар». Маладыя музыканты маюць рэальны шанц з'явіцца на французскім тэлебачанні раней, чым на савецкім.






У інтэрв'ю карэспандэнту ленінградскай газеты «Смена» Раймэнд Паўлс заявіў, што пасля апошніх сумесных канцэртаў на юбілеі Ільі Рэзніка шляхі яго і Алы Пугачовай «разышліся назаўсёды».




Аўтабіяграфічная кніга папулярнай амерыканскай спявачкі і актрысы Мішэль Філіпс, былой салісткі квартэта «Мамас энд Папас», будзе экранізавана пад назваю «Каліфарнійская мара». У ролі Мішэль здымецца яе дачка Чынна, якая сама спрабуе свае сілы на рок-эстрадзе. У групе, якую яна нядаўна арганізавала, спяваюць таксама дзве дачкі Браяна Уілсана з «Біч Бойз» — Уэндзі і Карні.

Кіраўніцтва фірмы «Сі Бі Эс» нагадала музыкантам групы «Клэш», што ў падпісаным імі кантракце яны абавязаліся запісаць 10 альбомаў, але дагэтуль абяцання не выканалі. Не ведаючы, як выбрацца з далікатнай сітуацыі, музыканты, аднак, працягваюць працаваць паасобку. Джо Страмэр, напрыклад, закончыў працу над музыкай да фільма.

Знакамітая ў мінулым брытанская група «Тэн Ез Афтэ» зноў збіраецца разам. На канец года аб'яўлены вялікія гастролі.

Эн Уілсан абвергла слыхі пра тое, што група «Харт» распалася. Проста яна працуе цяпер над сольным альбомам, а яе сястра Нэнсі прымае ўдзел у стварэнні музычнага мультыплікацыйнага фільма «Сябры мары».

Група «Іксэпт» зноў страціла вакаліста. Роб Эрмітыдж, які змяніў у канцы мінулага года Уда Дзіркшнайдэра, заявіў, што ў групе больш не выступае.

Дуэт «Модэрн Токінг» усё ж распадаецца. Дзітэр Болэн нядаўна заявіў, што «больш не можа працаваць з хлопцам, які цалкам пад абцасам» — так сказаў ён пра закаханага ва ўласную жонку Андэрса.

З групы «Сіндэрэла» пайшоў барабаншчык Фрэд Коўры. Ягонае месца заняў знакаміты Козі Поўэл.

Мадона сыграе невялікую ролю сакратаркі ў маленькім нью-йоркскім тэатры Міццы-Ньюхаўз у камедыі «Хуткасць плуга».

На сваёй апошняй пласцінцы Білі Брэг просіць маладых амерыканцаў, каб на бліжэйшых выбарах яны галасавалі за кандыдата ад рэспубліканскай партыі. На вокладцы пласцінкі напісана: «Калі ласка, будзьце гэтым разам больш уважлівыя...»

Група «Ран Ды-Эм-Сі» прайграла судовы працэс сваёй кампаніі. Цяпер музыкантам прыйдзецца запісвацца на гэтай фірме да XXI стагоддзя! Група таксама абавязана запісаць для фірмы 10 альбомаў і вярнуць паўмільёна судовых выдаткаў. Так ці інакш, але пасля вельмі ўдалай пласцінкі 1986 года, якая была прададзена тыражом 3,3 мільёна, выходзіць іх чарговы альбом.












Яшчэ не забыты квінтэт «Тэмптэйшнз» зноў канцэртуе. Новая пласцінка групы — «Зноў разам»— анансуе турнэ па Брытаніі.

Яўгену Маргулісу, напэўна, надакучыла, што ягоную групу «Навуцілус» пастаянна блытаюць са свярдлоўскай «Навуцілус Пампілівус», і ён вырашыў змяніць назву. Цяпер ягоная група называецца «Шанхай». Нечаканую назву Яўген тлумачыць той акалічнасцю, што Шанхай — адзін з гарадоў свету, дзе цесна спляліся самыя разнастайныя культуры свету. Новая група збіраецца граць вельмі змешаную музыку, дзе будзе блюз, «хваля», джаз і рэгі. Склад у «Шанхая» такі: Дзмітрый Рыбакоў і Сяргей Гусеў — гітары, Міхаіл Калташоў — ударныя.

Група «Містэр Містэр» узяла ўдзел у музычным фестывалі ў Чылі. Была выканана песня Стыві Уандэра «Высокая зямля», якую музыканты прысвяцілі артыстам, што праследуюцца Пінačэтам.

Нядаўна створаная канадская фірма «Інтрэпід рэкорд» выпусціла альбом пад назваю «Галоснасць», на якім прадстаўлены 12 кампазіцый 9-ці савецкіх выканаўцаў, сярод якіх Пугачова, Ратару, «Круіз».

Брус Спрынгстын даў згоду, каб ягоная песня «Народжаны ў ЗША» была выкарыстана ў дакументальным фільме пра в'етнамскую вайну пад назваю «Дарагая Амерыка: лісты дамоў з В'етнама».

Джордж Харысан, натхнёны поспехам альбома «Дзевятае неба», аб'явіў, што ў другой палове 1988 года адправіцца ў турнэ па Заходняй Еўропе і Злучаных Штатах. З ім будуць выступаць тыя ж музыканты, якія запісалі альбом: Эрык Клэптан, Джэф Лін, Элтан Джон і Рынга Стар.

## МУЗЫЧНЫ ТЭЛЕТАЙП

ВЕРНІСАЖ

# ЦІ ЛЁГКА СТАЦЬ РЭТРАГРАДАМ?

**Алесь ТАРАНОВІЧ, мастак**

**...Гэтыя «нефармалы» не наіўныя прастакі, «яны ведаюць, у якія афіцыйныя дзверы грамадскіх інстытутаў пастукацца. Адчуваюць, куды вецер дзьме. Перад імі расступіліся».**

**...На шчасце, не прыйдзецца мастакам з «Галіны» падзяліць і лёс А. Дайнекі, які за рубель купіў у вартаўніка сметніку свае выкінутыя карціны.**

**...Салодкая ідэалізацыя, танная імпазантнасць, эфектныя аксесуары і дробная натуралістычная ілюзорнасць — вось што выдавалася за «сацыялістычны рэалізм».**

«Да алімпа падышлі новыя атрады, не падмацаванні ранейшым: яны пацяснілі іх, сціпла сабраных ля падножжа. Навенькія ішлі, загадзя гатовыя да абароны, лепшы спосаб якой, вядома, напад. Пачуўся баявы заклік...»





Займальна? Здагадайцеся, пра што ідзе гаворка. Ні за што не здагадаецеся. Напэўна, на памяць прыйдуць міфы старажытнае Грэцыі. Раскрываю карты: усё нашмат больш празаічна. Гэта пачатак артыкула «Пробуя голос» у часопісе «Творчество» (№ 7 за 1988 год), артыкула, у якім аналізуецца выстава мастакоў-«нефармалаў» з групы «Галіна» ў Мінскім Доме работнікаў мастацтваў. Аўтар — мастацтвазнаўца Ларыса Салодкіна. Няхай вас не здзіўляе такі нетрадыцыйны пачатак. Час цяпер такі. Рэвалюцыйная перабудова ўварвалася нарэшце і ў лабірынты выяўленчага мастацтва, і нясе хваля перабудовы на сваім грэбені ўсялякае смецце, як тут не паставіць фільтр, балазе вопыт назапашаны вялікі. Давайце разам з аўтарам ацэнім маральна-этычныя і заадно творчыя якасці гэтых «нефармалаў», якія «паімчаліся наверх, абганяючы тых, хто ўзбіраецца» з надзеяй асядлаць Алімп. Пачнём з таго, што яны не пазбаўлены дзелавітасці: «На адкрыцці выставы — тэлебачанне! прадстаўнікі! захопленая публіка! І чарга — «лукавый» паказчык значнасці». Яны адмаўляюць увесь мастацкі вопыт. Аўтара мучыць пытанне, што, пачуўшы заклік знайсці свае карані, ці не стануць мастакі «...шукаць іх не далей за рысай агародаў за горадам, абмяжоўваючы тым самым сваю творчасць, бязлітасна вытоптваючы ўсё астатняе». Іхняя пазіцыя — «...пазіцыя ўсёадмаўлення, дэкларавання права на праўду толькі з боку маладых». І яшчэ пункт абвінавачання — выяўляецца, «маладыя не надта маладыя...», узрост іхні пераваліў на «чацвёртае дзесяцігоддзе жыцця». Таму іхняя мэта — «сцвердзіць сябе менавіта зараз, нічым за прызнанне не заплаціўшы...». Іхняе крэда—«...паказ негатыўнага... любаванне заганамі... іх прыняцце». Іхні лозунг — «Быць непадобным на ўсіх!». А іхнія карціны, нягледзячы на лозунг, «...выстраіліся ўслед за «гіперрэалістамі», «прымітывістамі», «авангардам». І, ведама ж, не іхні лёс — «...духоўны пошук, які вымагае несумненных ахвяр». А падштурхоўвае «нефармалаў» на актыўныя дзеянні, выяўляцца, голас лёсу ў выглядзе філасофіі Я. Бунімовіча: «... нічога не паспееш, а час пройдзе...» І вось «нехта не вытрымлівае і пачынае расчышчаць дарогу «к благам» (і да Алімпа таксама.— А. Т.). Хутчэй, блытаючы «бузину с дядькой», а карыкатуру з экспрэсіянізмам, уменне маляваць — з акадэмізмам». І пры гэтым заручаюцца падтрымкаю грамадскасці. Гэтыя «нефармалы» не наіўныя прастакі, «яны ведаюць, у якія афіцыйныя дзверы грамадскіх інстытутаў пастукацца. Адчуваюць, куды вецер дзьме. Перад імі расступіліся». І ўжо зусім не для іх «удумлівая і сур'ёзная размова пра мастацтва». Іхнія прыхільнасці такія: «ад салоннага партрэта, дзе бездапаможны малюнак прыхаваны блаславёным аэрографам, да зборнага вобразу СНІДа, ад сентыментальнасці да вытанчанай жорсткасці і далей — да безумоўнага сцвярджэння сілы мышачнай, эмоцый, якія нараджаюцца толькі ёю. Невядомасць эмоцый іншых». Спрытна замаскаваўшыся пад прыхільнікаў перабудовы, удзельнікі «Галіны» дамагліся таго, што ўсёй іх творчасці «...надаецца выгляд праблем грамадскіх і актуальных — ад эмансіпацыі і яе «адваротнага боку» да барацьбы з бюракратызмам».

Як ні дзіўна, але мне хочацца падзякаваць часу і Ларысе Салодкінай асабіста. Час — за тое, што цяпер на двары не 1938-ы, а год 1988-ы. А паважанага крытыка — за тое, што, даўшы выйсце фантазіі і «высакароднаму» гневу, яна не заклікала на дапамогу эмоцыям, што распіраюць яе, слоўцы накшталт «маральныя вырадкі», «ворагі народа», «паганыя сабакі», «прыхвасні» і іншыя, што былі досыць распаўсюджаны ў тыя памятныя гады ў дачыненні да тых, хто не «крочыць дружна ў рад». Толькі гэта не дазваляе назваць артыкул калькаю, знятай з пажаўцелых ад часу выкрывальных матэрыялаў, услед за якімі да дамоў абвінавачаных пад'язджаў «чорны крумкач».

На шчасце, не прыйдзецца мастакам з «Галіны» падзяліць і лёс А. Дайнекі, які за рубель купіў у вартаўніка сметніку свае выкінутыя карціны. А паколькі цяпер дазволена гуляць не толькі ў адны вароты, я паспрабую трохі змяніць адвольна расстаўленыя акцэнты ў артыкуле «Прабуючы голас».

У ім няма ілюстрацый, не прыводзяцца прозвішчы і назвы прац. Выпадак сам па сабе рэдкі ў мастацтвазнаўчай практыцы, але яго няцяжка растлумачыць. Замяняючы канкрэтныя назвы і прозвішчы абстрактнымі вызначэннямі ў множным ліку, аўтар хаваецца за імі, каб пазбегнуць адказнасці за тое, што «нагаварыў язык, забягаючы наперад розуму». Даўшы волю выкрывальнаму пафасу, Л. Салодкіна не толькі «забылася», што на выставе было нямала рэалістычных твораў, такіх, як лірычныя пейзажы А. Пашкевіча, І. Сурмачэўскага, В. Азэмблоўскага, але і, паводле ўжытага ёю выразу, блытаючы «бузину с дядькой», яна адносіць мастакоў да паслядоўнікаў гіперрэалістаў, прымітывістаў і далей, увогуле, да авангарду. Ці мае права прафесіянал, дасылаючы матэрыял у часопіс усесаюзнага значэння, не ведаць, што гіперрэалізм таксама адносіцца да авангарду, але на выставе не было ніводнае працы гэтага накірунку, як не было іх і на нашых рэспубліканскіх выставах, а то гэтак можна аднесці да гіперрэалізму і палову карцін з калекцыі мастацкага музея ў раздзеле XVIII—XIX стагоддзяў, асабліва такіх аўтараў, як І. Хруцкі. Няма сярод удзельнікаў «Галіны» і прымітывістаў.

Ці лёгка стаць рэтраградам? У музыцы, напрыклад, з прыходам у яе камп'ютэраў і сінтэзатараў, многія ўсплакнулі аб «гітарных часах». Мастацтвазнаўцы таксама плачуць. І Л. Салодкіна не ўтрымалася, выпусціла кракадзілаву слязу па мастаках 70-х гадоў «...з іхняй артыстычнасцю і віртуознасцю майстэрства, смуткам і вытанчанасцю гульні ў працах, дзе так тонка перастаўляліся акцэнты ва ўяўленнях аб свеце і мастацтве». Ну, дальбог, анёлы, а не мастакі. І гэта сёння, калі не толькі любая газета, але і любы школьнік скажа вам, што менавіта ў 70-х гадах, а называюць іх цяпер гадамі застою, адбыўся канчатковы развал і мастацтва, і культуры, і эканомікі. І ці ж так тонка перастаўляліся акцэнты ва ўяўленнях аб свеце і мастацтве ў працах шматлікіх кан'юнктуршчыкаў, майстроў «камерцыйнага» рэалізму, прыдворных і парадных жывапісцаў, такіх, як Л. Налбандзян, А. Шылаў і іншыя? Салодкая ідэалізацыя, танная імпазантнасць, эфектныя аксесуары і дробная натуралістычная ілюзорнасць — вось што выдавалася за «сацыялістычны рэалізм». Бывалі, праўда, і выключэнні. Так, выкарыстаў у сваёй працы сюррэалістычныя прыёмы С. Далі апантаны праціўнік мадэрнізму і плюралізму ў мастацтве М. Савіцкі. Сёння, у атмасферы дэмакратыі і галоснасці, становіцца відавочным, што ёсць міф, створаны для зручнага і спакойнага жыцця адных, а ёсць рэальнасць. Адзін з такіх міфаў — пра дзіўнага, высакароднага і цудоўнага чалавека, у якім па заказе прызнаваліся тыповымі адны рысы і зусім не заўважаліся «нетыповыя» іншыя. Драматызм сённяшняй сітуацыі не толькі ў тым, што гэтыя асновы з асаблівай апантанасцю падтрымліваюцца пэўнымі сацыяльнымі групамі: такі парадак блізкі многім на розных ступенях грамадства і прызнаецца імі адзіна правільным. Але што загадаеце рабіць з многімі тысячамі твораў мастацтва, закупленымі на нашыя з вамі грошы, твораў, якія пыляцца ў запасніках з прычыны сваёй непатрэбнасці ні аўтару, ні гледачу? Часцей за каго іншага прагульваючыся па пустых залах у час выставак у родным Палацы мастацтваў, чаму не спыталася ў сябе: «Хто ў гэтым вінаваты і як вярнуць гледача?»

Не паленаваўшыся і адшукаўшы сярод членаў «Галіны», «якія зацвердзіліся на чацвёртым дзесятку жыцця», і паставіўшы ім гэта ў дакор, Л. Салодкіна, аднак, выдатна ведае, што сітуацыя, якая склалася ў апошнія дзесяцігоддзі, прывяла да таго, што цяперашнія трыццацігадовыя практычна былі пазбаўлены рэальнай магчымасці выказацца, і тым не менш многія з іх напружана працавалі творча, думалі і перажывалі, і свайму з'яўленню абавязаныя выключна працэсу перабудовы. Аўтара хвалюе, што маладыя мастакі блытаюць сваю творчасць з акадэмізмам. Божа барані, і тут яна надзіва сугучная «чаяниям» убеленых сівізною «мэтраў» з кафедры жывапісу БДТМІ. Дзякуючы іхнім нястомным старанням і асабліва старанням нязменнага загадчыка П. Крохалева, кафедры ператварыліся ў сістэму-мясарэзку, трапляючы ў якую, маладыя таленты ператвараюцца ў паўфабрыкаты. З гэтага паўфабрыкату і лепяцца потым карціны кшталту «Свята на калгасным полі», «Непераможная і легендарная» і іншыя, увогуле ўсё, што патрабуе неперабарлівы заказчык выканаць у духу кандытарскага рэалізму. Прагледзеўшы папярэднія працы Л. Салодкінай, няцяжка заўважыць, хто з мастакоў любы яе сэрцу, якому накірунку ў жывапісе яна аддае перавагу...

Беларускія групы «Квадрат» — г. Віцебск (ад знакамітага квадрата К. Малевіча), «Форма», «Галіна» (заўважце — галіна, а не дрэва) — г. Мінск, «Рэзерв» — г. Саратаў, «Эрмітаж», «Молат», «Ротфронт», «Дваццаць», «Дваццаць адзін», «Перыферыя», «Арбат» — г. Масква, «Круг», «Міцькі», «Востраў», «Вернісаж»— г. Ленінград і г. д. Статус «нефармалаў» вельмі неаднародны — да іх адносяць усіх мастакоў, якія стаяць па-за межамі Саюза мастакоў. Сюды трапілі і дылетанты — самавукі і апантаныя эксперыментатары, аматары «забароненых» тэм, проста бунтары і нават аматары «псеўдаакадэмізму» тыпу А. Ісачова. Дарэчы, «нефармалаў» няма і не было ў Прыбалтыцы, з тае простае прычыны, што там нашмат больш талерантна ставяцца да разнастайнасці ў мастацтве, дый увогуле, пачынаючы з Чурлёніса, мастакі там ніколі не хадзілі стройнай калонаю, пад адзін і той самы марш са старой, шчарбатай ад часу пласцінкі. Дый слова «плюралізм» у мастацтве там сталі ўжываць нашмат раней, чым ва ўсходніх суседзяў замільгацелі словы «перабудова» і «галоснасць». Хочацца сказаць і пра стаўленне да «нефармалаў» гледачоў. Яно вельмі неадназначнае, у любой кнізе водгукаў думкі зазвычай самыя палярныя, нярэдкае і агульнае ахайванне таго, што не ўкладваецца ў рамкі нарматыўнай эстэтыкі. Публіка, якую гадамі рупліва «аберагалі» ад сутыкненняў з айчынным і сусветным авангардам, якая не мае паняцця аб «мове» сучаснага мастацтва, не гатовая да ўспрыняцця і «ар'ергарднага авангардызму». І як тут не згадаць пільных крытыкаў, што стаяць на варце, людзей, якія імкнуцца любымі спосабамі ўтрымаць манаполію на ісціну ў мастацтве і абсалютную перакананасць ў сваёй непагрэшнасці. Што, паважаныя крытыкі, ёсць праблемы ў мастацтве? Можа, разагнаць гэтых «нефармалаў», прыціснуць іх, пакуль не падняліся, і праблем не будзе?

# «ПАДМАНУЎ»

МІКАЛАЙ МІКАЛАЕЎ

«Чаму ў людзей разумных, тых, хто шмат пабачыў, сумныя вочы?» Няўжо старадаўняя ісціна «Шмат ведаў—шмат смутку» — такая дальнабойная, што дастрэліла і да нас, і, магчыма, нават далёка «перастрэліла»?..

Вось такія думкі нарадзіла ў мяне сустрэча з хлопцам, прозвішча якога Жгут і які пражыў на белым свеце ўсяго дваццаць адзін год. Потым, пасля сустрэч з ім і размоў, калі выспела рашэнне напісаць гэты матэрыял, я злавіў сябе на тым, што нават прозвішча ягонае — нейкі сімвал: у чалавеку гэтым туга перапляліся, як мне здаецца, найбольш прывабныя рысы нашых маладых людзей.

Саша, так завуць Жгута, грунтоўна пахіснуў маё меркаванне пра сённяшніх маладых, і мне гэта было радасна: рэальна і выразна адчувалася, што кропак сутыкнення «бацькоў» і «дзяцей» нашмат болей, чым мы ўяўляем. Мала таго, з гэтай сустрэчы я вынес пераканане, што ўчынкі «бацькоў» не заўсёды адпавядаюць іх званню.

Ніхто не зможа расказаць пра чалавека лепш за яго самога. Вось некалькі меркаванняў майго новага знаёмага, Сашы Жгута: нешта накшталт мазаікі. Спадзяюся, што складзецца «карціна».

«Думаў, куды пайсці вучыцца: у БДУ на радыёфізіку або ў БПІ «на рухавікі»? Абраў другое. Напэўна, адыграла ролю і тое, што спалохаўся конкурсу». (Ці многія ў гэтыя гады так шчыра і аб'ектыўна прызнаюцца ў сваіх «спалохах»?)

«Узялі мяне ў аўтапарк, дзе шмат гадоў шафёрам працаваў бацька. Узялі, а машыны год не давалі: усё на падменах. Толькі рот адкрываю — «Па блату ўзялі — цярпі». А я ж не патуранняў прасіў — працы».

«У зборную Беларусі трапіў нечакана для сябе. Адзінае, што ўмеў — адчуваць машыну. З дзіцячых гадоў бацька вучыў. Першая яго машына, якую запомніў,— старая «Калхіда», кабіна жоўтага колеру. Такую цяпер не сустрэць...»

«На зборах па кожным класе рыхтуецца два чалавекі, а выступае адзін. Я самы малады. Мой напарнік Калейнік Валянцін Канстанцінавіч — чэмпіён. Шафёр першакласны. На «газонах» лепш ніхто не ездзіць. І калі ён пераканаўся, што выступаць буду я, перадаў мне ўсе свае сакрэты. Сакрэтаў, наогул, няма, ёсць майстэрства. Калейніку я многім абавязаны: каб не ён, не старшы трэнер Вячаслаў Паўлавіч Астапенка, не Морхутаў Генадзь Сцяпанавіч, каб не добрыя адносіны да мяне каманды — не здолеў бы я перамагчы. Гэта сапраўды так».

«Чытаю газеты. Кнігі — няма калі. Дастаў «Дзяцей Арбата», а ўзяцца няма часу. Адстаў у інстытуце. Са зборау ездзіў, здаў два залікі, а два засталося і чатыры экзамены «на носе».

«Вось Морхутаў ордэнам Леніна за працу ўзнагароджаны, а больш за дзесяць гадоў удзельнічае ў спаборніцтвах. Навошта? Ён і зарплату атрымлівае — дай бог, і сям'я ў яго... Гэта не забава. А мне начальнік калоны кажа: «Усё гэта дурасць — вашыя спаборніцтвы, працаваць трэба, справу рабіць». А навыкі і вопыт нашых спаборніцтваў — яны ж прафесійныя — куды ідуць? У практыку. Там — чэмпіён, тут — накшталт дэзерціра, ад працы ўхіляюся... Разнабой атрымліваецца ў ацэнцы галоўнага. І мне гэта не вельмі падабаецца. Я ж сумленна працую. Каб можна было палічыць, колькі жыццяў на дарогах каштуе вопыт і майстэрства, казалі б інакш».

— На трасе мы з машынаю як адна істота. Я не ведаю, як сказаць, але я адчуваў, калі яна бярэ паліва, а калі не. На пад'ём з накату ўскочылі і яшчэ павярнуць паспелі... Педаль газу, момант уключэння, передача... Ну, усё як у аптэцы. Аж занадта добра. І тут думка: «Не павераць!..» І супакойваю сябе: маўляў, не трэба спадзявацца — ты дэбютант. Суддзі не любяць выскачак». Вынік — 460 грамаў эканоміі! А да мяне — 560, 660...

Адзін за адным пакідалі старт удзельнікі, але ніхто і блізка да Сашынага выніку не наблізіўся. Другі — Файзулін, РСФСР — 520 грамаў.

І тут падыходзіць да Сашы Астапенка.

— Глухла машына?

— Не.

(Машыну заглушыць немагчыма: тумблер вынесены з кабіны і на даху працуе «мігалка», заглушыш — патухне.)

— Паедзеш другі заезд, калі спатрэбіцца?

— Паеду.

Выявілася, сем каманд апратэставалі Сашаў вынік: «Гэтага не можа быць!» (Так і хочацца дадаць сумна вядомую канцоўку: «...таму што гэтага не можа быць ніколі!»)

Спрактыкаваныя дзядзькі, прадстаўнікі сямі рэспубліканскіх каманд, ударылі залпам па хлопцу (Жгут і сапраўды быў малады для такіх спаборніцтваў). А суддзі што? (Хацелася спытаць: «Хто?») Яны ж, умудроныя, што зрабілі? Прынялі пратэст. Ніякіх прычын. Ні-я-кіх-! А прынялі.

Вы можаце сабе ўявіць, каб Сяргея Бубку прымусілі «пераскокваць» скачок, таму што вышыня, узятая спартсменам, здалася прадстаўнікам, скажам, ЗША, Англіі і Габона надта вялікай! Ці нашу зборную на чэмпіянаце Еўропы па футболу — пераіграць матч са зборнай Англіі, таму што забіта тры галы ў вароты піянераў футболу — надта шмат, нешта тут не тое... А са зборнай Італіі — таму, што гэтага не можа быць ніколі.

А вось Жгута прымусілі пераехаць заезд. І тут старшы трэнер зборнай БССР праявіў свой характар. Ён нават вокам не маргнуў, калі яму зрабілі такую, мякка кажучы, незвычайную прапанову. (Потым ужо галоўны тэхнічны суддзя Юрый Барысавіч Міхайлаў казаў, што яму спадабаліся паводзіны беларускага трэнера: згадзіўся ж адразу, без скандалу. Ён, напэўна, думаў, што скандал будзе. І, напэўна, лагічная была думка.)

Астапенка быў упэўнены ў сваім выхаванцы. (Дарэчы, ён зусім справядліва атрымаў медаль за падрыхтоўку Сашы Жгута.)

На праезд пасля ўсіх Сашу выпускаў яго таварыш па камандзе Мікалай Кручонак — «лёгкая рука». Вынік — манеўраванне — чыста, без адзінага штрафнога ачка, а эканомія — 500 грамаў (памыліўся на спуску, прапусціў накат), але ўсё роўна з неблагім адрывам ад другога. А вось яшчэ адна дэталь, апошняя: усю трохкіламетровую трасу за Сашыным «газонам» ішла судзейская машына.

Недавер...

— Гэта выклікае непрыязь да спаборніцтваў,— сказаў Саша.— Мала таго, што незразумелыя паводзіны судзейскай калегіі, дык яшчэ і недавер. Знявага...

А кажуць, пераможцаў не судзяць... Але яны ж, пераможцы, судзяць, і, як бачым, не заўсёды на карысць суддзяў.

І вось тут вочы самага маладога пераможца буйных спаборніцтваў (агульнае першае месца ў класе, першае месца за эканомію, першае па правілах язды і будове машыны — 15 задач рашыў за 47 секунд) — вось тут вочы яго зрабіліся сумныя.

І я яго зразумеў.

«Пакуль не адчуваю, што бяру ад інстытута тое, што хацеў. Мне рухавік трактара чытаюць, а хацелася б больш «Жыгуля», «Масквіча», «Волгі»— з гэтым я буду мець справу. Бліжэй бы да практыкі. А наогул, мог бы вучыцца лепш».

«На вячэрнім аддзяленні прыкметнае паслабленне. Тут студэнты не пытаюцца: «Якую адзнаку атрымаў?» — а «Здаў ці не здаў?». Якасць горшая, чым на дзённым. Абы праскочыць».

«Я выступаю ў класе «ГАЗ-52», а працую на «ЗІЛе», ваджу будаўнічыя грузы, замацаваны за БУ-16 будтрэста № 1. Школы, яслі, жылыя дамы будуем. Адно незразумела: мне не колькасць рэйсаў і тоны лічаць, а восем гадзін працы. Хоць паражняком катайся, хоць гару перавязі — аднолькава, гадзіны — і ўсё».

«Клас? Трэці ў мяне клас. Не магу здаць на другі: фізічна часу не хапае. Трэба кожны дзень тры месяцы на курсы хадзіць, вучыць палітэканомію і іншае, а я гэта ўжо ў інстытуце вучыў. А ваджэнне... Так я ж першае месца на Усесаюзным конкурсе заняў, а да гэтага на рэспубліканскім... Год ужо першы спартыўны разрад маю. Смешна, але нешта не смяюся».

«Дзяўчына? Была... Не сышліся ў поглядах на сацыяльнае паходжанне. Аблегчанасць нораваў? Не знаходжу. Той, хто здольны на пачуццё, можа паводзіць сябе згодна з ім. Кахаеш? Кахай, як ты і яна хочаце, і ўсё будзе правільна. А хто не здольны адчуваць... Тут я не ведаю. Напэўна, гэта справа настаўнікаў, бацькоў...»

«Да мяне толькі нядаўна прыйшло разуменне і цяжкага року і класікі: я цяпер пазнаю Бетховена і пазнаю Баха. Чую. І рок пачаў разумець не толькі нагамі. Дзіўна, што адначасова, але гэта так. А ад класікі быццам святлей робіцца».

«Галоўны настаўнік — бацька. Я ў яго не пытаўся — я глядзеў, як ён. Жыў з ім і так вучыўся. Галоўная рыса — ад яго: не прасіць у тых, хто мае больш за цябе. А потым у Булгакава тая ж думка: Воланд Маргарыце кажа. «Майстар і Маргарыта» — любімая мая кніга... Чаму? Цяжка растлумачыць пачуццё. Гэта ад бацькі. А маці — мяккая і добрая. А гераічны ўчынак здзейсніла. Яна маладая зусім выйшла за бацьку, а ў яго ўжо былі тры дачкі».

Калі ў час працэдуры ўзнагароджання пераможцаў высокі і прывабны хлопец у светлай форме каманды-пераможцы — Беларусі і раз, і два, і тры... выходзіў з цеснага рада і атрымліваў медалі, кветкі, тэлевізар, вазу, сокавыціскалку, гадзіннік... і кожны раз, саромеючыся, быццам: «Хлопцы, я не вінаваты...» — і тым не менш з годнасцю і адказна паводзіў сябе,— я не мог зразумець, чаму яму апладзіравалі, як бы гэта сказаць, цяплей, чым іншым.

А цяпер самы час — пра тое, як Саша Жгут «падмануў» усю судзейскую калегію, усіх 130 удзельнікаў X Усесаюзнага конкурсу прафесійнага майстэрства вадзіцеляў аўтамабіляў, і чаму ў яго, самага маладога пераможца, былі сумныя вочы, калі ён са мною пра гэта гаварыў.

За год хлопец прайшоў шлях ад «шэранькага» першаразрадніка да пераможца самых прадстаўнічых спаборніцтваў аўтамабілістаў-прафесіяналаў.

...Гэта здарылася на «фігурцы», як называюць яны скарасное манеўраванне. Трэба было прайсці дзесяць хітрых пастак, не закрануўшы лёгкіх тычак агароджы, не наехаўшы на драўляныя «пянькі» і яшчэ ўлічваючы масу ўсяляякіх «не». Ёсць сярод гэтых фігур «бокс», «змейка», «каляіна», «цешча» (паркоўка заднім ходам)... Пасля гэтых дзесяці галаваломак — тры кіламетры па трасе: з пад'ёмамі, паваротамі, спускамі — на эканомію паліва. І ўсё гэта разам — на час.

Усяго семнаццаць удзельнікаў — па адным ад рэспублік, Масквы і Ленінграда. Трэба думаць, не апошніх прыслалі. Тым больш, амаль усе ўжо не першы раз у конкурсе ўдзельнічаюць.

Саша ішоў чацвёрты. На «каляіне» наехаў на абмежавальнік — сто ачкоў штрафу. Затое эканомію прывёз...



## ДЗЕСЯЦЬ лепшых кніг года

**Паважаныя чытачы!**

**Як вы памятаеце, у № 5 нашага часопіса былі названы дзесяць лепшых кніг 1987 года. Тады ж мы абяцалі, што ў канцы гэтага года змесцім артыкул пра кнігу Уладзіміра Караткевіча «Старыя беларускія хронікі», якая заняла першае месца. Трохі пазней мы даведаліся, што адзін з самым блізкіх сяброў Уладзіміра Сямёнавіча гісторык літаратуры Адам Мальдзіс піша ўспаміны пра яго. І мы папрасілі Адама Іосіфавіча падзяліцца гэтымі згадкамі на старонках «Крыніцы».**

**Друкуючы мемуары А. Мальдзіса, чыя леташняя кніга таксама трапіла ў дзесятак лепшых, мы просім вас, паважаныя чытачы, назваць дзесяць лепшых кніг па гісторыі Беларусі, літаратуры, мастацтва і культуры, а таксама мастацкай літаратуры, якія выйшлі ў 1988 годзе ў Беларусі на беларускай і рускай мовах. Па-за конкурсам застаюцца зборнікі выбраных твораў, зборы твораў, перавыданні і пераклады з беларускай на рускую.**

**Алесь Камоцкі, адзін з тых, хто вызначаў дзесяць лепшых кніг 1987 года, прапанаваў улічваць таксама творы 20—30-х гг., якія толькі цяпер убачылі свет у часопісах. Прызнаючы слушнасць гэтае прапановы, мы лічым, што ў дзесятак лепшых можна, калі гэтага пажадаюць чытачы, заносіць і творы, напісаныя беларускімі вучонымі і пісьменнікамі «для шуфляды» ў 40—80-я гг. і апублікаваныя ў 1988 годзе.**

**Як вы памятаеце, пісьменнік Уладзімір Арлоў прапанаваў назваць таксама і горшыя кнігі года. Рэдакцыя не настойвае на гэтым, але і не адмаўляецца ад такое ідэі.**

**Мінулагоднія кнігі ацэньвала журы, якое складалася пераважна з прафесійных літаратараў. Сёлета таксама створана журы. У яго ўвайшлі як сталыя літаратары, гэтак і прадстаўнікі творчае моладзі:**

**Уладзімір ДАВЫДОЎСКІ — кіраўнік рок-гурта «Мроя»;**

**Генадзь ДАВЫДЗЬКА — артыст Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы;**

**Алесь ЖУК — празаік;**

**Фёдар КАШКУРЭВІЧ — мастак;**

**Ала СЯМЁНАВА — літаратурны крытык.**

**Паважаныя чытачы, чакаем вашых лістоў да 1 лютага 1989 года.**

Адам МАЛЬДЗІС

# «ЖЫЦЦЁ, ЯК ЗЕБРА, ПАЛАСАТАЕ...»



У адным са сваіх выступленняў Васіль Быкаў сказаў, што Уладзіміру Караткевічу было пры жыцці недададзена ўвагі. Гэтыя агульныя словы патрабуюць канкрэтызацыі: калі было недададзена, па чыёй віне, чаго (бо чытацкую ўвагу і любоў ён меў заўсёды, а пад канец сямідзесятых гадоў з'явілася і ўвага органаў улады). Мне ўяўляецца, што самым цяжкім перыядам у жыцці Караткевіча былі другая палова шасцідзесятых — пачатак сямідзесятых гадоў, калі аўтар «Каласоў пад сярпом тваім» сапраўды хадзіў у «чорным целе», калі ў кожным яго радку шукалі крамолу. І віна за цкаванне пісьменніка ў вялікай ступені кладзецца, сёння трэба прама сказаць, на тагачаснага сакратара ЦК КПБ па пытаннях ідэалогіі С. А. Пілатовіча. Гэта ён быў супраць выдання «Каласоў...» асобнай кніжкай. Гэта па яго ўказанні ў «Літаратуры і мастацтве» быў дадзены «адпор» цудоўнаму эсэ «Званы ў прадоннях азёр». Прозвішча Караткевіча ўпаміналася ў розных афіцыйных выступленнях як жупел ідэйнай заганнасці, ледзь не варожасці. Даведаўшыся пра яшчэ адно з такіх выступленняў, пісьменнік толькі цяжка ўздыхаў. У крайнім выпадку прарочыў:

— Хто мяне крыўдзіць — дрэнна скончыць.

У тыя застойныя гады Уладзімір Караткевіч не быў выключэннем. Цяжка даводзілася Васілю Быкаву, Івану Мележу, Янку Брылю, Андрэю Макаёнку, многім з маладзейшых. Спробы мысліць неартадаксальна, недагматычна заканчваліся «арганізацыйнымі вывадамі» (памятаю, як у АН БССР бэсцілі аспіранта Дабравольскага, які на сустрэчы з мастакамі асмеліўся сказаць аб незавершанасці нашай рэвалюцыі, разлажэнні сярод кіраўніцтва). Праявы патрыятызму, нават нясмелыя, расцэньваліся як нацыяналізм. Ва універсітэце пачаліся ганенні на групу студэнтаў на чале з Алесем Разанавым і Віктарам Ярацам, якія адправілі ў інстанцыі ліст з прапановай, каб хаця б на аддзяленні беларускай і рускай мовы і літаратуры ўсе лекцыі чыталіся па-беларуску (рэктар чамусьці палічыў гэта «великодержавным шовинизмом»). Затым хваля звальненняў пракацілася па Акадэміі навук (зрэшты, некаторыя са звольненых паводзілі сябе не лепшым чынам — пасля ўсяго Караткевіч перастаў з імі вітацца). У самы апошні момант была адменена навуковая канферэнцыя аб этнагенезе беларусаў. Нацыяналізмам была абвешчана спроба ўвесці ў БелСЭ слова «сысуны» замест слова «млекакормячыя». У спецфондзе акадэмічнай бібліятэкі нехта Лазарчык браў да сябе нават «Вянок» Багдановіча, нават віленскія выданні Купалы і Коласа. З аднаго мовазнаўчага выдання знялі супервокладку толькі таму, што на ёй была цытата з Лаўрэнція Зізанія. Юльяну Пшыркову на высокай нарадзе інкрымінавалі тое, што ён спасылаецца на «буржуазнага нацыяналіста» Максіма Гарэцкага, а Генадзя Каханоўскага звольнілі з пасады дырэктара Маладзечанскага музея таму, што ён гаварыў з экскурсантамі на беларускай мове. Дайшло да абсурду: калі ў 1967 годзе адзначалася 900-годдзе Мінска, адзіным чалавекам, хто на ўрачыстым пасяджэнні ў Палацы спорту сказаў некалькі слоў па-беларуску, быў... мэр горада Вільнюса.

Сёння многія з прыведзеных фактаў гучаць анекдатычна. Але ў той час было не да смеху. Сітуацыя часам здавалася безнадзейнай. Караткевіч гучна абураўся пералічанымі вышэй фактамі (я прывёў толькі тыя, што, памятаю, болем адбіліся ў яго свядомасці), абяцаў, што гісторыя кожнаму «дураксу» адмерае заслужанае пры жыцці, часам змрочна маўчаў. Свайго непрыняцця застою, сваёй нянавісці да яго носьбітаў ён не хаваў, выказваў з трыбуны, у рэпліках з залы. І яму, зразумела, плацілі тым жа. Побач з Васілём Быкавым Уладзімір Караткевіч успрымаўся тады на Беларусі як галоўная асоба ў супрацьстаянні кансерватыўным колам, як найбольш небяспечны «парушальнік спакою». І хмары над ім не раз чорна згушчаліся. Але заўсёды знаходзіліся людзі — Іван Мележ, Янка Брыль, Пятрусь Броўка, Максім Танк, Пятро Глебка, некаторыя асобы ў дырэктыўных органах,— якія заступаліся за ягоны талент. Не раз яго ратавала тое, што ён нідзе службова не працаваў (не хадзіў у «дэпартамент», жыў «тунеядцам»). І нават да прафсаюза, здаецца, не належаў. Паспрабуй, прыцісні такога...

Трэба, аднак, падкрэсліць, што свайго непрыняцця застою, непрыняцця канкрэтных асоб Караткевіч ніколі не пераносіў на нашу сістэму, на сацыялізм увогуле. Ён, помню, не раз хваліў ленінскі перыяд у яго будаўніцтве, захапляўся рабочымі Магнітагорска, дзе пабываў з групай пісьменнікаў. Святымі для яго былі подзвігі ў Айчынную вайну, пасляваеннае аднаўленне. Ухвальна гаварыў пра першыя крокі Хрушчова. Але калі выступаў Брэжнеў, змаўкаў, выключаў «тэлік». Калі гаворка заходзіла пра Беларусь, расказваў прыпавесць, што вось бог, ствараючы нашу зямлю, даў ёй усё добрае: плодныя землі, звярыныя лясы, рыбныя рэкі, умераны клімат, але потым, спахапіўшыся, рашыў іх ураўнаважыць («каб не задаваліся, не псэлі ў бяздзейнасці») і дадаў самае дурное начальства. Праўда, калі беларусы заслужаць на гэта, бог злітуецца і заменіць яго на лепшае...

Барацьба Уладзіміра Караткевіча з застойнымі парадкамі найбольш выразна выяўлялася ў яго барацьбе за беларускую мову, за нацыянальную гісторыю і зберажэнне прыроды. Ён бачыў арганічную еднасць паміж гэтымі вонкава рознымі праблемамі: калі ў чалавека няма патрыятычных пачуццяў, то ён становіцца касмапалітам, якому ўсё роўна, што гіне: культура, памяць ці зямля.

У стаўленні да мовы, як мне ўяўляецца, Караткевіч быў сапраўдным інтэрнацыяналістам. Ён ахвотна і без акцэнту (у тым ліку і дома, з маці) гаварыў па-руску. Ён дасканала ведаў украінскую мову, якую пасля сканчэння Кіеўскага універсітэта імя Т. Р. Шаўчэнкі выкладаў на Кіеўшчыне. Многія радкі яго «Каласоў...» напісаны па-французску. У Польшчы ён спрабаваў размаўляць па-польску, у Славакіі — па-славацку. У Вільнюсе на ляту лавіў літоўскія словы (чамусьці асабліва спадабалася яму «драбужай» — «адзенне») і спяваў літоўскія песні. Увогуле лічыў, што чым больш моў чалавек ведае, тым ён багацейшы, што няма моў добрых і дрэнных, а ёсць толькі развітыя і неразвітыя. Але найперш кожны павінен ведаць, любіць, бараніць родную мову. Словы М. С. Хрушчова, што неўзабаве, гадоў гэтак праз дваццаць, усе мовы ў нас зліюцца ў адну, здаваліся яму абсурдам («хіба можа быць луг толькі з рамонкаў?»). А дазвол бацькам у Беларусі самім рашаць, ці вывучаць іх дзецям родную мову,— адступленнем ад ленінскіх нацыянальных прынцыпаў.

Адносіны Караткевіча да нацыянальнай гісторыі былі заўсёды паслядоўныя: яна багатая і «нармалёвая», толькі мала вывучаная, раздадзеная намі ж суседзям. Наша мінулае нельга маляваць толькі адной фарбай — белай або чорнай, бо былі ў ім і прымус, і жорсткасць, і здрада, але былі і светлыя праявы. Без іх проста немагчыма народнае жыццё. Караткевіча страшэнна абурала, калі хтосьці сцвярджаў, што раней у беларусаў, апрача каўтуна і лапцей, нічога не было. І каб даказаць адваротнае, не раз ездзіў у экспедыцыі з навукоўцамі, якія рыхтавалі шматтомны «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі». Разглядаў яго выданне («толькі поўнае») як сваю кроўную справу і нават напісаў частку прадмовы да макета па Брэсцкай вобласці.

Уладзімір Караткевіч быў першы, хто на Беларусі стаў біць трывогу, прадбачачы экалагічны крызіс. Добра ведаючы нашы лясы і рэкі, ён заклікаў да іх разумнага, гаспадарскага выкарыстання. Напісаў эсэ «Званы ў прадоннях азёр», дзе даказаў, што меліярацыя на Палессі вядзецца па-варварску, толькі як асушэнне. У выніку на месцы балот з'явіліся пяскі, пачаліся чорныя буры, да горшага змяніўся клімат, зніклі многія расліны, звяры і птушкі. Як ужо гаварылася, эсэ Караткевіча выклікала рэзкую крытыку ў друку. Выступаючы ў лютым 1970 года перад камсамольцамі АН БССР, С. А. Пілатовіч абвінаваціў аўтара ў тым, што ён, маўляў, не ўбачыў на Палессі нічога новага, хоча з палешукоў стварыць нейкую «рэзервацыю». Але пісьменнік стаяў на сваім: многія экалагічныя ідэі, выказаныя ў эсэ «Званы ў прадоннях азёр», ён паўтарыў у кнізе-нарысе «Зямля пад белымі крыламі», выдадзенай спачатку па-ўкраінску, а потым на беларускай і іншых мовах, у артыкулах, напісаных па заказах рэспубліканскіх часопісаў і газет. Абараняў прыроду і непасрэдна, кулакамі: аднойчы пусціў іх у ход, калі пабачыў, што нейкія бамбізы падфутбольваюць маладога верабейчыка.

У сваім змаганні «за праўду» Караткевіч увогуле быў паслядоўны і бескампрамісны. Асабліва калі гэта датычылася не яго самога, а іншых. Неяк у 1973 годзе «Літаратура і мастацтва» змясціла абразлівую рэпліку Я. Герцовіча, скіраваную супраць празаіка Яўгена Васілёнка. Той расхваляваўся да інфаркту і неўзабаве памёр. На пахаванні Караткевіч падышоў да рэдактара газеты Хведара Жычкі і ледзь не даў яму аплявуху. Прысутныя далучыліся да асуджэння. І Жычка адышоў, апусціўшы галаву. У тыя гады «Літаратура і мастацтва» згубіла ранейшыя добрыя традыцыі, стала казённа-шэрай. І гэта турбавала Караткевіча. На пленуме праўлення Саюза пісьменнікаў БССР у чэрвені 1974 года, у час прыняцця рэзалюцыі, ён перапыніў старшыню рэплікай:

— Калі пры Пашкевічу «ЛіМ» быў проста цікавы, калі пры Прокшу яго можна было часам чытаць, то цяпер, пры Жычку, чытаць яго проста немагчыма! Да якога часу будзем цярпець?! — і яшчэ нешта пра Васілёнка, сумленнасць.

Старшыня абарваў яго:

— Не перашкаджайце працаваць.

На гэта Валодзя:

— Гэта ён, Хведар Жычка, перашкаджае ўсім нам працаваць!

Аднак прынцыповасць Караткевіча не мела нічога агульнага з максімалісцкай упартасцю, якую ён лічыў «уделом туполобых». Там, дзе гэта не датычылася асноўных жыццёвых і творчых прынцыпаў, ён ішоў на дыпламатычныя ўступкі. У маіх нататках ёсць такі запіс. 25 студзеня 1970 года нечакана да Валодзі ўвалілася цэлая група «кіношнікаў»: сімпатычны і таленавіты аператар Анатоль Забалоцкі, любімы ў гэтай кватэры, кінадраматург Фёдар Конеў, яшчэ колькі асоб. Быў сярод іх і «максімаліст» Уладзік у скураных портках і тоўстым ваўняным світэры. Ён адразу накінуўся на гаспадара: чаму ён дазволіў рэжысёру змяніць, па патрабаванні начальства, адзін з эпізодаў у «Хрысце...»:

— Я б трымаўся да канца!

— А колькі табе год? — спытаў Караткевіч.

— З трыццаць дзевятага.

— О, то тады не пабачыў, не спазнаў бяды... А што загадаеш рабіць, калі людзі на здымках у роспачы, калі зноў прастой, а, значыць, і зарплаты няма...

Юнак не здаваўся. Паказваў сваю дасведчанасць у сучасным заходнім кіно, у французскім жывапісе. Але Валодзя зноў абсек яго:

— Дарэчы, у слове Монпарнас чацвёртая літара «т» не вымаў-

ляецца. Пара б ведаць! — і бачачы збянтэжанасць хлопца: — Вось бачыш... Так што давай не задзірацца.

Караткевіч не любіў агульных гучных слоў, балбатні і цаніў канкрэтныя справы. Неяк мы разгаварыліся з ім пра сітуацыю з беларускай мовай. Я расказаў яму пра свой ліст на імя тагачаснага міністра асветы БССР Рыгора Якаўлевіча Кісялёва (ён прыняў мяне, і паміж намі адбылася канструктыўная на той час размова), і Валодзя нечакана ўспомніў вялізныя статуі на востраве Вялікадня (вычытаў пра іх у сваім любімым часопісе «Вокруг света»):

— Разумееш, стары, вучоныя рашылі высветліць, а як жа іх, такія аграмадзіны, ставілі старчаком далёкія продкі, якія шчэ не ведалі розных там пад'ёмных кранаў. Паспрабавалі ўзнімаць рыўком — нічога не выйшла: рваліся тоўстыя тросы, статуі падалі ніцма. Нарэшце здагадаліся: тыя падкладвалі пад галаву і спіну плоскія камені. Так і нам трэба...

І калі ў прысутнасці Караткевіча заводзілі размовы, як бы «рыўком» змяніць усё тое, што сёння называецца застоем, Караткевіч злаваў, лічачы гэта правакацыйнай дэмагогіяй, што толькі шкодзіць справе. Памятаецца, калі ў 1970 годзе адзначалася Валодзевых «сорак», назаўтра, каб «паправіць галовы», прыйшоў Сцяпан Міско з нейкім матэматыкам. Апошні пачаў бесцырымонна выкладаць розныя нерэальныя планы. Караткевіч пахмурна перапыніў яго:

— У маім доме пра палітыку, **такую** палітыку, не гавораць! Зарубі гэта, хлопча, на носе!

— Што рабіць? Цярпець?

— Дзела рабіць! Сілы збіраць! Розум назапашваць! Каб вытрываць.

І Валодзя трываў, дапамагаў сваім словам і прыкладам вытрываць іншым. Праўда, не раз паддаваўся дэпрэсіі, не раз (што ўтойваць) змрочна (як сказаў Адамовіч, «з ідэяй») пачынаў піць. Але знаходзіў сілы, каб перамагчы сябе, зноў вярнуцца за пісьмовы стол, зноў быць вясёлым і дасціпным.

Зрэшты, тагачаснае быццё, як і жыццё наогул, не складалася толькі з адных маральных пакут. Яно было, па словах Караткевіча, паласатае, як зебра: паласа цёмная, паласа светлая. Згадваецца некалькі такіх «светлых палос» другой паловы шасцідзесятых гадоў. У 1967 годзе Валодзю нарэшце выдзелілі двухпакаёвую кватэру на другім паверсе (з увагі на ўзрост маці) у пяціпавярховым панельным доме пад нумарам 46 на вуліцы Веры Харужай. Заехаўшы (усе мы дружна памагалі яму пакаваць і цягаць кнігі), ён цешыўся, што побач — Старажоўскі рынак, дзе па нядзелях чулася сакавітая вясковая мова, прадавалі парасят, пеўняў, сабак і нават коней, а за ім — Камсамольскае возера. Перажываў, што я застаюся ў інтэрнаце.

— Нічога, стары,— суцяшаў, выйшаўшы на балкон. І тыцнуў пальцам у недабудаваныя дамы насупраць: — Во добра было б, каб табе далі вось там.

Сваё прадбачанне ён разглядаў як рэальнасць і нават прапанаваў «за адным заходам» купіць аднолькавыя кніжныя стэлажы:

— Складзеш пакуль што ў мяне. А пераносіць будзе недалёка, пабачыш.

І якое ж было наша ўсеагульнае здзіўленне, калі восенню таго ж года мне сапраўды выдзелілі кватэру ў адным з дамоў насупраць. Мы сталі часцей бываць адзін у аднаго. Пакуль не было тэлефонаў, «перамірґваліся» настольнымі лямпамі. Тады ж у мяне і здарылася «рыначная сцэна», апісаная потым у рамане «Чорны замак Альшанскі».

Аднойчы раніцай, на самым пярэдадні кастрычніцкіх свят 1967 года, Караткевіч прыбег да мяне ўзбуджаны:

— Разумееш, стары, я, здаецца, жанюся!

— І хто ж тая, што нарэшце цалкам запаланіла тваё сэрца?

— З Брэста. Валя. Валянціна Браніслаўна. Разумная жанчына. Гісторык, дакладней, археолаг. Па археалогіі дысертацыю абараніла.

І ён расказаў нам такую гісторыю. Уладзімір Калеснік запрасіў яго ў Брэст на чытацкую канферэнцыю па рамане «Каласы пад сярпом тваім». Разам са студэнтамі свайго курса, як куратар, прыйшла туды і Валянціна Браніслаўна. Канферэнцыя не дужа цікавіла яе, і яна, адседжваючы «мерапрыемства», чытала нейкі польскі дэтэктыў (дэтэктывы былі яе слабасцю). І калі ў прафесарскай Уладзімір Калеснік пазнаёміў іх, яна спытала:

— А чаму б вам не напісаць які дэтэктыў?

— Які, да прыкладу? — Валодзя сам страшэнна любіў добрыя дэтэктывы. Як і фантастыку.

— Ну, хаця б такі, як «Дзікае паляванне караля Стаха»...— Аказваецца, Валянціна Браніслаўна неяк чытала ў цягніку часопіс з гэтай аповесцю, але не звярнула ўвагі, хто яе аўтар.

— Га-га! Тры: га! — разрагатаўся Валодзя.— Дык гэта ж я напісаў «Стаха»!

Валянціне Браніслаўне стала ніякавата, і яна прапанавала:

— Тады пайшлі піць каву...

Валодзя расказваў усё гэта з гумарам і, здаецца, быў задаволены.

— Дык што ж тады цябе бянтэжыць? — не стрывала мая Марыя.

— Разумееце, старыя, я запрасіў яе на свята да сябе і толькі ў цягніку ўспомніў, што мы ўсе запрошаны ў Ракаў, на вяселле Рагойшавага Славы.

— То вазьмі і яе з сабою.

— А выпадае?

— Чаму ж...

Вяселле маладога беларускага літаратуразнаўцы Вячаслава Рагойшы з украінкай Таццянай Кабржыцкай, таксама філолагам, усе мы дружна найменавалі «вяселлем веку». З Львова прыехалі бацькі маладой — заслужаны ўрач і артыст. З Мінска — Міхась Ларчанка, Алег Лойка, Язэп Семяжон, Фёдар Янкоўскі. Захоўваліся многія старыя абрады, у тым ліку і выкраданне нявесты, дзяльба караваю. Спяваліся беларускія, украінскія, рускія, польскія песні. Уладзімір Караткевіч жвава вытанцоўваў полечку з Валянцінай Нікіцінай і ўвогуле быў завадатарам усялякіх «хохмаў». Аднак яго сяброўка прыйшлася не даспадобы некаторым маладзейшым «максімалістам»:

— Раз дрэнна гаворыш па-беларуску, то ты яму не пара,— заявілі яны за сталом, прама ў вочы.

Пачаліся жаночыя слёзы. Караткевіч вымушаны быў вярнуцца ў Мінск. А мы пачалі сарамаціць нявыхаваных хлопцаў:

— Толку, што вы гаворыце!

Да гонару Валянціны Браніслаўны трэба сказаць, што яна, жанчына рашучая, настойлівая і, як пісаў пра яе А. Ліс, «з запасам цярплівасці», неўзабаве стала гаварыць па-беларуску лепей, чым тыя, хто яе папракаў. Больш таго, аказалася, што яна апантаней аддадзена беларускай культуры, чым іншыя аматары гучных слоў. Тое, што зрабіла Валянціна Браніслаўна Караткевіч для падрыхтоўкі «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», для таго, каб ён ішоў «без купюр», можна смела назваць навуковым подзвігам, грамадзянскай мужнасцю. Яна бясконца ездзіла ў экспедыцыі, абараніла не адзін помнік архітэктуры, пісала сама артыкулы і брашуры і рэдагавала чужыя. Аўтарытэт яе ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, дзе яна працавала, і ўвогуле ў навуковых колах быў высокі.

А пакуль што Валянціна Браніслаўна працягвала жыць у Брэсце, чытаць там лекцыі па гісторыі КПСС. Даволі часта прыязджала ў Мінск, узважвала розныя варыянты абмену кватэры, шукала новую работу. Нарэшце 18 лютага 1971 года, роўна ў 110-ю гадавіну адмены прыгоннага права, адбыўся іх шлюб.

— Сялян вызвалілі, а мяне, стойкага ворага ўсялякага прыгону, звязалі путамі Гіменея,— жартаваў Валодзя, ідучы ў загс, размешчаны ў суседнім доме. Сведкамі маладых былі гісторык мастацтва Людміла Лапцэвіч і я. Работніца загса аказалася родам з Оршы, свайго земляка ведала па творах — і таму віншавала маладых вельмі сардэчна.

З розных прычын аб дакладнай даце шлюбу Караткевічы асабліва нікому не казалі. За сталом сядзелі толькі сваякі і бліжэйшыя сябры: Надзея Васільеўна (нявестку яна дужа ўпадабала), яе кіеўская сястра з мужам, Грынчыкі (Мікола Грынчык звязаў маладых поясам «на ўсё жыццё»), Лапцэвічы, Мікола Прашковіч, тэатразнавец Іза Гатоўчыц, гісторык архітэктуры Юра Якімовіч, яшчэ хтосьці. Валодзя быў узбуджана-прасветлены, задаволены, што нарэшце прыняў рашэнне. Шкадаваў, што няма многіх сяброў, асабліва Барадуліных:

— Нічога, разжывуся грашыма — тады зробім «бэнц» для ўсіх.

Але, не чакаючы «бэнца», Рыгор Барадулін з'явіўся назаўтра. І не адзін, а з паэтам і кінасцэнарыстам Юрыем Лакербаем. Апошні ўзнімаў дасціпныя «кароткія» тосты, расказваў пра сваю родную Абхазію. І Валодзя жартаўліва, патрапляючы яму ў тон, знаходзіў многа агульнага ў лёсах Абхазіі і Беларусі.

З прыходам у дом Валянціны Браніслаўны ў многім змяніўся ўклад Валодзевага жыцця. Нягледзячы на сваю навуковую занятасць, яна ўзяла на сябе многія побытавыя клопаты. Пераcталі наведвацца некаторыя знаёмыя з «халасцяцкімі» звычкамі. Іх месца занялі калегі па рабоце Валянціны Браніслаўны. Пасля пераезду з Вільнюса ў Караткевічаў сталі часта бываць Кісялёвы. Пасля вяртання з Урала — сястра Валодзі, Наталля Сямёнаўна Кучкоўская, яе муж Іван Мікалаевіч і дочкі. Неўзабаве Валянціна Браніслаўна абмяняла сваю брэсцкую кватэру на пакой у Мінску, а затым двухпакаёвую кватэру Валодзі і свой пакой — на трохпакаёвую кватэру з высокай столлю ў доме 36 па вуліцы Карла Маркса (наўскасяк ад тэатра імя Янкі Купалы). Там нарэшце ў пісьменніка з'явіўся асобны кабінет для работы. Ажаніўшыся, Караткевіч стаў часцей адпачываць — у сваім любімым Кактэбелі, а таксама ў Гагры, Дубултах. Хоць і ўсялякае бывала ў жыцці, Караткевіч быў удзячны жонцы за яе клопаты.

— Шматпакутніца яна,— сказаў Валодзя ў сваім тосце, калі адзначалася саракагоддзе Валянціны Браніслаўны.— Бо нялёгка быць жонкай пісьменніка. А такога, як я,— удвая.

— Ведала, Валодзечка, аспід мой чорны, на што іду,— парыравала Валянціна Браніслаўна.



Ларыса САЕНКА

ХАРАКТАРЫ І АКАЛІЧНАСЦІ

# ЛЮСТЭРКІ

Зіхоткія люстраныя сцены, прасторны хол. Расчыняю шкляныя дзверы.

— Стойце! Вы куды?!

Дом, а дакладней гарадскі дом тэхнічнай творчасці, дакладна раздзелены паверхамі-іерархіямі. Унізе «тэхнары»: пах сталяркі, масла, вечна чорныя рукі. Вышэй «спецы» больш чыстых прафесій, але таксама людзі, якія працуюць рукамі. Верх — апошні паверх — вылучаецца нават звонку. Там — «кіраўніцтва». Унізе шматзначна падымаюць палец да столі — гэта там, наверсе, блага. Ад іх увесь разлад, звады ад таго, што няма сапраўднай справы. А нам няма калі, мы працуем. Наверсе, калі чуецца рэзкі званок зялёнага тэлефона — выклікае дырэктар,— нехта адразу хапаецца за валідол. Наверсе ў час размовы раптоўна спыняюць — «Цішэй ты!» — і дакладна вызначаюць па рыпенні суседніх дзвярэй, хто ідзе, куды і навошта.

Цішыня пустых калідораў падманлівая, за дзвярыма неспакойна. Пішуцца лісты ў інстанцыі, ідуць праверкі, цягнуцца разборы і высвятленні адносін. І нічога не мяняецца. Пасля чарговага разбору дырэктар ідзе на бальнічны — сэрца. А затым усё пачынаецца спачатку. Высвятляюць, хто што каму сказаў і чыя чарга пакінуць гэты дом. Уяўляю, як дырэктар у думках павольна ставіць «птушачку» насупраць прозвішчаў — і мечаны сапраўды знікае.

Яны звярнуліся з надзеяй: «Дапамажыце!» І вось я добрасумленна хаджу па кабінетах і паверхах.

«Дырэктар — патрабавальная, строгая, энергічная. Менавіта такі павінен быць кіраўнік. А вось калектыў тут...»

«Як можа быць такі чалавек дырэктарам? Ды яна ж топча, прыніжае, ламае людзей».

«У дырэктара нямала заслуг. Хаця, вядома, бывае і нястрыманая і нетактоўная. Гэта, выбачайце, жаночы стыль кіраўніцтва».

Я хаджу па кабінетах, распытваю, прыглядаюся. І хаця ўсе стрыжні канфліктаў па пірамідзе сыходзяцца ўверсе — на дырэктары, яна не будзе галоўным героем гэтага нарыса. І таму, што яе дзеянні ўжо атрымалі адзнаку. І таму, што мне цяжка нешта новае дадаць да вядомага тыпу «адміністратара-аднаасобніка», які, безумоўна, упэўнены ў тым, што праўда на ягоным баку, і цвёрда ідзе да мэты, не грэбуючы ніякімі сродкамі. І таму, што я не веру — «яна і толькі яна вінаватая ва ўсім». А таму няхай дом гэты стане зараз дэкарацыяй, ягоная атмасфера — асяроддзем пражывання, а стыль кіраўніцтва адаб'ецца ў мадэлях паводзін. Тыповых не толькі для гэтага калектыву. Чаму з усіх я выбрала гэтых траіх? Мы прыкладна равеснікі, раслі ў адным горадзе, дыхалі адным паветрам, глядзелі на адны партрэты і вучылі гісторыю па адным падручніку — як, зрэшты, выявілася, не па тым. «Мы — дзеці застою»,— амаль з гонарам дэкларавалі яны, усё гэтым растлумачыўшы і апраўдаўшы.

## Бунтар

Так, завочна яго ахарактарызавалі менавіта так — «бунтар». А яшчэ — «лідэр». «Паслухайце яго — і захочацца ісці за ім, яму верыш»,— пераконваў суразмоўца. Бунтар?..

...Тады насілі валасы да плячэй і неабдымныя «клёшы», ад якіх шарахаліся прахожыя. Свая мода, свая музыка, свая мова, свае куміры...

Але мода праходзіць на ўсё. Тым больш што для многіх гэта была толькі мода. У адных бунтароў быў досыць моцны тыл. І калі было модна не працаваць, выказваючы такім чынам свой сацыяльны пратэст, яны аднойчы пераселі з лавак сквераў за рулі «Волгаў», падораных шчодрымі бацькамі. Нехта сышоў з круга, канчаткова апусціўшыся. Нехта вырастаў з пацёртых джынсаў. Нехта ўрастаў у іх. З застойных сямідзесятых узышло «страчанае пакаленне». Яно было інтэлектуальна развітае, востра бачыла, крытычна мысліла, але так і засталося ў мінулым. Як, напрыклад, мой знаёмы Мэтр — таксама з бунтароў.

Так яго звалі ў правінцыйным гарадку, дзе ён быў важаком мясцовых хіпі. Гэта было даўно. Цяпер Мэтр прыходзіць са стосам газет, раскладвае іх на стале і чытае, чытае гадзінамі, раз-пораз каменціруючы: «Выдатна!.. Ну даюць!.. А вось паслухайце...» Увечары ён складвае газеты і ідзе. Але зноў не на працу. Ён нядоўга трымаецца на чарговым месцы: яму сумна, і ён не спрабуе выяўляць працоўны энтузіязм. Няхай з грашыма перабоі — не заўсёды хапае на абед. Няхай рэгулярна дасылае сціплыя зберажэнні маці, хаця ён з-за гонару не просіць. Няхай. Але ён вольны. Як на яго разуменне.

Толькі што ён захоплена расказваў, што неадменна стане перавозіць у вагонах бычкоў. Пазаўчора хацеў стаць загадчыкам сельскага клуба і жыць на прыродзе, стварыўшы нешта накшталт камуны. Аднак праз тры дні перагарэў і пераконваў, што трэба неадменна ехаць на Дыксан. Там сапраўднае жыццё. Але нікуды не ехаў і не ішоў, звыкла сядаючы за пусты стол і патанаючы ў разнастайнасці жыцця, што так і віравала на газетных палосах. Жывуць жа недзе!..

Тады, калі яго яшчэ звалі Мэтрам, ён ведаў, хто ён і навошта. Ён быў супраць і канкрэтна ведаў супраць чаго. Першая запаведзь — не можаш змяніць грамадства, дык хоць не прытрымлівайся яго законаў. Цяпер ён нешта хоча знайсці, але не ведаю, што яму трэба, чаго ён хоча, хто ён такі і што яму нізвяргаць. У трыццаць тры гады яму здаецца, што галоўнае ў ягоным жыцці мінула, калі яго звалі Мэтрам...

На днях пасля доўгай адсутнасці ён наведаўся зноў. Уразіўшы ўсіх гальштукам, да якога яшчэ не прызвычаіўся. Уладкаваўся на працу. Нечакана прыстойнае месца, без рамантыкі, але з перспектываю. Згадалі мінулае. Ён усміхнуўся:

— Я доўга нечага чакаў, нечага хацеў. Занадта доўга. Стаміўся. Потым, ведаеш, каб увесь гэты час пачаўся раней... Я ж навучыўся ўжо падлажвацца пад хлопцаў, якія мосцяць сабе сцяжынку ўверх. Ну, праўда, што я, горшы за іх?..

І ўсё роўна яму было сумна.

...У Бунтары ўгадваю штосьці знаёмае. Ён звыкла няўважлівы да свайго знешняга выгляду: заношаныя штаны, незалатаныя локці. Бунтар звыкла смелы і рэзкі ў меркаваннях: «Казарма! Увесь гэты дом — казарма!» — робіць ён шырокі жэст.

Мы, як заўсёды, зноў звыкла гаворым — пра мінулае і сённяшняе, пра асобу і дзяржаву, мову і культуру. Ён абураецца, ён кляйміць, тым часам дзелавіта цікавячыся, ці не «прадажны я журналіст». Словы, знаёмыя словы...

— А што я магу?! Абаперціся і то няма на каго — адзін.

І гэта зноў словы... Ці здольны творца жыць у гэтых умовах адміністратыўнага націску? Яму ж, натуры ўражлівай, напэўна, горш, чым іншым. Можа, учынкам быў подпіс пад калектыўным лістом у інстанцыю пра ненатуральны, ненармальны лад жыцця гэтага дома?

— Не-не, я адмовіўся ад свайго подпісу. Так, тады я падпісваў, але мяне ўвялі ў зман. Адракаюся,— нечакана таропкі мой суразмоўца.

Пасля званкоў унутранага тэлефона і разбораў за зачыненымі дырэктарскімі дзвярыма амаль кожны другі адмовіўся ад ліста. Адмаўленне ад сябе — гэта таксама ўчынак. Я думаю, Бунтар досыць мірна ўжывецца ў гэтым доме, маўкліва згадзіўшыся не ўмешвацца.

—Так, мы такія, мы дзеці застою. Але тыя, што ідуць за намі,— яны яшчэ горшыя! Мы верылі. Яны ўжо не вераць ні ў што.

— Ды не, яны надта розныя, — потым папраўляць Мэтр.— У наш час усё было больш ясным: альбо-альбо. А цяпер... Адныя захапляюцца, а іншыя?.. Жудасна робіцца. Многіх пазнаю, многіх не разумею. А ўвогуле, усім зайздрошчу...

## Уцякач

Гаршчок з кветкамі не пралазіў у велізарную вазу. Пасадзіць кветкі так і не паспелі, дык хоць схаваць іх вырашылі, каб вочы не мазолілі. Спяшаўся, але асцярожна ўсаджваў адвёртку, стараючыся не падрапаць паліву. А да ганка ўжо падкочвалі «Волгі». «Ды што ты важдаешся!» — дырэктар схапіла малаток. Дакладны ўдар — і чарапкі ў блакітных кветачках асыпаліся на дно вазы.

...Як ашаламляльна проста. Малатком — па тым, што нехта любоўна ляпіў, абпальваў. Малатком — па блакітных кветках... Чаму ён не можа забыцца на гэта, дараваць?..

— А, ды няхай яно пратане...— махнуў ён рукою.— Мне тут усё роўна не жыць. Пайду я адсюль.

Уцякач перабірае гузік чорнага рабочага халата. На твары ўсмешка: «Я — дафеніст». Тэрмін нашага часу, які азначае: «Мне ўсё да фені». Але неяк не верыцца — хутчэй, гэта поза. Бо калі прасачыць за жыццём Уцекача, то ім заўсёды рухала ідэя, яму патрэбная была мэта — высокая і светлая. З гэтай мэтаю ён юнаком прыйшоў у рэстаўрацыйныя майстэрні. Няхай не ўвекавечыць сваё імя, але данясе створанае продкамі да нашчадкаў. Захаваць сентыментальныя астраўкі мінулага сярод безаблічных шматпавярховых «скрынак».

...Не ўдалося. Нічога не ўдалося. Яны захапляліся мураванай кладкаю і стройнымі пілястрамі, але падалі сцены ад накаўта чыгунных баб. Гулялі бульдозеры, перааравалі цэлыя кварталы. Навошта? Каму гэта было трэба?.. Ён верыў, што мэта ягонага жыцця — зберагчы гэтыя дамы. Але іх разбуралі.

Яны доўга змагаліся за унікальны будынак старажытнай аптэкі. Збіралі подпісы, хадзілі па інстанцыях. А калі і гэта не ўдалося, Уцякач пайшоў з рэстаўратараў. Гэта было першае сур'ёзнае паражэнне, першае дарослае расчараванне і першыя ўцёкі.

...Вясёлыя хлопцы — шабашнікі.

— Што ты маешся? Галава на плячах, рукі на месцы — куй грошы, не прападзеш.

Спачатку спадабалася. Нязвыкла набіты кашалёк, незалежнасць — і праца, праца, праца. Ён не задумваўся, што робіць, навошта, як. Урэшце, калі ўсяму ў жыцці ёсць грашовы эквівалент, то ён ужо ў гэтым жыцці не апошні.

Але аднаго разу захацелася спыніцца і задумацца. Уцякач са здзіўленнем адчуў, што грошы — той самы наркотык. Што ён пачынае ўцягвацца ў гонку за «кавалкамі», уваходзіць у смак вялікага рубля. Раптам стала нудна сярод сяброў, якія ўмеюць рабіць грошы. Але ж і ў іх была іскра? Няўжо наканавана яму гэтак жа разменьваць свой талент на халтуру? А яшчэ стала пуста — бо ў глыбіні душы ён летуценнік. І страшна — няўжо гэта і ёсць Мэта?..



Ён і сюды прыйшоў з ідэяй — стварыць клуб архітэктараў.

— Вы скажаце, хто пабудаваў гэты дом? — ківае суразмоўца за акно.— Не Растрэлі, так?

За акном — не надта новы мікрараён, сярод «хрушчовак» некалькі вышынных дамоў. Не, Растрэлі тут не праходзіў.

— Думаеце, няма таленавітых архітэктараў, не можам па-іншаму? Проста самыя розныя праекты праходзяць праз адно сіта. Можна, вядома, па-свойму, але ўсе выдатна ведаюць, як трэба рабіць, каб прайшло... Я так не хачу.

Так, ён ішоў, каб стварыць клуб. Каб маладыя таленты маглі працаваць без «сіта». Няхай не палацы, няхай дваровыя пляцоўкі будавалі б яны — але свае, без казённай праўкі. У выглядзе эксперыменту ўзяліся за праект афармлення камсамольска-маладзёжнага кафэ. «Як мы тады працавалі!..» Але потым райком камсамола нешта доўга ўтрасаў, узгадняў, нешта не стыкоўвалася, і камсамольска - маладзёжнае кафэ раптоўна апынулася кааператыўным. Эксперымент праваліўся. Стварэнне клуба замерла на фінансавай кропцы — хто будзе плаціць, за што, як? Паперы, подпісы, спісы, дакументы, пячаткі, узгадненні, дазволы, забароны, «пазваніце праз тыдзень...».

— А хацелася ж нешта зрабіць, хацелася,— у шэрых вачах адбіваецца шэрае неба. Але вось яны зноў насмешлівыя.— Дый я сам вінаваты — перагараю хутка. Мы ж дзеці застою.

Яму тут жылося нядрэнна. Нават лічыўся прыбліжаным да дырэктара. У канфлікты не ўлазіў, атрымліваў прэміяльныя і іншыя дабаўкі. Але аднойчы проста не змог змаўчаць і нечакана для ўсіх выкрыў дырэктара ў хлусні: выжываліся чарговыя ахвяры несумяшчальнасці. Пасля чаго заставацца тут не мела сэнсу. Ён узяў «птушачку» насупраць свайго прозвішча. І ўсё-такі, думаю, Уцякач пайшоў не з-за гэтага.

...У куце яго пакоя — макет фантастычнай пабудовы. Вось яна расчыняе сцэны-пялёсткі, бутон распускаецца — і крыты стадыён становіцца адкрытым. Убачыўшы гэтую студэнцкую дыпломную работу, дырэктар захапілася—такога свет яшчэ не бачыў. «Будзем будаваць». Дарма пераконваў архітэктар, што гэта толькі ідэя, што ёй патрэбныя яшчэ шкілет і мяса, і гады разлікаў, і горы чарцяжоў. У адказ: «Тэрмінова здай макет! Праб'ём!»

Ён ведаў, што гэта мёртванароджанае дзіця, лухта, прыхамаць, у чым пазней пераканаліся і іншыя. Ён працаваў. Ён умее працаваць. Ён хацеў будаваць паводле сваіх праектаў. А будаваў «пацёмкінскія вёскі», якія ніколі нікому не спатрэбяцца. Ён смяяўся з ваяўнічай дурасці — і з сябе. Але зрабіў. І быў адзначаны прэміяй.

Ён хацеў, але не змог.

...Мара, якую мы няздатныя прыкрыць рукамі, кволая. Уцякач зноў пайшоў. І, напэўна, зноў ён будзе збіраць і беражліва склейваць чарапкі, на якіх усё меней блакітных кветак...



## Назіральнік

Упершыню мы сустрэліся зусім выпадкова. На тэлебачанні папрасілі прывесці творчых натур на маладзёжную перадачу, і я вырашыла пашукаць іх у гэтым доме. Што трэба будзе рабіць перад камерай, уяўляла цьмяна, і таму нешта без сувязі, але бойка сакатала, націскаючы на эмоцыі. Уцякач успыхваў: «Бадай, я прыйду. Але я там такое скажу!..» (Ён, вядома, не прыйшоў.) Назіральнік маўчаў і недаверліва ўсміхаўся. А ўрэшце сказаў нечакана шмат:

— Вы ідзіце, выступайце, здымайцеся. А я лепей прылягу на канапу і ўключу тэлевізар... Цікава ў вас атрымліваецца. Але ў жыцці ўсё не так... Я не бачу вакол сябе таго, што вы паказваеце, пра што пішаце...

Фланелевая кашуля ў «цёплую», утульную клетачку. І цёплы, утульны позірк. Назіральнік ніколі не асуджае, нічога не хоча змяніць і ўсё прымае такім, як ёсць. Ён не верыць, што ў гэтым доме ўсё можа быць неяк інакш. Зрэшты, можа быць — але горш. Таму лепш ні ў што не ўмешвацца.

«Ведаеце, з дзецьмі ён пераўтвараецца. Яны да яго цягнуцца і лічаць добрым»,— казалі «наверсе». Напэўна, так і ёсць. Ён, сапраўды, добры, зычлівы. Дабрыня ягоная можа сагрэць, але не абараніць.

Пазней я сказала, што ўсё зло ад маўклівых, гэта вы патураеце хамству, самадурству, вы развязваеце рукі самавольству, вы, абыякавыя... Мажліва, сказала і пагарачыўшыся, не ведаю. Яшчэ не забылася сустрэча з другім «назіральнікам».

...Тады ўчынкам было слова — усяго толькі слова. Ну, што яму варта было ўстаць і пры ўсіх паўтарыць тое, што так сумленна, шчыра расказваў мне сам-насам? Зрэшты, і ён, і я ведалі, як дорага гэта можа каштаваць — трапіць у няласку ў навуковай установе. Несправядліва звальнялі ягонага сябра, які трапіў пад жорны інтрыг. Гаварылі «абвінавачы», а ён маўчаў. Напярэдадні тлумачыў: «Разумееце, я не буду ні ў што ўмешвацца. Маё жыццё — навука. Усё астатняе — ніжэйшае». А потым у тэлефонную трубку крычала яго жонка: «Мой Толя нічога вам не казаў! Вы чуеце?! Ён не мог гаварыць: яму трэба абараняць кандыдацкую».

Толя хадзіў да зволненага сябра дадому суцяшальнікам, прапаноўваў грошы. А на працы пры сустрэчы праходзіў міма не здароўкаючыся. Толя паспяхова абараніўся. І, напэўна, даб'ецца ў навуцы большага. Бо маўчанне часам сапраўды золата.

Не, хочацца верыць, мой Назіральнік не такі. Ён захоўвае нейтралітэт не з кар'ерысцкіх меркаванняў — да іх ён халодны. Мне здаецца, ён баіцца парушыць нейкую ўнутраную раўнавагу, распляскаць гармонію спакою. Умяшаўшыся ў гэты навакольны свет, прыйдзецца прыадкрыць і свой. А ў яго пускаць не хочацца.

...У іржавай бляшанцы для чарвяка варушыцца шыцік. Вірлавокі, са слабым мучністым цельцам, схаваным у кокан. У жывёльным свеце самыя прыступныя, самыя безабаронныя істоты хаваюцца ў ракаўкі і коканы. Ці можа чалавек нарадзіцца назіральнікам, ці ён становіцца ім, балюча ранячыся аб рэальнасць, адчуваючы сваю безабароннасць?..

На другім паверсе ў другім кабінеце гэтага дома я сустрэла іншага чалавека, няўлоўна падобнага на Назіральніка — насцярожанасцю з усплёскамі шчырасці, ціхім голасам, поглядам у «сябе» і нежаданнем умешвацца ў навакольную рэчаіснасць: «Дасканалае нараджаецца з раўнавагі».

— А хамства — не, не вынашу, цярпець не магу хамства!

— А калі абразяць вас?

— Мяне? — задумаўся.— Я скаруся,— адказаў потым, але пальцы задрыжалі.

А можа, гэта страх? Страх, які ўеўся ў поры, адбіўся ў генах? Страх як інстынкт сацыяльнага самазахоўвання?

...Смешныя гліняныя фігуркі на вялікім стале. Назіральнік распісваў птушку-свістульку, спрытнымі мазкамі накідваючы яркую сетку на кволыя крылцы. На развітанне ён сказаў:

— Шкада, што ў гэтым жыцці мы не вяслуем па вялікім рахунку...

Назіральнік загадзя ведаў марнасць усіх бур і праверак. І зноў меў рацыю, як заўсёды бывае ў назіральнікаў. Дырэктар застаўся, і застаўся ранейшы лад. Што магу зрабіць я? Пакуль дабрабыт кожнага ў гэтым доме залежыць ад асабістага стаўлення дырэктара — і толькі. Пакуль дырэктар зусім не залежыць ні ад каго са сваіх падначаленых. Пакуль увогуле будзе панаваць сістэма прамой залежнасці ад таго, хто стаіць вышэй. Пакуль, пратэстуючы супраць адміністравання, яго ж і будзем умольваць: «Здыміце з працы дэспата!» І смешна, і сумна, але нагадвае ўсё гэта ваяўнічы лозунг дырэктара: «Усіх гультаёў разгалю!» Усё застанецца. І дзесяткі метраў сітцу будуць рэзаць на дробныя флажкі для дэманстрацыі, а потым не будзе з чаго шыць сукенкі — выбралі ліміт. І кінаэкран заб'юць аксамітам — больш эстэтычна, а для кіно можна і прасціну павесіць. Засцелюць падлогу дыванамі і павесяць замок — няма чаго таптаць. І зноў будуць ісці дэлегацыі, захапляючыся гэтым палацам...

А яшчэ дырэктар засталася таму, што яна патрэбная — менавіта такая, якая ёсць. Бо ўдала ўпісалася ў сістэму вертыкальнай «лесвічкі». Яна старанна выконвае загад зверху, не шкадуючы сіл, зможа прыняць і паказаць нават тое, чаго няма. І яна патрэбная тым, хто знізу. Калі чалавек, які будуе дэльтапланы, прыйшоў адразу да чыноўніка, які раздае матэрыяльныя каштоўнасці, той раздушыў яго адной-адзінюткай фразаю: «А хто ты такі?» Творца безадапаможны, калі яму не дапаможа дырэктар, якая засвоіла ўсе законы «лесвіцы». І я таксама нічым не магу ім дапамагчы.

Пакуль у гэтым доме, бадай, так нічога і не зменіцца.

...Расчыняючы шкляныя дзверы, я лаўлю адбітак у люстрах. Усе мы — дзеці свайго часу. І пры выглядзе вахцёра ўжо чакаю знаёмы крык:

— Стойце! Вы куды?!



Аляксандр Ліпай нарадзіўся ў адным з самых прыгожых і паэтычных куткоў Беларусі — на Капыльшчыне. Яго родная вёска Вошкаты стаіць узбоч шашы, якая, то ўзбягаючы на пагоркі, то спадаючы ў лагчыны, лучыць Капыль са Старыцай, а адтуль вядзе ў вялікі свет. Па гэтай дарозе Аляксандр ездзіў у капыльскую СШ № 2, па гэтай дарозе ён, студэнт факультэта журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна, ездзіць дадому.

## Аляксандр ЛІПАЙ

### ТУТЭЙШАЯ ДУМКА

Я гляджу з адчайным смуткам
на тутэйшую зямлю:
колькі глебы некранутай
я да сэрца прытулю!..

Сёння бы сама прырода
месцам гэтым шле праклён:
на тутэйшых агародах
нетутэйшы вырас лён.

І саміх людзей спрадвеку
п'е-высмоктвае Іржа:
у тутэйшым чалавеку
нетутэйшая душа.

Пад тутэйшым цьмяным небам
цьмяны дзень і цьмяны лёс.
Ці ж такое мне патрэбна,
дзеля гэтага я рос!

Ці ж аб тым спявала маці,
дні свае п'ючы нагбом,
над калыскаю дзіцяці
і на полі над снапом!..

Хай у промнях цьмяным высяў
сорам выесць сэрца мне,
што на матчын спеў забыўся,
што душою патанеў.

І калі не знойдзе ўтулку
люд тутэйшы — разам з ім
я з такім адчайным смуткам
прытулюся да зямлі!..

◊ ◊ ◊

Мне дзяўчына чытае вершы.
Вершы існыя, як жыццё.
І гучаць яе словы першым,
Неастуджаным пачуццём.

На асмяглых ад болю вуснах,
у асмеленых шчасцем вачах
думкі гэтак шчыра смяюцца
і аб гэткім таемным маўчаць!..

Хай душа яе зноў сваволіць!
Я ж дагэтуль сваю наталіў —
мне хапае ўласнага болю
і шчаслівых калісьці хвілін.

Я ўчапіўся за іх аберуч,
да сягоння таюся між іх.
Ты даруй мне, дзяўчына, неруш
І пачуццяў, і мар маіх.

Ты не руш, бо дарма. Няхай мне
зошлы дзень толіць мроі цяпер.
Я ж шаную тваё каханне
і хаваю ў сабе свой верш...

◊ ◊ ◊

«Як не хочацца мне пакідаць гэты дзень!
Ён адзін — бы агеньчык у цемры.
Я ішоў да яго, як да шчасця ідзе
кожны, хто ў сваю зорку паверыў.

Хай не зведаў і тут асалоды надзей
і растраціў былую упартасць —
як не хочацца мне пакідаць гэты
дзень!..» —
я падумаў, ступаючы ў заўтра.

### У МАЕЙ НАЧЫ

Выбягаю, расхлістаны, з інтэрната.
Вонкі з гэтых абрыдлых сцен,
З дзён, ад рогату-плачу стракатых,
пад начны спадарожны цень!

У трамвай паспяваю ускочыць
і ў знямозе — ілбом да шкла —
пазіраю ва ўласныя вочы,
болем выцмыганыя датла.

Доўга колам па рэйках ляскаць,
церушыцца адчаю імжой...
Гэта ноч, што павінна быць наскай,
я хачу, каб была маёй.

І таму — на апошнім прыпынку
выйду ў ноч. І не згледжу няхай,
як па вулічным цьмяным пустынку
прагрукоча апошні трамвай.

Да скарынкі зямлі — асфальту —
ціш прыцісне мае сляды.
Мне адсюль да нядаўняй хаты
мо з гадзіну ўсяго хады.

Але я не пайду. Навошта!
Між пустэчу ахутаўшых сцен
я занадта вялікім коштам
там плаціў за ўсялякі дзень.

Што вяртацца! Я згодзен цалкам
з навarожаным для мяне.
Сяду дзесь на астылую лаўку,
скурчу думкі яшчэ цясней.

Да віднога ніхто не абудзіць
вершаваных пачуццяў радкі.
Хто па мне непакоіцца будзе!
Я таксама — ані па кім.

Мне таксама — нікога не трэба.
О, спакуса маіх адзінот!
Я вачамі памкнуўся да неба,
да напоўненых зоркамі сот:

мо адна з іх апошні раз бліснe,
ціха скоціцца ў нікуды.
Я ж прыкмецію — і ненаўмысна
пажадаю сабе бяды.

Так, бяды.— Гэта мой паратунак,
гэта мой пажыццёвы кудмень.
За дзярзоту надзей і думак
ёю плаціць мне кожны дзень...

Хай абранаю мною ноччу
золка, скрушна — трывай не трывай! —
я бягу. Паспяваю ускочыць
у бязлюдны апошні трамвай.

◊ ◊ ◊

Гукаю шчасце.
У адказ — ні слова.
І дзе яно сягоння!
Як знайсці!
Былыя дні — не болей, чым прадмова
да нечага вялікага ў жыцці.

Гукаю шчасце.
На мяне злуюцца.
З мяне смяюцца.
Годзе ім ужо!
Я сам сабе прымушан адгукнуцца,
абы яны прачнуліся душой.

Гукаю шчасце —
быццам святадзею,
пакуль яшчэ
не здолеў ачарсцвець.
А мне карціць апошнюю надзею
нарэшце выкрычаць у свет...

Фота Аляксандра ЦІХАНОВІЧА



# АДНОЙЧЫ Ў ЖНІЎНІ

Уладзімір АРЛОЎ



Уладзіміра Арлова, мусіць, няма патрэбы знаёміць з чытачамі «Крыніцы»: тыя, хто цікавіцца гістарычнай прозай, даўно звярнулі ўвагу на яго апавяданні і аповесці пра нашу мінуўшчыну. Яго творы, перакладзеныя на рускую мову, друкаваліся ў часопісе «Неман», «Литературная учеба», іншых выданнях. А пачынаў Уладзімір з лірычных апавяданняў. Гэтая публікацыя кажа пра тое, што У. Арлоў не збіраецца развітвацца з лірыкай.

Ён не пазнаў яе голасу, назваў яе спачатку Светай, потым Ларысай, але потым, калі яна сказала сваё імя, не адчуў аніякай збянтэжанасці.

У трубцы быў фон з нейкай музычнай радыёперадачы.

Яна ехала з працы і ўбачыла, што зносяць бaракі. Напэўна, знясуць і той, дзе была Віцькава майстэрня. Голас гучаў роўна, у ім нельга было пачуць ні намёку на тое, што яна пазвоніць яшчэ або хоча, каб пазваніў ён. Голая інфармацыя: зносяць баракі.

Дзякуй, сказаў ён, і яны паклалі трубкі.

Яшчэ з паўгадзіны ён сядзеў за сталом, потым схаваў свае паперы ў шуфляду і выйшаў на вуліцу. На прыпынку дачакаўся патрэбнага аўтобуса, але, правёўшы яго вачыма, пайшоў пешкі.

...Тады ягоны аднакласнік Віцька яшчэ не быў адносна вядомым і карміўся з таго, што маляваў лозунгі і плакаты накшталт «Выратаванне на водах — справа ўсенародная!». Перад святамі Віцька браў трафарэты і ішоў аздабляць вітрыны гарадскіх крамаў. Гэтыя трафарэты і плакаты ўперамежку з графічнымі малюнкамі паўночных вёсак віселі ў майстэрні на ўсіх чатырох сценах.

Яшчэ там стаяла старая зялёная канапа, запэцканы фарбамі стол, два зашмальцаваныя крэслы. Узімку з-пад дзвярэй цягнула холадам і даводзілася ўключаць рэфлектар. Улетку ў адчыненыя дзверы калідора залятаў цёплы вецер, і пад дзвярыма бялеліся маленькія сумёты таполевага пуху.

Была яшчэ лядашчая радыёла і тры старыя пласткі. У вантробах у радыёлы нешта сакатала, нібы там сядзеў зацяты цвыркун, але пазней, калі Віцька купіў касетны магнітафон, яны, не дамаўляючыся, ніколі не ўключалі яго, а ўсё адно слухалі радыёлу.

Звычайна яны ставілі пластку з песнямі «Бітлз». Гэта было ягонае школьнае захапленне. Тады яно, праўда, называлася нізкапаклонствам, і калі аднаго разу на «агеньчыку» ён з сябрамі ўключыў у радыёрубцы свае запісы, яго і сяброў абмяркоўвалі на сходзе, а ў насценгазеце з'явілася карыкатура: трое хлопчукоў з камсамольскімі значкамі, малітоўна склаўшы рукі, укленчылі перад партрэтамі чатырох распатланых музыкаў. Хлапчукоў таксама павінна было быць чацвёра, але Віцька купіў сабе адпушчэнне грахоў, бо менавіта ён і быў аўтар карыкатуры.

Аднойчы ён распавёў гэты выпадак ёй.

Наогул, у тыя хвіліны, калі трэба было размаўляць, ён часта апавядаў пра школу. Пра дырэктара, які раніцой сустракаў іх на ганку і крокаў за сто пачынаў махаць рукамі і, грасіруючы, крычаць: «В парикмахерскую!» Пра рукапісны альманах пад назваю «Блакітны ліхтар», які яны пачалі выпускаць у дзесятым класе. Часам ён чытаў вершыкі з таго альманаха:

Там на лузе, за ракою,
Дзе шуміць чарот,
Адшукаў я выпадкова
Брудны рваны бот...

Зрэдку ён спрабаваў гаварыць з ёю пра нешта больш сур'ёзнае, але адразу заўважаў у яе вачах сум і паблажлівасць, з якой глядзяць на дзівака, і замаўкаў, бо разумеў, што яны сапраўды размаўляюць на розных мовах.

Яны сустракаліся амаль кожны дзень, і ўсё паўтаралася: майстэрня, слабае святло ад радыёлы, ціхая мелодыя «Yesterday», якая злівалася з іхнім дыханнем...

Ён успомніў маленькія прыгоды, што здараліся з імі ў той год. Аднаго разу калідор быў пасыпаны тонкім слоем сінькі. Жаночыя чаравічкі пакідалі на сіньцы выразныя сляды, і Віцькаў сусед, майстэрня якога была за сцяной, сфатаграфаваў іх і прыклаў да ліста пра Віцькава маральнае аблічча.

Па другі бок майстэрні месціўся нейкі вечна зачынены склад. Аднае начы яны пачулі там прыцішаныя крокі, шэпт, чырканне запалак. Напэўна, гэта былі злодзеі, але ў наступныя дні злодзеяў ніхто не шукаў. Здавалася, людзі, якія некалі зрабілі той склад, ужо даўно забылі, што ў ім захоўваецца і ўвогуле, што ён недзе існуе. А можа, гэта былі і не злодзеі.

Аднойчы яна не прыйшла. Назаўтра ён пазваніў. Ён ні пра што не пытаўся, і яна, нібыта нічога не здарылася, сказала: «Добра» — і зноў не прыйшла. Праз два дні ён пазваніў яшчэ раз, паслухаў яе голас і паклаў трубку. Ён не надта перажываў, бо ў той час таксама меў прычыну не прыйсці.

...Баракаў ужо не было. Цэглу паспелі вывезці, і пад старымі таполямі засталіся адно падмуркі і цэментавыя ганкі.

Ён знайшоў той ганак, другі ад вуліцы, і, змахнуўшы пыл, прысеў. Побач дымела прыгаслае вогнішча, з недагарэлага ламачча тырчала штосьці задаўнена-знаёмае. Ён пазнаў абвуглены корпус радыёлы.

Цвыркун таксама згарэў, падумаў ён.

За ўсе гэтыя гады ён бачыў яе разы тры. Апошні раз — летась. Яна пераходзіла вуліцу з празрыстай поліэтыленавай торбачкай, у якой ляжалі чырвоныя яблыкі. Ён добра памятаў, што заручальны пярсцёнак быў у яе на левай руцэ.

Віцька даўно стаў адносна вядомым і з'язджаў у абласны цэнтр. Калісьці Віцька любіў паўтараць, што мастак павінен жыць у Парыжы. Было такое ўражанне, што Парыж і абласны цэнтр ад іхняга горада прыкладна на адной адлегласці, бо цяпер яны з Віцькам амаль не бачыліся.

За гэтыя гады ён напісаў дзве кнігі. Ён успомніў, што першыя апавяданні напісаў якраз тады, калі ў радыёле сакатаў цвыркун і Віцькаў сусед пасыпаў калідор сінькай.

Над ачахлым вогнішчам пырхаў матылёк. Крапіўніца, падумаў ён і адразу сам сябе паправіў: крапіўнік.




Матылёк апусціўся на край ганка і распластаў крылцы.

Ён асцярожліва, каб не спалохаць матылька, прыклаў да цэментавай прыступкі далонь. Ганак яшчэ захоўваў цеплыню сонечнага дня. Грэецца, падумаў ён і ўсміхнуўся: яму ўсё адно хацелася думаць пра матылька ў жаночым родзе.

Ён пасядзеў яшчэ колькі хвілін і падняўся. Пад нагой нешта хрумснула. Гэта быў востры ўломак пласткі. Ён ацёр яго ад пылу і схаваў у кішэню. Крыху падумаў, выняў і паклаў на ганак.

Праз некалькі крокаў ён азірнуўся. З запыленай і здратаванай травы падымаліся тры прыступкі.



Таццяна ЦЮРЫНА,
мастацтвазнаўца

# УСМЕШКІ І ГРЫМАСЫ ФЕСТЫВАЛЮ

**ПЕРШЫЯ ВЫНІКІ, УДАЧЫ І ПРАЛІКІ ФЕСТЫВАЛЮ ПОЛЬСКАЙ ПЕСНІ Ў ВІЦЕБСКУ. З ПУНКТУ ПОГЛЯДУ ГЛЕДАЧА, УДЗЕЛЬНІКА, АРГАНІЗАТАРА, ГОСЦЯ І ГАСПАДАРА**

Урэшце, **гледача**, які ўпершыню трапіў на прадстаўленне, што на ўсіх еўрапейскіх шыротах называецца «гала-канцэрт», многае павінна было захапіць. Не кожны ж дзень адбываецца падобнае ў абласным горадзе, дзе нават гастролі сталічнага тэатра — вялікая рэдкасць. А тут — размах, бляск, феерверк уражанняў, твары эстрадных зорак, лавіны музыкі, маскарадная стракатасць адзежы. Летнія пагодлівыя дні асабліва схілялі да рамантычнага, карнавальнага настрою, калі ўсе трохі нібыта шалёныя ад сонца, кветак, музыкі і адчування «падзеі». Першы ўсесаюзны фестываль польскай песні — гэта падзея, што ні кажыце, асаблівая. Я не буду шмат гаварыць пра тое, што каштоўнасць падобных акцый хоць бы ў тым, што адбываецца падзея культуры, і гэта само па сабе добра. Што мы зведваем чыёсьці мастацтва, і гэта заўсёды — узбагачэнне свайго духоўнага свету. Што такія прэстыжныя мерапрыемствы падымаюць сацыяльны статус горада і г. д. Аспектаў, якія нараджаюць у нас радасныя надзеі, шмат, і пра іх шчодра і з энтузіязмам казалася ў час «Віцебскага тыдня». Я пра іншае.

Кінуць ідэю, напэўна, не так ужо і цяжка. Але прадумаць яе да канца — справа складаная і поўная нечаканасцей. Спачатку ж як разважалі: ёсць у Польшчы фестываль савецкай песні? Ёсць. Давайце і мы зробім у сябе фестываль польскай песні. Давайце. А дзе? У горадзе-пабраціме Віцебску. Усё нібыта слушна. Ёсць Зялёна Гура, дзе ўжо шмат гадоў існуе конкурс маладых выканаўцаў савецкай песні — цяпер будзе ў Віцебску конкурс маладых выканаўцаў (інакш кажучы, па-нашаму, самадзейных) польскай песні. Далей... а далей пачынаюцца пытанні. Паглядзім на карту. Польшча па памерах амаль тая ж Беларусь, і яе ваяводствы — амаль тыя ж вобласці. Усё так, ды не так. Беларусь — толькі часцінка велізарнай краіны, яе суседка — уся краіна цалкам, і што ў маштабах краіны выглядае натуральным і па затратах і па прэстыжы, тое ў маштабах вобласці выглядае, скажам, не надта адпаведна. Гэта ўсё роўна як у ЗША арганізавалі б пышны фестываль кіргізскай песні ці якойсьці іншай. Узнікае пытанне, чаму менавіта польскай песні, а не беларускай ці чэшскай. Відаць, павінны быць больш глыбокія прычыны ў такога грандыёзнага фестывалю, апрача супрацоўніцтва гарадоў, якое часта мае чыста парадны, сімвалічны характар. Культура павінна мець глыбокія карані. У чым яны? У блізкасці гісторыі і нацыянальнага характару. Любому жыхару Беларусі ясна, што найбольш шчыльна судакранаюцца яны на гродзенскай зямлі, проста таму, што і зямля гэтая, і гісторыя ў палякаў і беларусаў у многім агульныя. Крыўдна бывае, калі велізарная аўдыторыя летняга амфітэатра амаль не разумела, пра што спяваюць польскія артысты. У Віцебску польская мова — чужая, у Гродне ўсё было б інакш. Застаўся за моўным бар'ерам сэнс надзвычай дасціпных і іранічных песень эксцэнтрычнага Ірэнеуша Дудэка (гэта сапраўды польскі Жванецкі ў рытмах року) і філасофскі сэнс песеньманалогаў адметнага артыста, які грае ў тэатры Дастаеўскага і здымаецца ў вялікіх кінарэжысёраў, Міхала Баёра, а без гэтага сэнсавага разумення кантакт на чыста эмацыянальнай, вонкавай хвалі рытмаў так і застаецца павярхоўным. Бо невыпадкова ж пуставалі залы дзвюх цікавых і вельмі рэдкіх выстаў: польскага жывапіснага авангарду і польскага плаката, вядомага ва ўсім свеце сваім высокім узроўнем. Мала агульных кропак судакранання культур. Віцебск прыняў польскую песню вельмі зычліва, па самым высокім рахунку, але многія намаганні з цяжкасцю прышчапляюцца на непадрыхтаванай глебе. Вось пра што думалася, калі ўслухоўвалася ў гоман вулічнага натоўпу, які год пры горадзе — так сцвярджаюць самі віцябчане — становіцца з выгляду ўсё больш еўрапейскі, калі ўзіралася ў аблічча старажытнага горада, які імкнецца захаваць сваю гістарычную самабытнасць. І зноў узнікалі пытанні. Сярод аднаўленчых, рэстаўрацыйных клопатаў горада не знайшлося месца, каб стварыць музей мастакоў «віцебскай школы», якія зрабілі б гонар любому гораду свету. Можа, і завышаныя мае запатрабаванні абласному гораду, але ж ён задумаў стаць упоравень са сталіцаю, дык давайце адпавядаць — і ў маштабах, і ў сэрвісе, і ў культурным узроўні. А гэта цяжка, ой як цяжка, таму што і вопыту няма, і, зноў-такі, не хапае гэтага самага культурнага ўзроўню, без якога любая пышная падзея скочваецца да пышнай паказухі. Што ўтойваць, было такое, і нямала, у Віцебску, але — да гонару арганізатараў фестывалю — многае было зроблена на належным узроўні. Увогуле, перапады і перагібы непазбежныя ў новай справе, і яны пастаянна ішлі побач з любой падзеяй фестывалю, аднак — і гэта было дзіўна — не псавалі ягонай карціны ў яе паўнаце. Значыцца, усё ж такі змянілася нешта за апошнія гады, ва ўсякім разе, пачынае мяняцца, значыцца, прыходзяць больш кампетэнтныя людзі ў «індустрыю забаў».

Адзін з першых такіх крокаў — будаўніцтва для правядзення фестывалю спецыяльна абсталяванага амфітэатра, а не прыстасаванне наяўнага да новай задачы, як у нас нярэдка бывае. Сёння віцебскі летні амфітэатр — лепшае збудаванне падобнага тыпу ў нас у краіне. І заўважце, тэмпы якія! Пабудаваны ён за 6 месяцаў, праўда, дапамагалі фіны, але гэта ўжо як бывае, трэба было давесці да міжнародных стандартаў. І ўсё-такі ў першы ж лівень пацёк казырок над эстрадаю і падмачыў асвятляльную апаратуру. Потым высветлілася: не паскупіўшыся на знешні выгляд, зрабілі вельмі няўтульныя і маленькія памяшканні для грымёрных. Абсталявалі ўтульны артыстычны бар на верандзе з тылу сцэны і не падумалі, што беларускае надвор'е — гэта не каліфарнійскае, дождж двойчы неміласэрна праганяў з канцэртаў публіку.

Віцябчане адразу ж ахрысцілі гэтае прыгожае збудаванне, якое добра ўпісваецца ў ландшафт,— форум. На самай справе, ёсць нешта антычнае ў ягонай натуральнай ракавіне са схіламі, якія нагадваюць рымскі амфітэатр. І тое, што «чаша» ягоная напаўнялася бітком гледачамі, якія ішлі сюды, бы на свята, вядома, вынік прысутнасці на сцэне сапраўдных зорак эстрады і імкненне прадугадаць будучых.

А такі шанц быў, бо **удзельнікі** фестывалю — племя маладое, незнаёмае. Цяжка цяпер меркаваць, як праходзілі адборачныя конкурсы і праслухванні, яны былі на рэдкасць негалосныя, але тое, што большасць удзельнікаў пры больш кампетэнтным і руплівым адборы маглі б і не прайсці на фестываль, не зашкодзіўшы яму,— гэта стала ясна ў першы ж дзень конкурсу. І прычына зусім не ў нейкім слабым узроўні. Якраз наадварот, узровень быў дасягнуты, але бяда ў тым, што ён быў амаль аднолькавы ва ўсіх. Адбілася накладванне розных уражанняў з-за прысутнасці на эстрадзе адначасна, у адзін вечар, польскіх выканаўцаў найвышэйшага класа, савецкіх зорак, такіх, як, напрыклад, Тамара Гвердцэтэлі, і зусім нявопытных, зялёных пачаткоўцаў, усе намаганні якіх, здаецца, ішлі на тое, каб быць «не горш за іншых»,

інакш кажучы, быць такімі, як іншыя. Для эстраднага выканаўцы гэта смерць. Што і высветлілася ў параўнанні з такімі яркімі індывідуальнасцямі, як Марыля Радовіч, Аліцыя Маеўска ці Збігнеў Вадэцкі. Параўнанне не на карысць савецкіх спевакоў.

Усяго да заключнага конкурсу ў Віцебску прыйшлі 34 выканаўцы і салісты, каб у канцы скараціцца да 16-ці і дзяліць паміж сабою прызы і месцы. Такая ж самая колькасць, як і ў Зялёнай Гуры, хаця магло б быць і болей і меней, гэта ж залежыць ад якасці талентаў, а не ад умоўных «адзінак», загадзя запланаваных па хвілінах тэлевізійнага часу. А тэлебачанне дыктавала ў Віцебску ўсё, бо трансляцыя вялася на ўсю краіну і па сістэме Інтэрбачання, і, напэўна, гэта было не толькі добра, але і замінала яшчэ толькі што народжанаму конкурсу: дужа ўжо баяліся імправізацый, нечаканасцей, вось іх і не было. Даходзіла да смешнага. Калі для ўдзелу ў вядзенні канцэрту польскіх зорак прыехаў адзін з бліскучых каментатараў Польскага тэлебачання і свабодна адкінуўся ў крэсле побач з выцягнутымі па струнцы Ангелінаю Воўк і Юрыем Кавяленавым, эфект быў знішчальны. Назаўтра ў прэс-бары Кавяленаў скардзіўся на «жыццё» зычліваму слухачу: «Немагчыма было працаваць! Паляк увесь час цягнуў коўдру на сябе!»

Вось гэтай раскаванасці, таленту вельмі не хапала першаму фестывалю. Два ўдзельнікі з Беларусі: Іна Афанасьева з Магілёва, салістка ВІА «Спектр», і Валерый Скаражонак, саліст ВІА рэстарана «Гродна» (дарэчы, рэстаранных спевакоў было нямала на конкурсе), не змаглі стаць лідэрамі, хаця ім і карты ў рукі ў аваладанні моваю і манерою польскіх выканаўцаў. Пра юных навучэнцаў магілёўскага музвучылішча сясцёр Лілю і Вікторыю Прокніных яшчэ рана гаварыць як пра выканаўцаў. Бадай, Скаражонак, дзякуючы добраму голасу і культуры спеваў, можа стаць адметным артыстам, у манеры якога адчуваецца захапленне музыкаю і стылем Чэслава Немэна, а гэта зусім няблага напачатку. Песня, якую ён выбраў для конкурсу, адна з лепшых у рэпертуары Немэна — «Калі прыйдзе вясна». Валерый адчуў яе дзіўны, які нібыта льецца, рытм і здолеў перадаць хісткі трывожны характар і настрой, чароўную мелодыку. І ўсё-такі гэтага мала, каб зазіхацець на эстрадзе. З ВІА справы яшчэ горшыя. І «Дэльта» з Мінска, і «Дзвіна» з Віцебска, і «Пралескі» з Гомеля згубіліся сярод аднатыпных ВІА з самых розных куткоў краіны. Чамусьці вельмі былі падобныя ВІА з Данецка і з Малдавіі, з Комі АССР і з Арменіі... Не песнямі, не акцёрствам, а каленцамі брэйк-данса здзіўлялі слухачоў ВІА «Дэльта». А што яны спявалі, пра што — гэта пытанне дзесятае. Вылучаліся на гэтым фоне дзве групы: «Хорус» пад кіраўніцтвам В. Бядзенкі з Масквы, група, якая працавала ў стылі польскага кабарэ, і група «Караван» з Эстоніі, якая без лішніх выдумак праспявала ў традыцыйным для польскай эстрады жанры гарадскога народнага шлягера. Вось, бадай, і ўсё.

Але якія б цікавыя ні былі ансамблі, а гледачы заўсёды шукаюць зорку, індывідуальнасць. Гэта самае інтрыгуючае і нечаканае, як нечаканыя калісь былі і Чэслаў Немэн, і Марыля Радовіч, і Ала Пугачова, і Валерый Лявонцьеў... Перабіраю ў памяці маладых салістаў і салістак. Хто, хто ж з іх будзе зоркаю? Вядомыя ўладальнікі першых узнагарод, але я не ўпэўнена, што іх чакае вядомасць.

Вось Марына Захарава з Калінінградскага музвучылішча. У яе вопыт выступленняў у аркестры рэстарана, добрае валоданне голасам, уменне трымацца на эстрадзе, але зноў-такі штамп нейкай усярэдненай эстраднай спявачкі са стэрэатыпным абліччам: нешта шыракаплечае ў верхняй частцы фігуры, доўгія ногі і капа касмыкаватых валасоў, выбелены грымам твар, які стаў амаль што маскаю. Джэма Халід — салістка аркестра парку «Ізмайлава» з Масквы і знешне ярчэйшая, і рэпертуар у яе больш сучасны. Яна відавочна арыентуецца на Аліцыю Маеўску — вобраз незадаволенай і ўнутрана рамантычнай сучаснай жанчыны, якая іранізуе з сябе,— вось яе гераіня. Не больш таго. Паўтарыць добрую спявачку няпроста, але недастаткова, трэба шукаць сябе. Дарэчы, пра гэта мы гутарылі з той жа Аліцыяй Маеўскай, якая спявала ў той самы дзень пасля конкурсных выступленняў. Аліцыя — прафесіянал на эстрадзе. Маючы за плячыма сур'ёзную музычную адукацыю, яна дагэтуль бярэ ўрокі вакалу у старога педагога. Яна ў пастаянным трэнінгу і пошуку, лепцы свайго твару на эстрадзе.

— Я ніколі не імкнуся трапіць на першыя месцы ў спісе шлягераў, якія штогод складаюцца на польскім радыё і ў музычных часопісах. Я ведаю, што спяваю для тых, хто не гоніцца за модаю. Можа, яны не такія прыкметныя, таму што іх перакрыкваюць больш экспансіўныя маладыя прыхільнікі вострых рытмаў, але я ведаю, што людзям падабаецца слухаць мяне, мае песні. Песні — гэта галоўнае, таму я лічу вялізнай жыццёвай удачаю, што я знайшла двух выдатных мужчын: кампазітара і паэта Войцеха Млынарскага, які вельмі тонка адчувае душу жанчыны, і Аляксандра Малішэўскага — кампазітара, які многія песні піша для мяне, у разліку на маю індывідуальнасць. Маючы такіх таленавітых аўтараў, я спакойная за мае песні...

І яшчэ Аліцыя Маеўска, тонка ўсміхнуўшыся, сказала, што ёй хацелася б пажадаць маладым савецкім выканаўцам не імкнуцца спяваць як амерыканскія, шведскія ці польскія спевакі, а спяваць па-свойму, так, як ім падказвае іх нацыянальнае пачуццё, іхняя душа. Бо ў кожным народзе менавіта гэта самабытнасць, а не адпаведнасць нейкім стандартам.

Так, вядома, думалася мне, яна кажа праўду, толькі вось чаму на сёлетнім сопацкім фестывалі так шмат было ў польскіх выканаўцаў стандартаў і так мала свайго? Што гэта, хвароба ўсёй еўрапейскай эстрады, знікненне эмацыянальнай энергіі, музычная беднасць? Вось і прадстаўніца нашай краіны проста згубілася сярод больш экстравагантных спявачак, паблякла побач з яркай Майкай Яжоўскай. Відаць, праўду кажа Маеўска, якая проста адхіляецца ад удзелу ў песенных «скачках», яна працуе як прафесіянал, набіраючы якасць, а не колькасць узнагарод, працуючы над уласным вобразам. Гэтаксама і Міхаіл Баёр — акцёр-спявак, для якога песня тая ж самая роля — як у кіно, так і на сцэне. Або Збігнеў Вадэцкі, які ўпарта трымаецца за свой імідж рамантычнага каханка ў песні. Або Марыля Радовіч — нязносная і неспакойная дзіця польскай эстрады, з горкімі складкамі каля рота. Усім ім важна, **пра што** яны спяваюць, а пасля ўжо ідзе, **як** яны спяваюць. Кожная песня выбіраецца доўга, за ёю палююць, захоўваюць у тайне, перажываюць «раманы» з кампазітарамі і паэтамі, натхняюць, захапляюць... О, гэта мастацтва, можа, яшчэ большае, чым выйсці ў ззянні незвычайных строяў і ўсмешкі на эстраду. Гэта — фінал, самае цікавае — на шляху да яго.

Песні... Бедны апынуўся фестывальны партфель. Песні ці старыя, ці не самыя цікавыя, ці такія, дзе немагчыма адысці ад стэрэатыпу выканання. Джэма Халід, напрыклад, праслухала некалькі тысяч метраў магнітафонных запісаў, перш чым знайшла «свае» песні, і ў выніку — перамагла. А многім удзельнікам фестывалю прыйшлося задаволіцца вельмі нямногімі музычнымі і вершаванымі тэкстамі, якія з велізарным спазненнем з'яўляюцца ў друку, дый не ўсюды знайшліся кваліфікаваныя спецыялісты-перакладчыкі, якія ўмеюць паставіць вымаўленне.

Напэўна, пра ўсё гэта — рэпертуар, вымаўленне, сцэнічнае аблічча — акрамя саміх выканаўцаў, павінны былі паклапаціцца і **арганізатары** фестывалю. У аргкамітэце іх 39 чалавек, амаль на кожнага ўдзельніка па кампетэнтнаму работніку з Міністэрства культуры СССР, Саюза кампазітараў, розных метадцэнтраў... Каго-каго, а кіруючых асоб у Віцебску было ажно занадта, затое кансультантаў па сутнасці — на жаль... У кулуарах жыва абмяркоўвалася, як адзін вельмі самавіты кампазітар, член журы, прывёз з сабою юную асобу і патрабаваў напярэдадні конкурсных выступленняў уключыць яе ў праграму і зрабіць лаўрэатам (!), а не сустрэўшы падтрымкі, бразнуў дзвярыма і... паехаў. Напэўна, у мэтра былі жывыя ў памяці падобныя выпадкі з мінулых гадоў. Ці вось такія фокусы. У «правінцыю» прыязджае група маскоўскіх рэжысёраў і, ані кроплі не саромеючыся, адхіляе ад вядзення канцэртаў рэжысёра, які ўклаў масу працы і намаганняў ва ўсё гэтае мерапрыемства, але мясцовага. І прымаецца наводзіць «сталічны» лоск, ды толькі не надта паспяхова, бо накладкі і няўменне так і вылазяць з усіх швоў. І справа не ў тым, што прафесійны ўзровень рэжысёра-пастаноўшчыка Валерыя Пестава ў чымсьці ніжэйшы за ўзровень масквічоў, а ў амбіцыях і нізкай культуры адносін, прасцей кажучы, у хамстве, якое выплюхнулася, калі стала ясна, што наспявае міжнароднае дзейства, запахла вялікімі ганарарамі і прэстыжам — адсюль і жаданне адцерці правінцыялаў, прыйсці на гатовае. Што і казаць, міленькія сюрпрызы. Або ідылічныя карцінкі, калі вельмі паважаная спявачка Эдзіта П'еха робіць гераічныя намаганні, каб вытрымаць да канца ролю «пасажнёвай маці» віцебскага фестывалю, не заўважаючы, што і тонус, і стыль такіх мерапрыемстваў стаў за апошнія дзесяць гадоў трохі інакшы: меней параднасці-заміласанасці, болей раскаванасці, гумару, простасці. Пра дыктараў, якія чамусьці бяруцца за вядзенне конкурсу і канцэрта, я ўжо згадвала. Акрамя адчування няёмкасці за іх камення-напружаныя паставы і твары, нічога іншага адчуць не прыйшлося. За ўсім гэтым тэлевізійна-напружаным паказальным «бляскам» неяк страціліся рэальныя падзеі ў песні, сцерліся асобы выканаўцаў, песні зліліся ў нейкі аднастайны музычны паток. А чаму б, думалася, замест блытаніны і тытанічных высілкаў па «вынаходніцтве веласіпеда» не зрабіць прасцей: загадзя паслаць аднаго-двух нашых рэжысёраў на стажыроўку ў якасці памочнікаў да польскіх рэжысёраў, якія набілі руку на зялёнагурскім і сопацкім фестывалях. Паварыліся б у сапраўднай справе, дык, можа, тут, у Віцебску, нашмат прасцей было б, не пападалі б у няёмкае становішча праз розныя драбніцы.

Пра **гасцей** фестывалю размова асобая. Мне прыйшлося гутарыць з сакратаром ЦК ПАРП Анджэем Васілеўскім, які вядзе пытанні культуры дый сам — адметны літаратар і філолаг, дык вось, ён надаваў велізарнае значэнне віцебскаму фестывалю. І гэта былі не проста пачцівыя фразы. Досыць паглядзець, **як** была прадстаўлена польская эстрада і якія сродкі і намаганні ўклалі арганізатары з польскага боку ў гэтае свята. Гэта быў колер польскай песні, зоркі першай велічыні, аркестры самага высокага класа, мастацкія выставы — спадарожнікі фестывалю, фестываль польскага кіно, на якім паказваліся самыя касавыя стужкі з пасольскіх запасаў... Польскія дзеячы культуры паставіліся да таго, што адбывалася ў Віцебску, надзвычай сур'ёзна. Дзіва што, польская ж песня, па сутнасці, упершыню атрымала такія магчымасці для прапаганды ў маштабах нашай краіны і ў Еўропе. Я нешта не памятаю выпадку, каб беларуская песня, напрыклад, атрымлівала такую магчымасць. І ўсё было арганічным — і выставы, і кінафільмы, і продаж пласцінак, і выпуск выдатнага нумара часопіса польскай эстрады на рускай мове «Форум забаў». Мы такой аператыўнасцю пахваліцца не можам. Што гэта азначае? А тое, што ў Польшчы ўсур'ёз ставяцца да прапаганды сваёй культуры і ведаюць, што ў такой важнай справе няма драбніц — і гэта ўрок, які трэба ўлічыць як мага хутчэй.



Рэдкую магчымасць атрымалі віцябчане: за некалькі дзён пазнаёміцца з жывымі легендамі польскай эстрады. Калі на вуліцы або ля гатэля можна было падысці і пагаварыць з Марыляй Радовіч ці Халінай Францковяк, убачыць, як яны трымаюцца на сцэне і за кулісамі,— гэта не толькі цікава, але і карысна. Калі разумееш, што ў любым відзе творчасці артысты высокага класа паважаюць сябе і сваіх слухачоў, не апускаючыся да патурання публіцы. Песні іхнія сур'ёзныя, ім усё цяжэй жартуецца, бо артыст не жыве па-за праблемамі сваёй краіны, усё больш горычы, пытанняў без адказаў у іхніх песнях. І калі Марыля Радовіч спявае песню Высоцкага «Кони привередливые» — гэта ж яна і пра сябе спявае, пра многіх сваіх калег...

І нарэшце пра **гаспадароў**. Іх можна павіншаваць. Першы блін выйшаў не такі ўжо дрэнны. Не ведаю, як у каго, а ў мяне выклікалі павагу тыя каласальныя намаганні, якія ўклалі «бацькі» горада ў арганізацыю фестывалю і ўсяго таго, што яго акружае. Тэрмінова залаталі прарэхі на дарогах, падрамантавалі фасады будынкаў, штодня горад мылі палівальныя машыны, ён проста зіхацеў, сервіс зрабіў усё, на што здатны, і нават болей. У канцы фестывалю мне стаў мроіцца нейкі дзіўны, замучаны выгляд у буфетчыц і прадаўшчыц марожанага — яны былі стомлены маральна. Не вытрымлівала тэхніка, не толькі людзі. У артыстычным бары перагарэў каляровы тэлевізар, закляніла камп'ютэры, усталяваныя ў прэс-цэнтры для аблягчэння працы шматлікіх журналістаў... Спакой захоўвалі толькі ахоўнікі парадку, якіх было не злічыць, і, вядома, фарцоўшчыкі. Ужо на якія хітрыкі не ішлі арганізатары — кожны госць і ўдзельнік фестывалю хадзіў абвешаны некалькімі «непадробнымі» пасведчаннямі, каля ўвахода ў «форум» трайная праверка. У час канцэрта мой калега з мясцовай газеты, агледзеўшы залу, ахнуў:

— Дык тут жа ўсе з пасведчаннямі ўдзельнікаў. Цікава, чаго?

Ці варты быў фестываль, ягоны вынік такіх намаганняў, пыталася я ў сябе і ў іншых. Адказы былі розныя. Багата што выклікала сумненні. Бадай, такое ўзрушэнне для горада не прайшло бясследна. «Людзям патрэбна свята, хоць зрэдку»,— казала любімая гераіня Аляксандра Грына. І гэта праўда.





Пра Ленінградскі клуб карыкатурыстаў можна спяваць і апавядаць з дапамогай прыметнікаў «смешны», «цікавы», «дасціпны», «вясёлы», «інтэлектуальны», «загадкавы», а можна і з дапамогай лічбаў, фактаў, якія самі за сябе гавораць і за крытыкаў-мастацтвазнаўцаў. Другі шлях больш аб'ектыўны. Ім і пакарыстаемся, каб запоўніць нестандартную анкету клуба.

Год нараджэння — 1974.

Месца нараджэння — Ленінград, часопіс «Аврора».

Колькасць тых, хто малюе,— 22,

а тых, хто робіць астатнюю (падчас чарнавую) работу,— 4.

Публікацыі — тысячы карыкатур у газетах і часопісах.

Удзел у выстаўках — 100 міжнародных, 40 саюзных.

Прызы і ўзнагароды — 40 за мяжой, 20 — у СССР.

Колькасць атрыманых гузоў — таямніца, якую нельга выдаваць.

Магутнасць клуба — 88 пегаса-сіл.

Дэвіз — «Карыкатура — запрашэнне да роздуму».

Стаўленне да гумару — іранічнае.

Да іроніі — паважлівае.

Да сатыры — філасофскае.

Да трагікамедыі — аптымістычнае.

Да тых, хто не разумее гумару,— з разуменнем.

Да смеху з сябе самога — як да вельмі дзейснага лекавага прэпарату, якога не купіш у аптэцы.

Да карыкатурыстаў іншых гарадоў і клубаў — як да гульцоў аднае баскетбольнае каманды.

Планы на бліжэйшую будучыню — альбом лепшых карыкатур «Ніводнага няспісанага аркуша», які выходзіць у выдавецтве «Ойленшпігель» (ГДР, Берлін).

Планы на далёкую будучыню — міжгалактычная выстава карыкатур з удзелам прышэльцаў з космасу.

Склаў анкету Міхаіл КУЗЬМІН













# ГЭТЫ ЧАРОЎНЫ ДЖУТ

Таццяна ЧАРНЯЎСКАЯ

ПАГАВОРЫМ ПРА ДЖЫНСЫ — гэты феномен моды. Тканіну гэтую выраблялі яшчэ ў часы сярэдневякоўя, але ішла яна тады пераважна на ветразі. Сцвярджаюць, што джынсавыя ветразі стаялі на «Санта-Марыі» Хрыстафора Калумба. У сярэдзіне мінулага стагоддзя амерыканскі фабрыкант Леві Страўс паспяхова прадаў у заходніх штатах першую партыю мужчынскіх штаноў з моцнай баваўнянай тканіны колеру індыга. Натхнёны, ён арганізаваў масавую вытворчасць такіх штаноў, тканіну на іх прывозілі з горада Німа, што і дало ёй назву «дэнім» («з Німа»). Так з'явіліся джынсы, якія на многія дзесяцігоддзі сталі (разам з такімі самымі курткамі) вопраткаю рабочага чалавека. А фірма «Леві Страўс» раскінула з тае пары сетку сваіх прадпрыемстваў па ўсім свеце.

Росквіт руху хіпі ў 60-х гадах нашага стагоддзя ператварыў джынсы ў неадменны атрыбут вопраткі маладога пратэстуючага чалавека. Тэлебачанне пастаянна паказвала моладзь у заношаных сініх джутавых штанах, якія добра прыставалі да фігуры, і гэта стала выдатнай рэкламаю. Неўзабаве акрамя маладых і пратэстуючых джынсы сталі ахвотна надзяваць усе, у тым ліку і тыя, хто зусім не збіраўся бунтаваць. Гэты час і спарадзіў «джынсавы» стыль. З дэніма сталі шыць усе віды вопраткі (апроч, хіба што, бялізны), а таксама абутак, сумкі, чамаданы.

Стыль гэтай адзежы—вестэрн—займае важнае месца ў калекцыях мадэльераў усяго свету і ўключае ў сябе практычна ўвесь сучасны асартымент. Ён нясе ў сабе элементы і дэкаратыўныя дэталі каўбойскай адзежы: характэрныя швы, кішэні, металічная фурнітура. На зіму прыдуманы ўцепленыя курткі і паліто на штучным футры ці трыкатажы. Курткі рознае даўжыні. Ва ўцепленых рэчах дэнім цудоўна спалучаецца са штучным футрам: шэры дэнім — з яркім, сіні — з белым, бежавым. Курткі, пінжакі, блузоны могуць

ставіцца на яркія аднатонныя ці паласатыя падкладкі з баваўнянай тканіны. Дэнім увогуле выдатна спалучаецца з іншымі баваўнянымі тканінамі. Акрамя сіняга, афарбаванага прыроднай фарбаю індыга, дэнім бывае белы, шэры, чорны, часам уваходзіць у моду набіўка на ім. Цяпер вялікая частка рэчаў з дэніма апрацоўваецца рознымі спосабамі, у выніку «мармуркі» («варёнки», «долбленки») стракацяць на нашых вуліцах. У афармленні дэніма выкарыстоўваюцца і палоска (піжамная, матрасная), і клетка, і раслінныя і абстрактныя малюнкі, нанесеныя спосабам пячаткі.

Джынсы ў адпаведнасці з моднаю тэндэнцыяй сталі больш аб'ёмныя ў верхняй частцы, са складкамі, завужаныя ўнізе. Даўжыня як звычайная, так і ўкарочаная (шорты — самы апошні варыянт). Спадніцы пераважна прамога сілуэту рознай даўжыні, часта нашмат вышэй каленяў. Арганічнымі з'яўляюцца металічныя, замшавыя, скураныя дапаўненні.

Гадамі абмяркоўвалася ў нас пытанне: дзе можна насіць джынсы, дзе не! Але накуль ішлі спрэчкі, сфера джынсаў пашыралася. Гэта зусім зразумела, калі ўлічыць, што з уласна рабочай адзежы яны сталі паўнапраўным кампанентам сучаснага моднага асартыменту. Занадта заношаныя і залатаныя падыходзяць для фізічнай працы на свежым паветры, загарадняга адпачынку, з іх можна зрабіць шорты. Але калі вы хочаце выявіць «волю свайго духу» і пайсці ў іх не на авангардысцкую пастаноўку маладзёжнага тэатра ці канцэрт рок-музыкі, а на класічную «Жызель» ці вечар камернай музыкі, я прапаную падняцца яшчэ на адну прыступку «волі духу» і надзець няхай не экстрамодны, але адпрасаваны касцюм з кашуляю і гальштукам альбо сукенку, якія больш адпавядаюць уяўленню аб добрым гусце.

0 0,2 0,4 0,6 0,8 1,0


Дзе мы нарадзіліся
Тэкст Уладзіміра Цвяткова
Малюнкі Аляксандра Каршакевіча


Я спяваю песеньку пра князя...


Які здзекваецца з людзей...


Здзекваецца не адзін...


А са сваімі прыслугачамі.




Нешта скамарохі асмялелі!
Цікава...


Кажуць, скамарохі пра князя песеньку спяваюць...


. Дык не трэба чакаць...


Князь ёсць князь...






























Цана 25 кап.
Індэкс 74824